• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

18 чэрвеня 1996 г. аўторак, №№ 153—154 (22956—22957)



# ЗВЯЗДА

## Розгалас

### ТРАГЕДЫЯ Ў ДРАЗДАХ, ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ?

**Прызнаюся, што калі 7 мая гэтага года ўдалося знайсці першыя астанкі ахвяр расстрэлаў ля Кайдасавай гары пад Мінскам, дык чакаў бурнай рэакцыі з боку сродкаў масавай інфармацыі, спецыялістаў-гісторыкаў, уладаў, грамадскасці... Усё ж 10000 загінуўшых, большая частка з якіх — мінчане... Але акрамя «Звязды», — маўчанне.**

На памяць міжволі прыходзяць нядаўнія падзеі вакол ахвяр расстрэлаў у Курапатах. Колькі вакол гэтага было ўсіх і ўсяго! А Катынская трагедыя? Вось ужо больш за 50 гадоў не змаўкаюць званы памяці аб паляках — ахвярах гэтай вар'яцкай бойні, якую ўчынілі сталінскія каты. Там, у Катыні, было расстраляна больш як 4300 палякаў. Гэтае месца стала месцам паломніцтва, месцам памяці і смутку, месцам паклонення польскага народа. Нагадаю, што Камісія польскага Чырвонага Крыжа з 15 красавіка па 7 чэрвеня 1943 года правяла ў Катыні эксгумацыю астанкаў 4151 загінуўшага, прычым ідэнтыфікавана было 2730(!) з іх. Дзве тысячы семсот трыццаць чалавек зноў набылі свае імёны, сваякоў, Радзіма даведалася пра лёс сваіх сыноў...

У нас пад Мінскам, ды што там пад Мінскам — цяпер гэта Мінск, у рове ляжыць 10.000 нашых грамадзян, ляжаць невядомымі ўжо 55 гадоў. Калі былі знойдзены іх астанкі, дык думка была толькі адна — трэба па-людску ўвекавечыць іх памяць: пазначыць на мясцовасці, узяць пад ахову, паставіць помнік... Але чым даўжэй працягваліся раскопкі, чым больш я вывучаў дакументы, якія датычацца гэтай варварскай акцыі фашыстаў, чым больш уважліва ўслухоўваўся ў расказы відавочцаў, тым усё часцей і часцей лавіў сябе на думцы, што мы вельмі мала ведаем пра трагедыю, якая адбылася ў канцы чэрвеня-ліпеня ля падножжа Кайдасавай гары. Хто гэтыя людзі, чые астанкі бялеюць у раскопах, зробленых салдатамі спецыяльнай пошукавай роты МА РБ? Чаму невядомыя іх імёны. Ды і ці спрабаваў хто-небудзь за гэтыя 55 гадоў іх устанавіць?

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## БАНКІР СТАЎ ЗАЛОЖНІКАМ ТЭРАРЫСТА, А ТЭРАРЫСТ — НЕДАЛЁКІХ УЛАСНЫХ МАРАЎ

**У мінулую пятніцу людзі, якія яшчэ ў аўторак і сераду чыталі падрабязныя справаздачы аб захопе заложнікаў у Мінску, бачылі гэтыя кадры па тэлебачанні, сталі сведкамі чарговага насілля, але ўжо новага тэрарыста: ён паспрабаваў па прыкладзенай сцежцы свайго папярэдніка захапіць заложніка, аднак «выйсці сухім з вады». Падзеі адбываліся ў Кобрыне. Праўда, у адрозненне ад сталічнай справы, тэрарысту пакуль удалося абысціся лёгкім спалохам: яго супрацоўнікі міліцыі захапілі жывым.**

Каб даведацца аб падрабязнасцях таго, што адбывалася там, карэспандэнт «Звязды» звязаўся з начальнікам РАУС Кобрына Яўгенам Грамыкам. І вось што нам стала вядома.

Раніцай 14 чэрвеня, каля 9 гадзін, у кабінет да кіраўніка філіяла «Аграпрамбанка» Уладзіміра Падкавырава зайшоў малады мужчына і без лішніх размоў усеўся на стол. Папярэдзіўшы абуранае пытанне кіраўніка наконт яго паводзінаў, тэрарыст у якасці аргумента прад'явіў выбуховае прыстасаванне і адразу ж запатрабаваў выкуп за жыццё — 300 мільёнаў рублёў. Нягледзячы на жаданне «наведвальніка» захаваць прычыну свайго візіту ў банк у тайне (ён нават падрыхтаваў і своеасаблівы шлях да адступлення, аб якім чытачы даведаюцца крыху пазней), у раённы аддзел унутраных спраў паступіла паведамленне ад дзяжурнага міліцыянера, што спрацаваў сігнал трывогі фінансавай установы. Асабовы састаў аддзела адразу ж быў узняты па трывозе і на працягу 5—10 хвілін блакіраваў усе пад'езды да філіяла, памяшканні банка, якія прылягалі да кабінета кіраўніка, таксама занялі свае месцы экіпіроўваныя па абставінах супрацоўнікі падраздзяленняў МУС і КДБ. Справа ўскладнялася тым, што будынак філіяла ў гэтым раёне быў самым высокім, а на вокнах віселі жалюзі. У выніку гэтага група захопу не магла адсочваць падзеі, якія адбываліся ў кабінеце заложніка. Сувязь з кіраўніком і тэрарыстам прыйшлося трымаць праз касірку, якая і павінна была перадаць грошы ў якасці выкупу. У той момант, калі касірка, папярэдзіўшы злачынцу загадзя, зайшла ў кабінет, каб распішыцца з ім, следам за ёй уварваліся і група захопу, якую ўзначаліў капітан міліцыі Ждан. Яму, дарэчы, і ўдалося скруціць тэрарыста па руках, а выбуховае ж устройства паляцела за акно. Аперацыя была праведзена за 40 хвілін.

І тут, бадай, пра самае цікавае ў гэтай справе: у ходзе вобыску злачынцы пад яго верхняй вопраткай была выяўлена яшчэ адна — жаночая. Жаночыя куртка, штаны, парык. Твар жа тэрарыста быў пакрыты пудрай — у кабінет да кіраўніка зайшоў мужчына, а выйсці павінна была жанчына. Спроба таннай пастаноўкі баевіка. Аднак, як бачым, рэжысёр і выканаўца галоўнай ролі аказаўся не на вышыні.

«Герою» захопу заложніка 22 з паловай гады. Нідзе не працуе. Калісьці вучыўся ў ваенным вучылішчы, чым, прынамсі, тлумачыцца яго «слабасць» да выбуховых устройстваў. Адна з самых вялікіх мараў — жыць шыкоўна, прыкладаючы для гэтага як мага менш намаганняў. Спадзяванні на беспакаранасць...

Зараз, як паведаміў нашай газеце старшы следчы міжраённай пракуратуры Кобрына Сяргей Літвінчук, праводзіцца следства, дапрошваюцца сведкі, затрыманы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



*Копысь. Няшмат на Беларусі такіх месцаў, радаслоўная якіх бярэ свой пачатак у сівой даўніне — па пісьмовых крыніцах, Копысі больш як дзевяць стагоддзяў. Менавіта такая багатая біяграфія і дала падставу наладзіць тут рэспубліканскае тэатралізаванае свята. Адбылося яно ў гэту суботу. Шмат намаганняў прыклалі Беларускі фонд культуры, Віцебскі абласны, Аршанскія гарадскі і раённы выканкомы, каб па-сапраўднаму святочным застаўся гэты дзень у памяці жыхароў Копысі і шматлікіх гасцей. Кірмаш і выстаўка рамёстваў, канцэрт і гістарычна-мастацкае прадстаўленне, перасоўная музейная экспазіцыя і вясёлыя народныя гульні — усе зліліся тут у агульную святочную плынь, якая адлюстравала падзеі далёкага мінулага і расказ пра сённяшні дзень жыхароў гэтага паселішча на крутым беразе Дняпра. У бліжэйшых нумарах «Звязда» больш дэталёва прадставіць партрэт старажытнай вёскі, а сёння ўвазе чытачоў прапануецца адзін з фотаздымкаў, зробленых у дзень свята. Ганчар Міхаіл Васільевіч ШЭКІН (на фотаздымку) ахвотна знаёміў усіх жадаючых з сакрэтамі сваёй справы.*

*Яўген ПЯСЕЦКІ.*

### «ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»

## «УДЗЯЧНЫЯ МЫ, АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ПАВІННЫ БЫЦЬ І ЗА 100 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ...»

Словы гэтыя давялося пачуць ад аднаго з рабочых завода імя Леніна. Ён, у прыватнасці, заўважыў, што зарплату не атрымліваў яшчэ за красавік. А ў адказ на пытанне, чаго ж чакае (у сэнсе матэрыяльнай падтрымкі) у блізкім будучым, сказаў:

— Не ведаю, мо заўтра-паслязаўтра і пачнуць выплачваць грошы. Але баюся, што па частках. Выходзіць, што ўдзячныя мы павінны быць і за 100 тысяч рублёў...

— А якая ж у вас зарплата?

— За красавік налічылі 900 тысяч з нечым... Квіток і за май атрымаў. А вось грошы — чакаю.

Крыху лепшая становішча на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній. Тут яшчэ не выплачвалі зарплату ўсяго толькі за май. Хаця, згодна з графікам выплаты заработнай платы, павінны былі болей як тыдзень назад аддаць людзям заробленае.

Сітуацыя на некаторых іншых мінскіх прадпрыемствах:

— завод халадзільнікаў (зараз Акцыянернае таварыства «Атлант») — «усё добра, праблем з выплатай няма. Своечасова выдаём і аванс, і зарплату»;

— трактарны — «на дадзены момант гэтыя праблемы вырашаем, дзесьці дзявяноста працэнтаў належнага заробку выплацілі»;

— арэнднае прадпрыемства «Крыніца» (добра вядомы многім прыхільнікам піва па шматлікіх марках гэтага напою) — «усё вельмі добра, у нас лепш за ўсіх. Няма праблемы, проста няма»;

— матавелазавод — «на 1 чэрвеня запазычанасці няма. Заробак выплацілі своечасова, нават крыху раней»;

— завод «Белпласт» — «за красавік разлічыліся поўнасцю, а вось за май выплацілі толькі так званую «спажывецкую карзінку», якая ў грашовым пераліку каштуе 540—634 тысячы беларускіх рублёў. Пра астатнія выплаты пакуль невядома»;

— акцыянернае таварыства «Сукно» — «за май разлічыліся з працоўнымі. Аднак хацелася б адзначыць, што заробак мы выплацілі, а вось падаткі засталіся як запазычанасць прадпрыемства. Разумееце, наш тавар насельніцтва не вельмі кідаецца набываць. Так што, пакуль плацім, а як далей будзе — невядома».

**Напрыканцы звязаліся мы з абутковай фабрыкай «Прамень», дзе наш настрой і сапсавалі, адказаўшы, што заробак за красавік плануюць выплаціць ў канцы ліпеня. Прычына ў тым, што «Прамень» распаўся на тры сумесныя прадпрыемствы. А даўгі не падзялілі пароўну, і атрымалася такое дрэннае становішча ў нашых абутнікоў. Гора ды і толькі.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ»!***

***Нагадваем вам, што ў сераду, 19 чэрвеня, закончыцца падпіска на нашу газету. Падпіска праводзіцца ўсімі аддзяленнямі сувязі і прымаецца: на адзін месяц (цана 13.600 рублёў); на квартал (40.800 руб.); на паўгода (81.600 руб.).***

***Робячы свой выбар, памятайце: «ЗВЯЗДА» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя!***

## ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭЎСЯ З ПРАДСТАЎНІКАМІ МАЛАДЗЁЖНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

17 чэрвеня А. Лукашэнка ў сваёй рэзідэнцыі сустрэўся з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый. У пачатку сустрэчы ён адзначыў, што яго непакоіць праяўленне нігілізму з боку прадстаўнікоў маладых пакаленняў, негатыўных адносінаў да ўлады. На яго думку, моладзь выступае «разменнай манетай» у палітычных гульнях апошніх часоў, ёй прывіваюць нездаволенасць, выводзяць на мітынгі.

— Я не хачу, каб моладзь выступала супраць беларускага Прэзідэнта. Я сам малады Прэзідэнт, — гаварыў А. Лукашэнка. — Справа майго гонару — знайсці паразуменне з моладдзю.

З тым, каб знайсці агульную мову з моладдзю, беларускі кіраўнік падрыхтаваў некалькі праграм. Ужо існуе адпаведны праект указа Прэзідэнта, у якім мяркуецца прыняць рашэнне аб выдзяленні Камітэта па справах моладзі ў асобнае міністэрства. Прэзідэнт зазначыў, што ён гатовы ўнесці свой уклад у вырашэнне маладзёжных праблем. У прыватнасці жыллёвай. Ён сказаў, што можа знайсці каля 30 мільярдаў рублёў для жыллёвага будаўніцтва на карысць малазабяспечаных маладых сем'яў, прычым грошы гэтыя не будуць браццa з бюджэту... Адносна праблемы адукацыі А. Лукашэнка заявіў, што леташні жорсткі падыход да кантролю паступлення ў ВНУ Беларусі захаваецца і сёлета, а магчыма, стане яшчэ больш жорсткім. Асобна А. Лукашэнка гатовы заняцца праблемамі студэнцкай моладзі, намечана яго сустрэча ў БДУ, а таксама падпісанне ўказа па развіццю галоўнага універсітэта Беларусі.

У адносінах з маладзёжнымі арганізацыямі, на думку А. Лукашэнкі, перашкаджае тое, што іх надта многа і яны не арганізаваны ў нейкую агульную структуру. Прэзідэнт прапанаваў маладзёжным арганізацыям стварыць сваю канфедэрацыю па прынцыпу канфедэрацыі творчых саюзаў.

— З 60 лідэрамі арганізацый я сустрэцца не змагу нават за тры апошнія гады майго прэзідэнцтва, — зазначыў А. Лукашэнка.

Потым выступілі прадстаўнікі Камітэта па справах моладзі, арганізацый і маладзёжных саюзаў. Яны гаварылі аб сваіх канкрэтных праблемах: аб неабходнасці аднаўлення дзейнасці МЖК, працаўладкавання студэнтаў у летні перыяд (цяпер ёсць магчымасць уладкаваць у будатрадах 6 тысяч студэнтаў, а трэба было б 60 тысяч), неабходнасць падтрымаць маладое прадпрымальніцтва і інш.

Акрамя таго, А. Лукашэнка адказаў на прэтэнзіі да выканаўчай улады наконт адсутнасці праграмы рэформаў і саміх рэформаў. Праграм, на яго думку, было шмат, але большасць з іх напісана і напісана. Урад жа выконвае прынятую ў 1994 годзе антыкрызісную праграму. Эканамічнай стабілізацыі ў Беларусі, на думку А. Лукашэнкі, перашкаджаюць падзеі ў Расіі, дзе эканоміка на сённяшні дзень застыла і дзе не купляюць беларускую прадукцыю. Акрамя таго, паводле слоў Прэзідэнта, насельніцтва Беларусі негатыўна ставіцца да такіх складальнікаў эканамічнай рэформы, як лібералізацыя цэн, прыватызацыя буйных прадпрыемстваў, увядзенне права прыватнай уласнасці на зямлю.

— Трэба захаваць дзяржаву і даць маладым людзям магчымасць працаваць і зарабляць.

— Вы будзеце «ўкалваць» сколькі хочаце і дзе хочаце, і што заробіце — будзе ваша,— зазначыў А. Лукашэнка, звяртаючыся да моладзі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



Алег СЛУКА:

# «МЫ ВЕДАЕМ АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ, ЯКОЕ ГРАМАДСТВА БУДУЕМ І ЯКОЕ ЖЫЦЦЁ ПАКІНЕМ У СПАДЧЫНУ НАШЧАДКАМ»

**З памочнікам Прэзідэнта Беларусі, доктарам гістарычных навук, прафесарам Алегам СЛУКОЙ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса».**

**— Алег Георгіевіч! У адным са сваіх выступленняў у парламенце Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі заявіў аб неабходнасці народу рэспублікі і яе ўраду вызначыцца з адказамі на пытанні: у якім напрамку рухаецца Беларусь і якое грамадства ў ёй будуецца? Ці ведаеце адказы на пастаўленыя пытанні вы, як памочнік кіраўніка дзяржавы?**

— Цвёрда перакананы ў адным: напрамак развіцця Беларусі не можа супярэчыць працэсу развіцця сусветнай цывілізацыі. Такі дысананс будзе несці рэспубліцы страшэнныя нягоды. Такой думкі прытрымліваецца і група вучоных, якая завяршыла работу над праектам дакумента, які атрымаў назву «Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці». Гэта праца заклікана даць адказы на пытанні: якое грамадства мы будуем? На якіх прынцыпах яно павінна існаваць? Якое жыццё мы пакінем у спадчыну нашым дзецям і ўнукам?

Падрыхтаваны праект дакумента стане філасофскай і метадалагічнай асновай у складанні далейшых сацыяльна-эканамічных праграм развіцця Беларусі. У ім мы спрабавалі абгрунтаваць правільнасць зробленага кіраўніцтвам рэспублікі выбару на пабудову ў Беларусі дзяржавы з рэгулюемымі рыначнымі адносінамі.

Беларуская дзяржаўнасць павінна мець таксама навукова абгрунтаваную ідэалагічную сістэму, за ўдасканаленне якой будуць цывілізаваным спосабам спаборнічаць розныя грамадскія сілы.

Што датычыць самога праекта падрыхтаванага дакумента, то, думаю, будзе памылкай называць яго «ідэалогіяй дзяржавы». Такое паняцце можа быць звязана з ідэалогіяй кіруючага ў дадзены момант урада і стаць асновай для ідэйнай манаполіі. Паняцце ідэалогіі ў гэтым сэнсе нясе негатыўнае адценне, паколькі з'яўляецца адной з формаў класавай барацьбы. Са з'яўленнем у Беларусі дэмакратычнай формы дзяржавы з'явілася магчымасць уліку інтарэсаў усіх асноўных слаёў насельніцтва. Дэмакратыя патрабуе, каб ні адзін клас, партыя ці іншая грамадская група не навязвалі дзяржаве сваёй ідэалогіі ў якасці пануючай.

Ідэалогія дзяржаўнасці — гэта больш ці менш стабільнае ўтварэнне, якое дзейнічае ў доўгатэрміновай перспектыве і мала залежыць ад змены ўрада. Яго можна назваць нацыянальным ідэалам, марай. Калі амерыканцы маюць права гаварыць аб «амерыканскай мары», то чаму мы не можам гаварыць аб «мары беларускай», якая ўяўляецца нам як свабода, дабрабыт і стабільнасць? Галоўнае ў тым, якая яна, гэта ідэалогія: сучасная ці архаічная, сфармулявана з дапамогай навукі ці стыхійна, распаўсюджана ў грамадстве шырока ці вузка. У адпаведнасці з гэтым і будзе канструявацца сучасная мадэль развіцця беларускага грамадства, якая будзе адмаўляць як эгаістычны капіталізм, так і таталітарны сацыялізм. Гэта сістэма, на нашу думку, азначае выбар на карысць цывілізаванага грамадства, асноўнымі кампанентамі якога стануць сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка, прававая дзяржава і плюралістычнае грамадзянскае грамадства.

**— Якія, на думку распрацоўшчыкаў праекта «Ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці», прычыны крызіснага стану рэспублікі?**

— Не выключаю, што адсутнасць да апошняга часу ў Беларусі поўнага і яснага адказу на пытанне, «якое грамадства мы будуем», магло стаць адной з прычын абвостранага крызісу. У рэспубліцы прагрэсіруе падзенне ўзроўню жыцця. Патухае вытворчая сфера, ў якой занята большасць працаздольнага насельніцтва. У перыядзе застою знаходзяцца адукацыя, навука, ахова здароўя і культура.

Другой з прычын хваравітага стану рэспублікі лічу фактар палітычнай, эканамічнай і ідэйнай манаполіі, якая існавала ў перыяд «развітога сацыялізму». Гэта сістэма забяспечыла паскоранае развіццё эканомікі ва ўмовах індустрыялізацыі і аказалася не ў стане вырашыць новыя грамадскія праблемы ва ўмовах навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Трэцяя прычына крызісу — неадэкватная дыягностыка і рэцэптура перабудовы савецкага грамадства. У аснове гэтай дыягностыкі ляжалі ваяўнічы антыкамунізм і нігілізм да ўсіх атрыбутаў гісторыі СССР, а рэцэптам стала некрытычна ўспрынятая ліберальна- капіталістычная мадэль грамадства.

Трэба заўважыць, што сваю негатыўную ролю адыграў у рэспубліцы і такі модны некалькі дзесяцігоддзяў назад тэзіс аб зблíжэнні капіталізму і сацыялізму, які меў у гісторыі развіцця дзяржаў два вынікі. У краінах Захаду стала здзейсненым фактам збліжэнне лепшых гістарычных рысаў капіталізму і сацыялізму: спаборніцтва і прадпрымальнасці аднаго і планамернасці і гуманістычных ідэалаў — другога. У краінах жа былога СССР усё адбылося наадварот: адбыўся сінтэз горшых рысаў капіталістычнай і сацыялістычнай мадэляў. Ад першай было ўкаранёна імкненне да нажывы, а ад другой — дзяржаўная манаполія і бюракратызм.

**— Ці ёсць спосаб выправіць допушчаныя памылкі? Ці вызначаны шлях, які праз некалькі гадоў зноў не будзе прызнаны ідэалагічна памылковым?**

— Для адказу на гэтыя пытанні і паслужаць сфармуляваныя ў праекце ідэалагічныя формулы беларускай дзяржаўнасці. Першая з іх: Беларусь — суверэнная дзяржава. У гэтыя словы закладзена здольнасць рэспублікі самастойна вызначаць ключавыя напрамкі сваёй унутранай і знешняй палітыкі.

У другой формуле Беларусь уяўляецца нам як дзяржава, адкрытая для ўсіх прагрэсіўных тэндэнцый. Наша ж рэспубліка — гэта частка сусветнага грамадства. Яна хоча добрасуседскіх адносінаў з усімі краінамі. Асвойвае асноўныя каштоўнасці сучаснай цывілізацыі.

Рэспубліка Беларусь — свабодная дзяржава. У нас дасягнуты пэўны ўзровень палітычных свабод. За дзяржаўную ўладу канкурыруюць розныя палітычныя сілы. Пытанне аб фарміраванні органаў улады вырашаецца пры дапамозе выбараў на альтэрнатыўнай аснове. Разам з тым у грамадстве пагаршаецца стан у галіне эканамічных і сацыяльных свабод. Вялікая колькасць людзей не свабодныя ад беднасці і жабрацтва, злачыннасці, ад няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Будаваць Беларусь як свабодную дзяржаву ў гэтых умовах — значыць узмацняць паўнацэннасць жыццёвай прасторы грамадзян.

Беларусь бачыцца таксама як дзяржава сацыяльнай справядлівасці. З гэтай формулы вынікае разуменне небяспекі празмернай сацыяльнай палярызацыі грамадзян у дзяржаве. Асаблівы адрасат гэтай ідэі — непамерна багатыя ці незаконна разбагацеўшыя слаі насельніцтва. Распрацоўшчыкі перакананы, што роўнасці ў аплаце працы грамадзян быць не павінна. Дыферэнцыяцыя ў даходах непазбежная. Але розніца ў аплаце, як паказвае сусветны вопыт, не павінна перавышаць 5-6 разоў.

Беларусь уяўляецца таксама як дэмакратычная прававая дзяржава. На жаль, трэба прызнаць, што сітуацыя з прававой сістэмай у рэспубліцы сумная. Мы маем недапрацаваную Канстытуцыю, якая, надзяліўшы Прэзідэнта пэўнымі паўнамоцтвамі, не прадугледжвае механізма іх рэалізацыі. Больш таго, Асноўны закон аказаўся негатовым да сацыяльнага расслаення грамадства. Таму тэзіс аб прававой дзяржаве павінен перш за ўсё азначаць удасканаленне прававой сістэмы.

Наша рэспубліка выступае таксама ў ролі рухавіка эканамічнай інтэграцыі краін былога СССР. Гэта можна абгрунтаваць тым, што Еўрапейскае супольніцтва набыло на бліжэйшае дзесяцігоддзе закончаныя абрысы. У ім нашай краіне месца ўдзелена няшмат. Больш таго, магчымае расшырэнне НАТО яшчэ больш ускладніць сітуацыю, бо Беларусь можа быць прынята туды толькі цаной рэзкага пагаршэння адносінаў з Расіяй, што непрымальна.

Акрамя таго, Беларусь і Расія стаяць перад аднолькавай праблемай структурнай перабудовы эканомікі. Гэта патрабуе росту капіталаўкладанняў, якія з Захаду ў належным аб'ёме ніколі не паступяць без пагрозы нашаму суверэнітэту. Асноўныя праблемы прыйдзецца вырашаць самім. Таму аб'ектыўна апраўдана самае цеснае эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі і Расіі ў галіне абмену тэхналогіямі, бяспошліннага гандлю, захавання і ўмацавання традыцыйных сувязей у галіне падзелу працы.

Згодна з іншымі ідэалагічнымі формуламі, Беларусь нам бачыцца як маладая дзяржава са старажытнымі традыцыямі, дзяржава салідарная, адукаваная, культурная, усходнеславянская, мэтанакіраваная.

**— З улікам гэтых формул якія, па-вашаму, галоўныя мэты дзяржаўнай дзейнасці?**

— Нам бачыцца, што дзяржаўная дзейнасць павінна праследаваць тры задачы: задавальненне патрэбнасцей грамадзян, захаванне сродкаў вытворчасці, дасягненне высокіх вынікаў у гаспадарчай дзейнасці.

Для дасягнення гэтых мэт у першую чаргу трэба вывучыць попыт і прапановы на замежных рынках, каб заняць у гандлёвым міжнародным абмене сваю «нішу».

Другі крок у вызначэнні мэтаў развіцця будзе заключацца ў вызначэнні тэхнічных магчымасцей асваення знешніх рынкаў.

Трэці крок звязаны з рэсурса-фінансавым забеспячэннем магчымасці рэалізацыі намечаных стратэгій.

Усе тры галіны выбару дзяржаўных мэтаў вельмі цесна звязаны паміж сабой. Гэта асаблівасць выклікае неабходнасць стварэння нейкага функцыянальнага органа, які стаіць над імі. Канстытуцыйна Беларусь з'яўляецца дзяржавай, у якой кіраўніком выканаўчай улады з'яўляецца Прэзідэнт. Адсюль вынікае, што органам стратэгічнага выбару мэтаў павінна стаць Кіраўніцтва прагназіравання і стратэгічнага планавання пры Прэзідэнце. Тым самым на практыцы будзе рэалізоўвацца адзін з важнейшых тэзісаў беларускай дзяржаўнасці: «Прэзідэнт — лідэр абнаўлення і развіцця».

**— Падрыхтаваны вамі праект дакумента ўтрымлівае часткі, у якіх сфармулявана ваша бачанне метадаў рэалізацыі сацыяльна-эканамічнай палітыкі на пераходным этапе фарміравання рыначных адносінаў і мадэлі раздзяржаўлення і структурнай перабудовы прамысловасці. Якія вашы прапановы ў гэтым плане?**

— На пераходным этапе ад поўнасцю цэнтралізаванай планавай рыначнай эканомікі рэспубліка сутыкнулася з неабходнасцю вырашэння цэлага шэрага праблем. Імклівае разбурэнне вытворчай базы абвастрае праблемы занятасці і беспрацоўя. Стварэнне новых рабочых месцаў становіцца звышважнай задачай. У сувязі са згортваннем будаўніцтва, рэзкім пагаршэннем матэрыяльнага дабрабыту сем'яў рэзка абвастрылася жыллёвая праблема. «Халодная вайна», што цягнулася дзесяцігоддзямі на палітычнай арэне, таксама пакінула цяжкую спадчыну прамысловасці рэспублікі, якая ў многім арыентавалася на вытворчасць сродкаў узбраення. Праблема канверсіі — адна з асноўных у вырашэнні задач эканамічных рэформаў.

Складанасць цяперашняга стану рэспублікі заключаецца, на наш погляд, у тым, што ўсе вышэйпералічаныя і многія іншыя праблемы пераплецены паміж сабой самым цесным чынам і ніякую з іх нельга вырашыць у адрыве ад іншых. У гэтых умовах неабходны такі план канкрэтных дзеянняў, рэалізацыя кожнага кроку якога садзейнічала б вырашэнню кожнай праблемы і не стварала новых.

Нам бачыцца, што гэтаму патрабаванню ў поўнай меры адпавядае мэтавая ўстаноўка на фарміраванне ў рэспубліцы малых тэрытарыяльна-вытворчых комплексаў (МТВК). Тыпавы МТВК павінен уключаць у сябе аграрную гаспадарку з плошчай зямельных угоддзяў 5—10 тысяч гектараў і шэраг малых даччыных прадпрыемстваў занятых перапрацоўкай сельгаспрадукцыі, жыллёвым будаўніцтвам, аказаннем бытавых паслуг, вытворчасцю электра- і цеплавой энергіі з мясцовых крыніц... У залежнасці ад мясцовых умоў у кожным такім комплексе можа быць створана ў сярэднім каля 20 малых прадпрыемстваў на 200 высокаэфектыўных рабочых месцаў. Зыходзячы з таго, што ў рэспубліцы можна будзе стварыць каля 1,5 тысячы МТВК, агульная колькасць зноў ствараемых рабочых месцаў на вёсцы ўзрасце на 300 тысяч.

Гаворачы аб раздзяржаўленні і структурнай перабудове прамысловасці, трэба заўважыць, што галоўным адрозненнем рыначнай эканомікі ад адміністрацыйна-каманднай з'яўляецца эканамічная адказнасць суб'ектаў гаспадарання за прымаемыя рашэнні. Пераходны перыяд характарызуецца тым, што адміністрацыйная адказнасць аслабляецца, а эканамічная яшчэ не дзейнічае ў поўную сілу. Як вынік, у такім вакууме фінансавая дысцыпліна падае. Эканоміка становіцца няўстойлівай, а палітычная сістэма — непрадказальнай. Такая праблема ўскладняецца тым, што структура прамысловасці рэспублікі не дае магчымасці выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю і эканоміка патрабуе карэннай мадэрнізацыі.

Вопыт чэкавай праватызацыі, праводзімай у рэспубліцы, паказаў, што яна дае магчымасць вырашыць задачы рэформаў у сферы паслуг і невялікіх прадпрыемстваў. Для пераўтварэння асноўнага ядра прамысловасці, якое стварае базу матэрыяльнага дабрабыту, метады чэкавай прыватызацыі павінны быць дапоўнены іншымі арганізацыйнымі мерапрыемствамі.

Для стварэння сучаснай структуры прамысловасці, падобнай да структуры ЕЭС, дзе каля 70 працэнтаў рабочых месцаў сканцэнтравана на малых і сярэдніх прадпрыемствах, у Беларусі неабходна сфарміраваць каля 200 тысяч малых прадпрыемстваў у розных галінах народнай гаспадаркі.

СІТУАЦЫЯ

# БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ НЕ ПАСПЯВАЮЦЬ ЗА ЧАРНОБЫЛЬСКІМІ НАСТУПСТВАМІ

***ЯК ВЯДОМА, сапраўднае аблічча асобнага чалавека і цэлага грамадства найлепш выразна бачна ў экстрэмальных сітуацыях. Чарнобыльская катастрофа стала для Беларусі той самай лакмусавай паперкай, што выявіла заганы як пэўных людзей, так і цэлых дзяржаўных устаноў. Варта нагадаць, што за дзесяць гадоў з моманту аварыі на ЧАЭС у нашай краіне ўзнікла мноства скандалаў, прама ці ўскосна звязаных з чарнобыльскімі праблемамі. І наўрад ці ў далейшым сітуацыя карэнным чынам зменіцца, бо тут круцяцца велізарныя грошы. А жадаючых палавіць рыбу ў каламутнай вадзе ў нашай краіне нямала. Ды і органы дзяржаўнай улады і кіравання не заўсёды рацыяльна, па-гаспадарску распараджаюцца чарнобыльскімі сродкамі.***

***Аб гэтым сведчаць і вынікі нядаўняй пракурорскай праверкі выканання «чарнобыльскага» заканадаўства.***

***Наш карэспадэнт сустрэўся з начальнікам упраўлення агульнага нагляду Пракуратуры Беларусі, членам парламенцкай Камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС Міхаілам СНЕГІРОМ і папрасіў прааналізаваць сітуацыю з выкананнем законаў, накіраваных на пераадоленне чарнобыльскіх наступстваў.***

**— Міхаіл Валянцінавіч, якой з праблем выканання чарнобыльскага заканадаўства на гэты раз пракуроры ўдзялілі найбольш ўвагі?**

— Практыка пракурорскага нагляду, а таксама вынікі праверкі кантралюючых органаў сведчаць, што ў многіх рэгіёнах Беларусі не выконваецца вызначаны Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях (МНС) парадак засялення, прыватызацыі і продажу жыллёвага фонду, пабудаванага за кошт сродкаў, накіраваных на пераадоленне вынікаў катастрофы на ЧАЭС.

У прыватнасці, парушаючы існуючы парадак, райвыканкомы складаюць спісы на засяленне, не ўзгадняючы іх абласной «вертыкаллю» і МНС. Гэта прыводзіць да таго, што жыллё выкарыстоўваецца не па прызначэнню. Так, з правераных фінансавымі органамі 933 кватэр і дамоў, прызначаных для чарнобыльцаў, 171 кватэра заселена іншымі людзьмі, а 321 — зусім не заселена. З правераных 522 кватэр, якія былі пабудаваны (у Гомельскай вобласці), для перасяленцаў летась, больш як 25 працэнтаў размеркавана сярод мясцовых спецыялістаў, а таксама аддадзена службовым асобам.

Да цяперашняга часу значная частка жылля, пабудаванага для чарнобыльцаў у мінулым годзе, яшчэ не размеркавана і не заселена. Напрыклад, у пасёлку Чысць Маладзечанскага раёна з пабудаваных для чарнобыльцаў 64 кватэр ні адна не заселена. У пасёлку Ліпаўка Касцюковіцкага раёна з 88 кватэр адна прызнана службовай, а астатнія нават не размеркаваны. Падобныя факты выяўлены і ў іншых рэгіёнах краіны.

**— Зараз нярэдка даводзіцца чуць, што чарнобыльцы самі не хочуць выязджаць з родных мясцін. Можа таму і працэс перасялення ва ўжо пабудаваныя кватэры адбываецца вельмі марудна?**

— Сапраўды, колькасць жадаючых перасяліцца апошнім часам зменшылася. Але, на маю думку, прычына тут не толькі ў «кансерватызме» перасяленцаў. Многія з іх, асабліва моладзь, ахвотна пераехалі б у больш чыстыя рэгіёны. Але ж у пабудаваным для іх жыллі столькі недапрацовак, што жыць там практычна немагчыма.

Напрыклад, у вёсцы Бярозкі Гомельскага раёна і ў Рагачове недабудаваны да гэтага часу 28 кватэр. Хоць па справаздачы яны лічацца ўведзенымі ў эксплуатацыю яшчэ з першага студзеня цяперашняга года.

У Жлобіне напрыканцы мінулага года будаўнікамі быў здадзены ў эксплуатацыю 18-кватэрны дом для чарнобыльцаў без сантэхнічнага і электрычнага абсталявання.

**— Тым не менш, ці нельга ўсё ж прадаць частку незаселеных чарнобыльскіх кватэр іншым грамадзянам? Ёсць жа, пэўна, людзі, якія добраахвотна не хочуць перасяляцца з забруджаных мясцін нават у самыя камфартабельныя кватэры?**

— Так, продаж жылля, якое доўгі час не засяляецца чарнобыльцамі, дазваляецца. Але зноў жа на практыцы гэта нярэдка адбываецца з грубымі парушэннямі ўстаноўленых урадам правілаў. Вельмі часта мясцовыя органы ўлады неабгрунтавана заніжаюць кошт продажу чарнобыльскіх кватэр. Напрыклад, праверка, праведзеная прэзідэнцкай Службай кантролю ў Івацэвіцкім раёне, сведчыць, што кошт прададзеных чарнобыльскіх кватэр быў заніжаны на 943,4 мільёна рублёў.

**— На вашу думку, што перашкаджае ўладам, у рэшце рэшт, перасяліць чарнобыльцаў у чыстыя рэгіёны?**

— Па стану на 1 студзеня 1996 года ў зонах першачарговага адсялення пражывала 12,5 тысячы сем'яў, якія, згодна з Законам «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад вынікаў катастрофы на ЧАЭС», маюць права на адсяленне. Для гэтых людзей прадугледжана будаўніцтва 1993 кватэр і дамоў плошчай 118,7 тысячы квадратных метраў. Прычым вельмі важна, каб перасяленцам былі прадастаўлены не толькі добраўпарадкаваныя кватэры, але і работа на новых месцах. Гэта, я лічу, асноўная прычына, з-за якой тармозіцца працэс адсялення.

**— Міхаіл Валянцінавіч, вы былі ініцыятарам унясення змяненняў ў Закон «Аб парадку ўезду і выезду». Чаму вы настойвалі, каб змены былі прыняты неадкладна?**

— Гэта было выклікана шматлікімі зваротамі маіх выбаршчыкаў, жыхароў Хойніцкага і Брагінскага раёнаў. З прыняццем Закона «Аб уездзе і выездзе» склалася сітуацыя, калі дзеці з так званых няпоўных сем'яў мелі шмат перашкод пры выездзе на аздараўленне за мяжу. У прыватнасці, артыкул 9 Закона «Аб уездзе і выездзе» дазваляў выезд за мяжу дзяцей толькі пры натарыяльна заверанай згодзе бацькі і маці.

(Заканчэнне на 11-й стар.)

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Добра вядома, што фашысты вельмі скрупулёзна ўсё фіксавалі, вялі строгі ўлік, у тым ліку і зрасходаваных на знішчэнне людзей боепрыпасаў. Магчыма, недзе ў архівах захоўваюцца і спісы знішчаных людзей. Гэта ж быў пачатак вайны, і тады акупанты былі асабліва педантычныя і акуратныя. Гэтыя архіўныя даныя могуць знаходзіцца і ў сённяшняй Германіі. Можа, нямецкі ўрад зможа аказаць дапамогу ў пошуку дакументаў, што датычацца канцлагера ў Драздах? Немалаважна ўстанавіць і ўдзельнікаў крывавай расправы над бязвіннымі жыхарамі Мінска. Што гэта было за падраздзяленне? Хто ім камандаваў? Ці не грэецца ён сёння дзе-небудзь пад сонейкам на Гаваях?

Упэўнены, што ёсць магчымасць устанавіць хоць бы некалькі прозвішчаў і ў ходзе саміх раскопак, але для гэтага трэба прыцягнуць спецыялістаў-прафесіяналаў. У час раскопак 7 чэрвеня гэтага года сам быў сведкам таго, як на глыбіні двух метраў былі знойдзены астанкі жанчыны, побач з ёй — дамская сумачка, якая добра захавалася. У ёй кардонны лісток па ўліку кадраў з добра чытаемым тэкстам, месца для фатаграфіі, хатні адрас... Там жа, у сумачцы, — медны пярсцёнак, хімічны аловак, манеты. На сукенцы — медныя ўпрыгожванні, пояс са спражкай, гузікі і засцежкі-кнопкі... У многіх загінуўшых у кішэнях кашалькі, партманеты, бутэлькі з вадой ці пустыя, семкі... Запомніліся і астанкі высокага мужчыны ў ботах і скураной куртцы. У некаторых на руках гадзіннікі. Перад салдатамі не стаіць задача ідэнтыфікацыі астанкаў. Яны ўстанаўліваюць граніцы пахавання. А прафесіянальныя гісторыкі, спецыялісты і археолагі на раскопкі, на жаль, не спяшаюцца. Але для таго, каб да канца высветліць абставіны расстрэлаў ля Кайдасавай гары, удзел спецыялістаў вельмі неабходны. Трэба яшчэ раз (і назаўсёды) закрыць гэтую тэму і па-чалавечы ўвекавечыць памяць дзесяці тысяч загінуўшых нашых людзей...

Для гэтага неабходна стварэнне дзяржаўнай камісіі, фінансаванне...

Так, гэта каштуе грошай, але ці ж ёсць цана ў чалавечнасці?

Гэтымі днямі быў літаральна ўзрушаны расказам аб тым, як Амерыка развітвалася з загінуўшым у кастрычніку далёкага ўжо 1952 года капітанам ВПС ЗША Джонам Дэнэмам, чые астанкі былі знойдзены на востраве Юрый, што на расійскім Далёкім Усходзе. Разведвальны самалёт RB-29, якім камандаваў амерыканец, быў збіты знішчальнікам савецкай ППА 44 гады назад Усе гэтыя гады вёўся пошук загінуўшага экіпажа. Нарэшце поспех. Па пярсцёнку, які насіў лётчык, амерыканцы за ноч(!) устанавілі прозвішча і імя гаспадара, знайшлі яго сваякоў. Па даручэнню прэзідэнта Клінтана з Амерыкі ў Расію прыляцеў пасол па асаблівых даручэннях Тун. На працягу двух дзён труна з прахам амерыканскага пілота была выстаўлена ў пасольстве ЗША ў Маскве. Дыпламаты і іншыя амерыканцы, што знаходзіліся ў Расіі, аддавалі яму даніну павагі. І распісваліся ў кнізе спачуванняў. Потым цела было дастаўлена на радзіму. Капітана ВПС ЗША, 26-гадовага Джона Робертсана Дэнэма пахавалі на Арлінгтонскіх нацыянальных могілках. Труну з яго прахам пасля памінальнага малебна даставілі да магілы на артылерыйскім лафеце шэсць запрэжаных цугам чорных коней. Быў зроблены салют, а ў небе над могілкамі пранёсся стратэгічны бамбардзіроўшчык B-52.

Так Амерыка праводзіла ў апошні шлях свайго салдата, грамадзяніна... Нікому ў Амерыцы і ў галаву не прыйшло гаварыць пра выдаткі на пошук і пахаванне. Цана чалавечнасці не мае эквіваленту ў грашах...

Прэзідэнт Польшчы Квасьнеўскі пры першай жа магчымасці пасля выбрання наведаў месца трагедыі ў Катыні і ўсклаў вянок. Раней прэзідэнт СССР М. Гарбачоў папрасіў у польскага народа прабачэння з нагоды гэтага злачынства сталінскага рэжыму...

Упэўнены, што і наш усенародна абраны Прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ўдзеліць належную ўвагу ахвярам крывавага злачынства нямецка-фашысцкіх захопнікаў ля пасёлка Драздьі.

У аўторак, 18 чэрвеня 1996 года, на пасяджэнні Мінскага райвыканкома павінна разглядацца пытанне аб знойдзеным ля Кайдасавай гары пахаванні. 30 чэрвеня 1941 года — 55 гадоў назад фашысты пачалі расстрэлы мірных грамадзян горада Мінска...

**Мікалай КАЧУК.**

## МАЛАДЗЕЧНА, МАЛАДЗЕЧНА, БУДЗЕ ТВАЯ ПЕСНЯ ВЕЧНАЙ?




Было: спявалі і танцавалі. Плошча горада гула з вечара амаль да рання. Але неўзабаве прыходзіцца развітвацца са святам. Сёлета ў яго быў цяжкі шлях — на сваю радзіму, па-першае, да сваёй формы і ўнутранага напаўнення, па-другое. Тым не менш, усё ж-такі адбылося.

Было: людзі прыходзілі на плошчу задоўга да пачатку канцэрта, каб заняць месца бліжэй да сцэны. Людзі чакалі некалькі гадзін, вытрымлівалі холад, вецер, а потым пачынаўся канцэрт, адзін, другі, трэці. А людзі гатовы былі спяваць хоць усю ноч. Таму што ім вельмі патрэбна свята.

Было: моладзь і пажылыя людзі слухалі музыку самую розную — ад эстраднай песні да джаза, фольк-мадэрна ў выглядзе «Палаца», ды небяспечнага рока ў выкананні «Крамы». І не было паміж імі ніякіх канфліктаў пакаленняў. Усе аднолькава танцавалі, лавілі словы, словы зразумелыя, свае. Людзі адчувалі свята. Ці гэта не галоўны вынік фестывалю?

Былі тут і свае героі. Удзельнікі аўтарскіх і сольных канцэртаў. Здзейснілася даўняя мара Міхаіла Фінберга зрабіць канцэрты цалкам без фанаграмы. Упершыню на фестывалі прайшоў «жывы» канцэрт Якава Навуменкі, спявак утрымліваў публіку некалькі гадзін. Творчы вечар юбіляра, кампазітара Эдуарда Зарыцкага таксама прайшоў у жывым гучанні.

Акрамя канцэртаў, што можна было ўбачыць па тэлебачанні, былі іншыя прыемныя сустрэчы на фестывалі. Цудоўныя беларускія песні паказалі народны хор імя Цітовіча і аркестр імя Жыновіча, якія выдатна аздобілі праграму. Было. Чацвёрты нацыянальны фестываль сказаў «да пабачэння». Але пакінуў шмат пытанняў для арганізатараў. Ці трэба яго праводзіць кожны год? Ці пачакаць, пакуль скопіцца новы творчы матэрыял? Ці здолее горад прыняць сваё «дзіця» на наступны год? Але ніхто з яго «бацькоў» не здолеў выказаць сумненняў ў патрэбе беларускай песні. Бо бачылі, як людзі чакалі свята...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.36 | 21.44 | 17.08 |
| Віцебск – | 4.18 | 21.42 | 17.24 |
| Магілёў – | 4.26 | 21.33 | 17.07 |
| Гомель – | 4.32 | 21.21 | 16.49 |
| Гродна – | 4.53 | 21.58 | 17.05 |
| Брэст – | 5.03 | 21.48 | 16.45 |

**МЕСЯЦ**

Маладзік 16 чэрвеня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Дарафея, Ігара, Канстанціна, Фёдара

К. Альжбэты, Марка

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікія кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 18—20, Магілёве — 19—21, Мінску, Гомелі — 20—22, Гродне — 21—23, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 19-га ўначы — па захаду, удзень — па большай частцы тэрыторыі, 20-га — месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, па захаду — 6—11, удзень — 15—20, 19-га па ўсходу — да 24 градусаў цяпла.

**МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 18 ЧЭРВЕНЯ**

Надвор'е будзе вызначацца праходжаннем цёплага фронту, што прывядзе да павышэння тэмпературы паветра і нязначнага росту атмасфернага ціску. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых самаадчуванне палепшыцца. Магчыма пагаршэнне стану ў гіпертонікаў. Гэтым хворым у мэтах прафілактыкі паказаны кантроль артэрыяльнага ціску, рэгулярны прыём прэпаратаў, прызначаных урачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

## Пракуратурай Мінска прызнана правамерным прымяненне зброі супрацоўнікамі міліцыі пры затрыманні аўтамабіля, у якім знаходзіўся В. Ганчар

**Як паведаміла «Звязда» ў суботу, 14 чэрвеня ноччу супрацоўнікамі міліцыі быў абстраляны аўтамабіль, у якім вяртаўся дамоў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, генеральны сакратар Эканамічнага суда краін СНД Віктар Ганчар. На прэс-канферэнцыі ў пятніцу Віктар Іосіфавіч азнаёміў прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі са сваёй версіяй таго, што здарылася. На наступны дзень з журналістамі сустрэўся Барыс Тарлецкі, начальнік мінскай міліцыі, а прэс-служба ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома распаўсюдзіла афіцыйную заяву. Знаёмім чытачоў газеты з пунктам гледжання праваахоўных органаў, таксама не ўдаючыся ў каментарыі і прагнозы наконт таго, як будуць разгортвацца падзеі далей.**

Генерал Тарлецкі паведаміў, што 14 чэрвеня ў 2.30 у двары дома №141 па праспекце Скарыны чацвёра неўстаноўленых злачынцаў выстралілі ў супрацоўніка Першамайскага РАУС радавога міліцыі Андрэя Яцыну, які разам з ваеннаслужачым С. Бутарлёвым патрулявалі тэрыторыю ва ўказаным раёне. У выніку стрэлу куля трапіла ў табельную зброю А. Яцыны — пісталет Макарава, які знаходзіўся ў кабуры. Злачынцам удалося ўцячы. У горадзе адразу быў уведзены план «Перахват». З дапамогай сведак было выяўлена, што злачынцы з'ехалі з месца здарэння на легкавым аўтамабілі замежнай вытворчасці. Праз некалькі хвілін патрульным нарадам у раёне дома № 135 па праспекце Скарыны была заўважана аўтамашына «Опель-Вектра» белага колеру, якая на патрабаванне спыніцца не падпарадкавалася і прадоўжыла рух да цэнтра сталіцы.

Як сцвярджаецца ў заяве прэс-цэнтра УУС Мінгарвыканкома, міліцэйскі нарад на «УАЗіку» арганізаваў праследаванне «Опеля», аднак скорасць у іншамаркі была вялікая. «УАЗ», падаючы сігналы выключэннем фараў, пастаянна праследаваў гэту машыну.

У 2.50 на скрыжаванні вуліц Куйбышава і Кульман «Опель» быў заўважаны патрульным нарадам аддзела аховы Савецкага раёна, які на службовай аўтамашыне перакрываў гэтае скрыжаванне. Як сцвярджаюць прадстаўнікі праваахоўных органаў, патрульная машына з уключаным маячком знаходзілася па цэнтру праезнай часткі скрыжавання, а міліцыянеры, якія знаходзіліся каля яе, жазлом падавалі сігнал вадзіцелю «Опеля» спыніцца. «Ігнаруючы патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі, вадзіцель іншамаркі на скорасці прадоўжыў рух у напрамку Камароўскага рынку. У мэтах спынення машыны старшы экіпажа старшы сяржант міліцыі Іван Карповіч у адпаведнасці з Законам «Аб міліцыі» зрабіў прыцэльны выстрал у бок гэтага аўтамабіля з табельнай зброі — аўтамата АКСУ. Куля, прабіўшы левыя заднія дзверцы і абіўку задняга сядзення, раніла ў ягадзіцы грамадзянку, якая знаходзілася ў аўтамашыне ў якасці пасажыркі». Пасля прымянення зброі «Опель» спыніўся. Міліцыяй было ўстаноўлена, што, акрамя пацярпеўшай, у аўтамабілі знаходзіліся: вадзіцель Яўген Лычоў і таксама ў якасці пасажыра — дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар. Пацярпеўшая з дыягназам «агняпстрэльнае раненне абедзвюх ягадзіц» шпіталізавана.

Паводле звестак прэс-службы УУС, пракуратурай горада Мінска прымяненне зброі прызнана правамерным.

Такім чынам, мы выклалі дзве версіі таго, што здарылася ў ноч на 14 чэрвеня. Як бачна, яны істотна адрозніваюцца адна ад адной. Будзем спадзявацца на аб'ектыўнае следства і чакаць канчатковага рашэння.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ВІКТАР ГАНЧАР АБУРАНЫ

17 чэрвеня дэпутат Вярхоўнага Савета, генеральны сакратар Эканамічнага суда СНД Віктар Ганчар правёў яшчэ адну прэс-канферэнцыю па выніках злашчаснага выпадку ў мінулую пятніцу. Пасля гэтага здарэння на наступны дзень у грубай форме быў затрыманы супрацоўнік Эканамічнага суда Яўген Лычоў, які выконваў абавязкі вадзіцеля падчас згаданага здарэння. У 17.00 ён быў дастаўлены ў Савецкі райсуд, а ў 17.10 — ужо ў прыёмнік-размеркавальнік УУС г. Мінска. Падставай для змяшчэння Лычова, што называецца на нары, стала пастанаўленне суддзі, якое яна вынесла, грунтуючыся на паказаннях міліцыі. Суд быў перанесены на панядзелак з-за таго, што Лычоў запатрабаваў адваката. Лычоў абвінавачваўся па арт. 166 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням міліцыі. Віктар Ганчар зрабіў усё магчымае, каб вызваліць свайго супрацоўніка. Ён звязаўся з Генеральным пракурорам, старшынёй Вярхоўнага суда, дзяжурным па ўпраўленню УУС г. Мінска, але ў гэты дзень вызваліць Лычова не ўдалося. Нарэшце, да справы быў падключаны Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які паабяцаў, што не пакіне працы, пакуль незаконна затрыманы грамадзянін не будзе на волі. З 10 раніцы да гадзіны дня ў Старшыні Вярхоўнага Савета адбывалася нарада, на якой прысутнічалі Генеральны пракурор, пракурор горада, старшыня Вярхоўнага суда і суддзя Савецкага раёна, якая прымала тое рашэнне. У рэшце рэшт, па пратэсту пракурора горада Лычоў быў вызвалены.

Вось гэтыя падзеі, а таксама дэзінфармацыю, якую, на погляд Ганчара, далі Беларускае тэлебачанне і міліцэйскія чыны, Віктар Ганчар ацаніў вельмі негатыўна, ён быў літаральна абураны рэпартажам у нядзельным выпуску праграмы «Рэзананс» і зазначыў, што ў выказваннях вядучага А. Зімоўскага прысутнічалі паклёп і знявага, таму ён будзе самым жорсткім чынам ставіць пытанне аб крымінальнай адказнасці Зімоўскага. «Я ўпершыню сутыкаюся з такім узроўнем агрэсіўнага цынізму», — зазначыў Віктар Ганчар.

Акрамя таго, Віктар Ганчар заявіў, што заўтра ж ён будзе ў Вярхоўным Савеце дабівацца ўключэння ў парадак дня пытання аб адстаўцы міністра ўнутраных спраў Агальца. Таксама стала вядома, што крымінальная справа па факту абстрэлу машыны В. Ганчара перададзена з пракуратуры Савецкага раёна ў пракуратуру горада. Гэта зроблена пасля патрабавання самога Віктара Ганчара.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ЛЁС РАСІІ ВЫРАШЫЦЦА Ў ДРУГІМ ТУРЫ**

Учора падчас свайго выступлення Барыс Ельцын заявіў, што ў першым туры выбараў прэзідэнт не выбраны, трэба будзе правесці другі тур. «Зараз, пасля першага тура, выбар відавочны: або назад — да рэвалюцыі і ўзрушэнняў, або наперад — да стабільнасці і дабрабыту», — сказаў ён. Працягваецца падлік галасоў. Згодна з папярэднімі данымі Цэнтрвыбаркома, лідзіруе Барыс Ельцын — у яго 34,8 працэнта галасоў. На другой пазіцыі знаходзіцца Генадзь Зюганаў — 32,3 працэнта. За яўнымі лідэрамі ідуць Аляксандр Лебедзь — 14,4, Рыгор Яўлінскі — 7,5 працэнта, Уладзімір Жырыноўскі — 6 працэнтаў галасоў. Астатнія кандыдаты набралі менш чым па аднаму працэнту кожны. Барыс Ельцын лідзіруе ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, на поўначы і паўночным захадзе краіны, Генадзь Зюганаў — у большасці раёнаў на поўдзень ад Масквы. Намеснік старшыні Цэнтрвыбаркома Іванчанка паведаміў, што другі тур выбараў адбудзецца 30 чэрвеня або 7 ліпеня. Цэнтрвыбарком вырашыць гэтае пытанне ў сераду.

**УРАД МАСКВЫ НЕ ЗМЕНІЦЦА**

Юрый Лужкоў перавыбраны мэрам Масквы — за яго прагаласавалі каля 90 працэнтаў выбаршчыкаў. Падчас свайго выступлення на прэс-канферэнцыі Лужкоў сказаў, што маскоўскі ўрад пойдзе ў адстаўку і будзе сфарміраваны зноў. Аднак кардынальных змен у яго саставе не адбудзецца. Паводле слоў Лужкова, галоўнымі задачамі сталічных уладаў стануць барацьба са злачыннасцю і паляпшэнне экалогіі.

**СЁННЯ БУДЗЕ НАЗВАНЫ САСТАЎ НОВАГА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ ІЗРАІЛЯ**

Мяркуецца, што сёння будзе вызначаны новы састаў кабінета міністраў Ізраіля. У нядзелю новы прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з трыма палітычнымі партыямі, якія маюць 23 месцы ў кнэсеце. Такім чынам, партыя Нетаніягу «Лікуд» кантралюе зараз 55 са 120 месцаў у парламенце. Працягваюцца перамовы і з іншымі партыямі, сярод якіх партыя эмігрантаў з Савецкага Саюза. Учора Нетаніягу праводзіў перамовы з кіраўніцтвам «Лікуда», каб канчаткова дамовіцца аб размеркаванні міністэрскіх пасад.

**ЗА ТЭРАРЫСТАМІ НАЗІРАЛІ КАМЕРЫ**

Камеры знешняга назірання запісалі на стужку тэрарыстаў, што падклалі бомбу паблізу гандлёвага цэнтра ў Манчэстэры. У выніку выбуху бомбы ў суботу было паранена каля 200 чалавек. Камеры зафіксавалі таксама момант выбуху. Улады ўскладаюць адказнасць за тэракт на ірландскую тэрарыстычную арганізацыю ІРА. 16 параненых усё яшчэ знаходзяцца ў шпіталі.

**РАСІЙСКІ ТРАЎЛЕР ПАКУЛЬ НЕ ЗНОЙДЗЕНЫ**

У водах Ліберыі аднавіліся пошукі расійскага траўлера «Залаціца», які знік тыдзень таму. На борце судна знаходзіліся ўцекачы з Ліберыі. Траўлер знік пасля таго, як урад Ганы адмовіўся прыняць уцекачоў і ваенныя караблі вывелі яго за межы тэрытарыяльных водаў Ганы. Як паведамілі супрацоўнікі міжнароднай арганізацыі «Урачы без межаў», у нядзелю былі паведамленні, што судна бачылі паблізу тэрытарыяльных водаў Ліберыі. Урачы выказваюць занепакоенасць, што на судне скончылася пітная вада.

**ФУТБОЛ ПАТРАБУЕ АХВЯР**

Сама меней 9 чалавек загінулі і больш як 75 атрымалі раненні ў цісканіне на стадыёне ў сталіцы Замбіі адразу пасля перамогі каманды Замбіі над зборнай Судана ў адборачным матчы чэмпіянату свету па футболу. Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, цісканіна ўзнікла, калі некалькі тысяч балельшчыкаў кінуліся да адзіных расчыненых варот стадыёна, спадзеючыся ўбачыць футбалістаў Замбіі, якія пакідалі спартыўную арэну.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Тры егіпецкія прынцэсы — Фадзія, Фаўзія і Ферыял — звярнуліся ў каірскі суд з грамадзянскім іскам, патрабуючы аднаўлення правоў уласнасці на палац у сталіцы і на зямельныя ўладанні. Дочкі апошняга караля Егіпта Фарука, якога скінулі ў выніку ваеннага перавароту ў 1952 годзе, і каралевы Фарыды, якая развялася з манархам у 1948 годзе, сцвярджаюць, што і палац, і маёнткі належалі іх маці і цяпер належаць ім. Справа ўскладняецца тым, што па закону каралеўская сям'я не можа вырашыць пытанні ўласнасці праз суд. Аднак адвакаты прынцэс сцвярджаюць, што іх кліенткі з-за разводу іх маці не могуць лічыцца членамі каралеўскай сям'і. Суд адклаў справу да кастрычніка.

**Асашыэйтэд Прэс**

*Фермер Іван Помыслаў з далёкага сяла Лойма (Рэспубліка Комі) прывёз ў папраўча-працоўную ўстанову Сыктыўкара тры тоны бульбы і паведаміў, што ў бліжэйшыя дні даставіць сюды цыгарэты і прадукты харчавання. Гэта адбылося некалькі дзён назад. Растлумачыў свой учынак фермер тым, што калі 16 чэрвеня на прэзідэнцкіх выбарах перамогу атрымаюць камуністы, яны пачнуць саджаць уласнікаў.*

**ЕАН.**

# ВЫБАРЫ Ў РАСІІ: ЛІДЗІРУЕ ЕЛЬЦЫН

**Паводле папярэдніх звестак на абед 17 чэрвеня, у нядзельных выбарах прэзідэнта Расіі прынялі ўдзел звыш 70 працэнтаў выбаршчыкаў. Пасля апрацоўкі каля 72 працэнтаў бюлетэняў Б. Ельцын выявіў падтрымку 34,8 працэнта выбаршчыкаў, Г. Зюганаў — 32,4, А. Лебедзь — 14,4, Р. Яўлінскі — 7,5, У. Жырыноўскі — 6 працэнтаў. Астатнія, відаць, не набралі і таго мільёна галасоў, які яны прадстаўлялі пры рэгістрацыі іх кандыдатамі ў прэзідэнты.**

Хаця расійскія аналітыкі з гордасцю зазначаюць, што менавіта такі расклад яны прадбачылі, усё ж гэты вынік выглядае крыху незвычайным. Асабліва для большасці беларускіх палітыкаў, якія ўжо былі навучаны вопытам нашых прэзідэнцкіх выбараў і прадказвалі яўны поспех апазіцыйнага дзеючаму прэзідэнту Расіі кандыдата — Генадзя Зюганава.

З тых беларускіх палітыкаў, якія выказвалі ў «Звяздзе» свае прагнозы, можна адзначыць П. Краўчанку і Л. Гразнову, якія былі ўпэўнены ў лідэрстве Б. Ельцына, і прагноз Г. Карпенкі, які зазначыў, што трэцім будзе А. Лебедзь. Лебедзь сапраўды стаў трэцім, за год пасля свайго звальнення з арміі ён паспеў добра «раскруціцца» ў палітыка і дабіўся поспеху — трэцяе месца для яго сапраўды ўдача. Цяпер Лебедзь мае магчымасць пагандляваць гэтым трэцім месцам. Камуністы ўжо прапаноўваюць яму крэсла прэм'ера, прапануе нешта і Ельцын. А. Лебедзь пакуль не выказаў канкрэтных сімпатый ні да аднаго з лідэраў — гэта адбудзецца пасля перагавораў.

Як уяўляецца, А. Лебедзь усё ж хутчэй падтрымае Ельцына. Па-першае, яго лічаць умераным дэмакратам і патрыётам, а па-другое, ён ужо паспеў на свой рахунак аднесці прагноз Ельцына, што сярод тых, хто ўдзельнічаў у якасці кандыдатаў у выбарах 16 чэрвеня, ёсць чалавек, які стане прэзідэнтам праз 4 гады. Ельцын, відаць, падтрымае гэтую ўпэўненасць Лебедзя. Хаця нельга сказаць, што заклік Лебедзя да сваіх прыхільнікаў прагаласаваць за аднаго з кандыдатаў будзе азначаць аўтаматычна перанос яго 14 з лішкам працэнтаў галасоў на выбранага ім кандыдата... Тым не менш, відавочна, што і Ельцын, і Зюганаў будуць шукаць падыходы да тых, хто заняў 3—5-е месцы. І ўсё ж пераважнай тут выглядае пазіцыя Ельцына, які, па-першае, лідзіруе, а па-другое, і Лебедзя, і Яўлінскага адносяць да дэмакратаў. Б. Ельцын нават заўважыў, што ён не змог перамагчы ў першым туры толькі з-за таго, што дэмакраты не аб'ядналіся. Магчыма, яны змогуць зрабіць гэта перад 30 чэрвеня ці 7 ліпеня, калі, як верагодна, адбудзецца другі тур галасавання.

Тым не менш, барацьба паміж Б. Ельцыным і Г. Зюганавым чакаецца складаная і напружаная. Расія падзелена на два прыкладна роўныя лагеры: прыхільнікаў рэстаўрацыі сацыялізму і тых, хто хоча рухацца наперад у рыначных і дэмакратычных пераўтварэннях. Магчыма, мы зможам нават стаць сведкамі тэледэбатаў паміж двума кандыдатамі-сапернікамі.

17 чэрвеня на сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый Прэзідэнт Беларусі зазначыў, што вынік выбараў у Расіі з'яўляецца ацэнкай выбаршчыкамі тых эканамічных пераўтварэнняў, якія там адбываліся. «Калі б майму добраму знаёмаму Ельцыну процістаяла трэцяя сіла, то там было б тое ж, што і ў Беларусі», — зазначыў А. Лукашэнка.

Тым часам сталі вядомы вынікі галасавання расійскіх грамадзян, што пражываюць у Беларусі. Прынялі ўдзел у галасаванні 3848 чалавек. З іх за Б. Ельцына прагаласавала 2106 грамадзян Расіі, за Г. Зюганава — 552, за А. Лебедзя — 702, за Г. Яўлінскага — 264, за Жырыноўскага — 126.

Сярод іншых нечаканасцей першага тура выбараў у Расіі варта яшчэ адзначыць правал У. Жырыноўскага, які прайграў і Лебедзю, і Яўлінскаму. У. Жырыноўскі ўжо абрыдзеў расійскаму электарату, ён паступова заходзіць у маргінэс расійскай палітыкі, разам са сваёй партыяй. А вось папулярнасць Рыгора Яўлінскага расце.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

## Генадзь КАРПЕНКА:

# «ЭКАНАМІЧНАЯ СТАБІЛІЗАЦЫЯ ПАСАДЗЕЙНІЧАЕ І ПАЛІТЫЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ Ў НАШЫМ ГРАМАДСТВЕ»



***На пытанні «Звязды» адказвае намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка. Тэмай размовы сталі апошнія эканамічныя і палітычныя ініцыятывы Вярхоўнага Савета і праблемы, якія апошнім часам выклікаюць у нашым грамадстве найбольшы рэзананс.***

**— Генадзь Дзмітрыевіч, у апошні месяц у Вярхоўным Савеце было вылучана некалькі прапаноў па эканамічнай праблематыцы, у прыватнасці, па распрацоўцы праграмы стабілізацыі на парламенцкіх слуханнях на эканамічную тэматыку запрашаецца выступіць з дакладам Прэзідэнт. У чым сутнасць падыходаў Вярхоўнага Савета да вырашэння нашых эканамічных праблем?**

— Вярхоўны Савет мае намер закончыць сваю сесію разглядам цэлага блока законапраектаў па эканоміцы. Гэта будзе рабіцца з 18 чэрвеня да 1 ліпеня. Па-першае, мы вынесем на абмеркаванне канцэпцыю стабілізацыі нашай эканомікі. Дзеля гэтага мы звяртаемся да Прэзідэнта нашай краіны і прэм'ер-міністра з прапановай самым сур'ёзным чынам паўдзельнічаць у абмеркаванні гэтай канцэпцыі. У адпаведнасці з 100-м артыкулам Канстытуцыі Прэзідэнт павінен у пачатку года выступаць з дакладам аб сваім бачанні эканамічнага і палітычнага курсу нашай краіны. Гэтае пытанне ўключана ў парадак дня Вярхоўнага Савета, аднак вось ужо заканчваецца першая сесія, а такога выступлення, на жаль, не было. Таму менавіта пры разглядзе канцэпцыі эканамічнай стабілізацыі і эканамічнага развіцця нашай краіны мы звяртаемся да выканаўчых органаў з прапановай прыняць у гэтым абмеркаванні самы шырокі ўдзел. Мы цудоўна разумеем, што сёння Вярхоўны Савет не можа далей працаваць у адрыве ад выканаўчай улады, асабліва над эканамічнымі законапраектамі.

На жаль, у нашай рэспубліцы стан эканомікі рэзка пагаршаецца: ідзе невыкананне асноўных паказчыкаў, рэзка зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці. Мы разумеем, што самі па сабе законы, якія не будуць рэалізоўвацца выканаўчай уладай, так і застануцца паперай. Адбудзецца як бы праца на паліцу. Але працаваць на паліцу ў сённяшніх умовах ні парламент, ні выканаўчыя структуры не маюць права. Таму акрамя разгляду асноўных законапраектаў, што напрацаваны ў нашых камісіях, мы і звяртаемся да прэм'ер-міністра з прапановай стварыць сумесныя рабочыя групы па распрацоўцы законапраектаў, якія будуць вызначаць твар эканомікі нашай краіны.

Хачу падкрэсліць, што за паўгода работы Вярхоўнага Савета мы практычна не атрымалі ніякіх законапраектаў ад выканаўчай улады, якія б вызначалі курс развіцця эканомікі нашай дзяржавы. Ад імя ж Вярхоўнага Савета падрыхтавана звыш 20 законапраектаў, якія, на наш погляд, з'яўляюцца вызначальнымі для нашай эканомікі. Акрамя таго, створана рабочая група з ліку супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета, дэпутатаў, у іх уключана вялікая колькасць спецыялістаў і з навукова-прамысловай асацыяцыі і з прафсаюзаў, камерцыйных структур. І мы звяртаемся з просьбай да кіраўніцтва ўрада разгледзець гэтыя законапраекты і прапановы па расшырэнню саставу рабочых груп за кошт работнікаў Кабінета Міністраў і ўнесці свае прапановы па канкрэтных законапраектах, якія, на думку ўрада, павінны быць першачаргова разглядацца на другой сесіі Вярхоўнага Савета.

Нам нельга больш цягнуць час, раскачвацца, бо адказнасць за эканоміку і жыццёвы стан людзей у аднолькавай ступені кладзецца як на выканаўчую, так і на заканадаўчую ўлады.

**— Назавіце, якія канкрэтна гэтыя законапраекты?**

— Назаву некалькі такіх законапраектаў. Па-першае, па праблемах падаткаабкладання. Як мы мяркуем, самі падатковыя стаўкі, павінны быць зменшаны прыкладна на 20 працэнтаў. Акрамя таго, не менш чым стаўкі трывожыць вытворцаў і заблытаная сістэма падаткаабкладання. Яна павінна быць спрошчана, колькасць падаткаў павінна быць істотна зменшана.

**— Аднак парламент зусім нядаўна ўжо разглядаў падатковае заканадаўства...**

— На кожны год прымаюцца падатковыя змены. Мы пачыналі сваю работу ў студзені, таму на гэты год канкрэтных зменаў і прапаноў унесці мы не маглі, ды і не мелі права, як я мяркую. Было б неасцярожнасцю для Вярхоўнага Савета пускацца ў карэнную ломку прымянення падатковага заканадаўства... Акрамя таго, мы хочам перагледзець і закон аб інвестыцыях. Адзін з асноўных законаў таксама — аб прыватнай уласнасці на зямлю, а таксама законы аб прамысловых прадпрыемствах, страхавой медыцыне... Я падкрэсліў бы адну акалічнасць, якая з'яўляецца арыенцірам у нашай працы — тое, што над гэтымі законапраектамі павінна працаваць дружная каманда з прадстаўнікоў заканадаўчай і выканаўчай уладаў, а таксама такая ж дружная каманда павінна падштурхнуць гэтыя законы ў жыцці пасля іх прыняцця.

**— Як я зразумеў, сутнасць гэтых законапраектаў — у іх рыначнай накіраванасці?**

— Так, безумоўна.

**— А як вы ацэньваеце апошнія нарматыўныя акты выканаўчай улады па пытаннях банкаўскай сферы, перарэгістрацыі прадпрыемстваў і г.д.?**

— Я не назваў бы іх антырыначнымі ці такімі, што вядуць да ўпарадкавання... Для мяне яны незразумелыя, яны не паддаюцца нават нейкай логіцы. Як можна прымаць сёння рашэнне аб абмене валюты, калі ў банку акрамя курса выплачваюцца нейкія прэміяльныя... Мяне проста здзіўляюць распрацоўшчыкі такіх актаў: аб чым яны думаюць, калі прапануюць такія механізмы?.. Дарэчы, мы будзем разглядаць Банкаўскі кодэкс, і свае прапановы ўжо ўнесла і Т. Віннікава. Гэта даволі аб'ёмны дакумент, магчыма, мы будзем прымаць яго часткамі... Але не трэба думаць, што нашы банкі здольныя сёння вырашыць пытанні фінансавання эканомікі. Ацэнкі паказваюць, што яны могуць падтрымаць не болей як 15 працэнтаў нашага народнагаспадарчага комплексу.

**— Патрэбны замежныя інвестыцыі?**

— Так. Я хацеў бы прывесці прыклад з Ніжняга Ноўгарада, адкуль я нядаўна вярнуўся. За мінулы год у гэтую вобласць Расіі інвесціравана 240 мільёнаў долараў. А ў Беларусь — толькі 2... Хаця трэба разумець, што знешнія інвестыцыі не з'яўляюцца і панацэяй, не трэба чакаць, што нехта прыйдзе і накорміць наш народ. Аснова будзе ў сваёй працы, у сваёй унутранай эканамічнай палітыцы.

Асабліва неабходна нам падумаць аб сельскай гаспадарцы, для Беларусі, лічу, гэта прыярытэт № 1. Тут патрэбен цэлы комплекс мераў. На жаль, да гэтага часу ў Беларусі няма нават эканамічнай праграмы ў сферы сельскай гаспадаркі...

**— Што яшчэ карыснага даведаліся на семінары ў Ніжнім Ноўгарадзе?**

— Для мяне гэта не было Амерыкай, зразумела, я сам, калі працаваў мэрам, многія такія метады рыначных адносінаў выкарыстоўваў. Я назваў бы хіба толькі лічбу: 80 працэнтаў прамысловага і сельскагаспадарчага патэнцыялу Ніжагародскай вобласці складае недзяржаўны сектар, у тым ліку ГАЗ...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ў сваім нядаўнім выступленні асноўны ўпор рабіў на праблемы эканомікі. Ці сапраўды стан нашай эканомікі настолькі крызісны?**

— Лічбы гавораць, што мы недаатрымліваем у бюджэт да 40 працэнтаў... Але справа, можа, і не столькі ў гэтым. Перш за ўсё мы не маем эканамічнага курсу, мы яшчэ не вызначыліся з ім. І я глыбока перакананы, што розныя партыі, рухі пакінулі б сёння на другім плане ўсё сваё змаганне, дыскусіі, калі б гэты курс быў хоць як-небудзь абазначаны. Яго сапраўды складана вымалёўваць. Хаця відавочна, што ранейшы наш шлях, сацыялістычны, аказаўся тупіковым. Дастаткова параўнаць хаця б ГДР з ФРГ, Паўночную і Паўднёвую Карэі, Тайвань і КНР. Таму трэба ўсім (і камуністам, і дэмакратам, і лібералам) спакойна сесці і разабрацца, што прымальнае для нашай рэспублікі, што мы можам ужо сёння рухаць, выкарыстоўваючы агульную згоду і разуменне. А такога вельмі шмат: прыватызацыя муніцыпальнай уласнасці, бытавой сферы, гандлю.

Гэтай працы ёсць як мінімум на 2 гады. Праблемы буйной дзяржаўнай вытворчасці таксама можна раскладваць, што называецца, па паліцах і крок за крокам іх вырашаць. І камуністы, і дэмакраты, я думаю, разумеюць, што сённяшні навукова-тэхнічны ўзровень гэтых буйных прадпрыемстваў надзвычай нізкі, і тут трэба разам займацца гэтай праблематыкай. Ёсць ключавыя пазіцыі ў эканоміцы, якія павінны застацца за дзяржавай, і яны падыходзяць як камуністам, так і дэмакратам. І тыя, і другія разумеюць, што асноўныя заводы, якія цяпер даюць прыбытак у бюджэт, сёння павінны застацца пад эгідай дзяржавы...

Ёсць і палітычныя пытанні, якія сёння маглі б быць прыведзены да адной роўніцы рознымі палітычнымі сіламі: тыя ж Саветы — нельга іх разбураць, не прапаноўваючы новага механізма. Такімі вось крокамі, адзін за адным, мы маглі б выключыць вельмі многа супярэчнасцей, якія перашкаджаюць нам сёння рухацца.

**— Як вы ацэньваеце апошнія рашэнні ў Еўрапарламенце адносна адтэрміноўкі ратыфікацыі дагавора з Беларуссю?**

— Гэтае рашэнне было практычна ўвасоблена ў жыццё раней, а цяпер было як бы афіцыйнае аб'яўленне адносінаў ЕС да Беларусі. Наша палітыка ўжо даўно прывяла да такой сітуацыі... Мне, як чалавеку, здаецца проста дзікай такая сітуацыя, калі хлопцы з дубінкамі і шчытамі пачынаюць насіцца па горадзе, пачынаюць біць студэнтаў і іншых...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, вы былі ў эпіцэнтры многіх сёлетніх мітынговых падзей і, відаць, бачылі, як у грамадстве ідзе расслаенне і выяўляюцца больш жорсткія настроі. Ці бачыце вы якое выйсце з гэтага, каб зняць супярэчнасці, якія ўзнікаюць?**

— Выйсце адзінае і простае. Трэба садзіцца за «круглы стол», аб якім гаворыцца ўжо два гады, і знаходзіць тыя балючыя праблемы, якія трэба вырашыць... Я, аднак, разумею, што ёсць і іншыя сілы, якія дзейнічаюць па прынцыпу ўсё большай жорсткасці для таго, каб адцягнуць увагу ад эканамічных правалаў. Але хай ніхто не спадзяецца, што калі мы давядзём сітуацыю да процістаяння, да крыві, то хтосьці здолее вылавіць у бруднай вадзе сабе рыбку. Не. Такія палітыкі нікому не патрэбны, і ніводзін з іх не будзе мець ніякай падтрымкі. Таму калі хтосьці сёння думае аб вялікай палітыцы, ён мусіць прыйсці за «круглы стол» не так, як раней прыходзілі ў парламент — з палкамі і процівагазамі, не як выходзяць на плошчу — са шчытамі і дубінкамі, а прыйсці з тым, што ёсць у галаве, і з гарачым жаданнем выправіць гэтую сітуацыю, зняць гэтую жорсткасць.

**— Ці можа Вярхоўны Савет стаць цэнтрам, адкуль зыходзіла б запрашэнне на такі «круглы стол»?**

— Я думаю, што ён стане такім кансалідуючым цэнтрам.

**— Тым не менш, у адносінах да Вярхоўнага Савета гучыць часам жорсткая крытыка. Нават ваш калега па фракцыі Анатоль Лябедзька прапанаваў парламенту самараспусціцца. Вы, дарэчы, падтрымалі яго?**

— Не, я за гэта не галасаваў. Я ўжо праходзіў у жыцці такі этап, калі хацеў сысці... Сыход не вырашае праблем. Так дзейнічаць мы не маем права...

**— А якая абстаноўка ў Вярхоўным Савеце і вакол яго пасля апошняга выступлення С. Шарэцкага?**

— Я не думаю, што яна можа рэзка памяняцца... У рэшце рэшт, Сямён Георгіевіч сказаў тое, што думала большасць, што выклікае трывогу, што патрабуе разгляду і прыняцця рашэння. Далей хавацца па-страусінаму немагчыма. Я разглядаю гэтае выступленне як заклік сесці, падумаць над будучыняй, узважыць усё, адкінуўшы амбіцыі.

**— Такім чынам, падагульняючы гэтую тэму, скажыце, ці бачныя для вас шляхі да грамадскай кансалідацыі, аб якой мы гаварылі?**

— Так, хацелася б іх бачыць. І на першы крок у гэтай кансалідацыі павінен падштурхнуць стан нашай эканомікі, ён павінен прымусіць задумацца некаторыя гарачыя галовы. Такая магчымасць ёсць, шляхі да яе ёсць. Калі рабіць паступовыя крокі да эканамічнай стабілізацыі, то, я думаю, гэта пасадзейнічае і палітычнай стабілізацыі ў нашым грамадстве.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ*

# РАСІЯ «СЯДЗІЦЬ НА ЧАМАДАНАХ»

**Другі тур у матчах чэмпіянату Еўропы па футболу, які праходзіць у Англіі, стаў для многіх каманд лебядзінай песняй.**

Першымі «пакаваць чамаданы» ўзяліся румыны пасля другога запар пройгрышу. На гэты раз сваім балканскім суседзям — балгарам — 0:1. І цяпер ужо нават перамога з любым лікам над іспанцамі не дае ім ніякіх шанцаў. Дарэчы, самі ж іспанцы аказаліся таксама ў незайздросным становішчы. Пасля дзвюх сустрэч — два ачкі і верагоднасць трапіць у чвэрцьфінал не вельмі вялікая. Цяпер ім трэба адпраўляць у накаўт румын і чакаць, як згуляюць балгары з французамі.

**Турнірнае становішча ў групе «В»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Францыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 2. Балгарыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 3. Іспанія | 2 | 0 | 2 | 0 | 2-2 | 2 |
| 4. Румынія | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-2 | 0 |

**18 чэрвеня**: Францыя — Балгарыя; Румынія — Іспанія

Другім няўдачнікам стала зборная Турцыі, якая таксама абедзве сустрэчы прайграла. Апошнюю — партугальцам з лікам 0:1. А вось зборная Харватыі ў групе «Д» ужо прабілася ў чвэрцьфінал, пасля прыгожай перамогі над датчанамі — 3:0

**Турнірнае становішча ў групе «Д»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Харватыя | 2 | 2 | 0 | 0 | 4-0 | 6 |
| 2. Партугалія | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 3. Данія | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-4 | 1 |
| 4. Турцыя | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-2 | 0 |

**19 чэрвеня:**
Харватыя — Партугалія
Турцыя — Данія

На чамаданах сядзіць і зборная Расіі. У групе «С», якую арганізатары турніру і журналісты ахрысцілі «групай смерці», расіяне ў параўнанні з італьянцамі і немцамі выглядалі вельмі блякла. І як вынік, другое паражэнне ад зборнай Германіі — 0:3.

Цяпер толькі цуд можа вывесці падначаленых Алега Раманцава ў чвэрцьфінал. Пры ўмове, што Расія выйграе ў Чэхіі з буйным лікам, а немцы выйграюць у італьянцаў.

**Турнірнае становішча ў групе «С»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Германія | 2 | 2 | 0 | 0 | 5-0 | 6 |
| 2. Чэхія | 2 | 1 | 0 | 1 | 1-4 | 3 |
| 3. Італія | 2 | 1 | 0 | 1 | 3-3 | 3 |
| 4. Расія | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-5 | 0 |

**19 чэрвеня**: Расія — Чэхія; Італія — Германія

А вось у групе «А» пакуль усе каманды захоўваюць планы на выхад у наступны этап розыгрышу. Перавага, праўда, на баку зборных Галандыі і Англіі, якія маюць па адной перамозе. Аднак сёння яны сустрэнуцца ў вочным паядынку. Магчыма, камусьці прыйдзецца саступіць, хоць абедзве зборныя задавальняе і нічыя.

**Турнірнае становішча ў групе «А»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Англія | 2 | 1 | 1 | 0 | 3-1 | 4 |
| 2. Галандыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-0 | 4 |
| 3. Швейцарыя | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-3 | 1 |
| 4. Шатландыя | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-2 | 1 |

**18 чэрвеня:**
Шатландыя — Швейцарыя;
Галандыя — Англія.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 22 (41)**


## Часопіс «ДОМ И САД» — сябар вашай сям'і

**Гэтага сімпатычнага крата завуць Гоша. Праўда, жыве ён не пад зямлёй, у цёмнай нары, як вядзецца, а на старонках папулярнага ілюстраванага часопіса «Дом и сад». Пасяліўшыся тут, Гоша «каменціруе» публікацыі, звяртаючы ўвагу чытача то на артыкул аб тым, як вырасціць цудоўную капусту, то на праект сучаснага катэджа ці дачы, а часам проста расказвае забаўныя гісторыі, на якія ён вялікі майстар.**

З'явіўшыся крыху больш года назад на кніжным рынку нашай рэспублікі, часопіс здолеў за кароткі час знайсці сваю чытацкую аўдыторыю. Чым жа прыцягвае людзей гэтае выданне? Перш за ўсё тым, што кожны можа знайсці тут нешта для сябе. Ідзе размова ці пра будаўніцтва дома, архітэктуру, ці пра эксклюзіўныя кулінарныя рэцэпты, ці пра тое, як вырасціць ураджай у сваім садзе, ці проста зрабіць зручным і ўтульным сваё жытло. «У чалавека заўсёды было жаданне пабудаваць свой дом, абараніць ад няўстойлівага і неспакойнага знешняга свету сваю сям'ю, сваё гарманічнае асяроддзе, стварыць прытулак супакаення і радасці», — піша ў адным са сваіх матэрыялаў пастаянны аўтар часопіса архітэктар Генадзь Басінкевіч. Знаёмячы чытачоў з навінкамі ў галіне архітэктуры і будаўніцтва, ён расказвае пра распрацоўкі энергазберагальных пабудоў: «Разглядаюцца варыянты трывалых дамоў з глінасаломы, з саламяных цюкоў — амаль бясплатнага матэрыялу, што атрымліваецца пасля ўборкі збожжавых культур».

Тым, хто ўжо мае свой дом ці проста кватэру, прысвячаецца серыя матэрыялаў па іх унутранаму дызайну, пра тое, як аформіць прыхожую, кухню, гасціную, дзіцячы пакой, спальню, зрабіць іх больш прыгожымі і функцыянальнымі.

У пачатку года чытачам часопіса было прапанавана пакапацца ў сямейных архівах і падзяліцца лепшым рэцэптам — ці то загатоўкі, фірменнай стравы ці нечага ну вельмі ўжо экзатычнага. Конкурс (прыз пераможцу — тэлевізар) знайшоў у чытачоў поўную падтрымку. Усе прысылаемыя рэцэпты публікуюцца і абмяркоўваюцца.

Дачнікі змогуць прачытаць у часопісе пра многія хітрасці ў вырошчванні памідораў, агуркоў, бульбы, зяленіва, садавіны і інш.

У адрозненне ад іншых аналагічных выданняў стваральнікі «Дома и сада» не абмяжоўваюцца толькі прыкладной тэматыкай. Яны паставілі перад сабой задачу раскрыць тэму духоўнасці нашага Дома. Бо ад яго, роднага куточка, усё пачынаецца ў нашым жыцці. І ад таго, які ваш Дом, ці саграває ён цяплом душы і рук, яго стварыўшых, залежыць вельмі шмат і ў лёсе, і ў знешнім абліччы жытла, і, нарэшце, у настроі яго насельнікаў.

На старонках часопіса шмат цікавага знойдзе для сябе і маладая мама, і яе дзіця, і ўся сям'я. Хатняму майстру ён дапаможа хутка і танна пабудаваць дом, аздобіць інтэр'ер, гаспадыні — здзівіць шэдэўрам кулінарнага майстэрства гурмана-мужа, уладальніку катэджа — разбіць прыгожы газон вакол дома, дачніку — пракарміцца са свайго ўчастка.

Для тых, хто не паспеў падпісацца на часопіс **«Дом и сад»,** паведамляем падпісны **індэкс у Беларусі: 74883. Падпісная цана — 9500 руб. на 1 месяц.**




**ПРАДАЁМ**
**рухавікі**
**да а/м ГАЗ-24, ГАЗ-53, М-412, М-2141 (1,7 л)**
**і інш. запчасткі**

**ТЭЛ. (0222) 25-00-00.**

***ПАСТАЯННА КУПЛЯЕМ***
***на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь***
**СУХОЕ МАЛАКО, КАЗЕІН.**

**Звяртацца: г. Вільнюс, 0122-72-19-98, 72-11-05. 01299-26754.**

**Куплю матацыкл імпартнай вытворчасці да 1945 г.в. і запчасткі да яго** *(у любым стане).*

**Звяртацца: 222310, Маладзечна-7, а/с 6.**

**Продаю** л/а Фольксваген-Пассат, GL, модель 90 г. в., пробег 45.000 км, состояние идеальное, двигатель 1,6 куб. л, белый, гидроусилитель руля, нерастоможен, цена 9,9 тыс. $.
*Тел. 50-43-73.*

**Продаю** л/а Опель-Вентра GLS, модель 90 г. в., пробег 80.000 км, коробка-автомат, ц/замок, велюр. салон, двигатель 1,8 куб. л, синий, нерастоможен, цена 7,5 тыс. $.
*Тел. 50-43-73.*
*Тел. (8-01622) 6-27-14, (8-01624) 1-37-06.*

***ВЫСТАЎКІ***

## ЧЭХІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ РУКУ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА. ЧЫМ АДКАЖУЦЬ БЕЛАРУСЫ?

**Чэшскі хрусталь, шкло, фарфор заўсёды выклікаюць пачуццё захаплення. Нават звычайны бытавы посуд там зроблены на ўзроўні мастацкіх рэчаў. І, як правіла, кожная выстаўка тавараў з гэтай краіны прыцягвае наведвальнікаў менавіта сваёй арыгінальнасцю, вытанчанасцю дызайна. Памятаю, у час сваёй першай паездкі ў Чэхаславакію, а было гэта больш за трыццаць гадоў таму, удзельнікаў нашай дэлегацыі, асабліва жанчын, не адцягнуць было ад вітрын тутэйшых магазінаў. Паездка ж на завод па вырабу хрусталю ў Карлавых Варах выклікала свайго роду сенсацыю: у той час прылаўкі нашых магазінаў выглядалі больш чым сціпла, а тут — такое хараство!**



Не меншае па сіле пачуццё ўзрушанасці, прынамсі мне, давялося зведаць на выстаўцы чэшскіх і славацкіх вырабаў, арганізаванай кампаніяй «Гарызонт Інтэрнацыянал», што адкрылася ў мінулую нядзелю на вуліцы Калектарнай, 20а беларускай сталіцы. Апроч ужо вышэй памянёных вырабаў са шкла і хрусталю ў шырокім асартыменце прадстаўлены наборы мэблі, у тым ліку і кухоннай, бытавых прыбораў, адзення, абутку і шмат чаго іншага, чым славяцца абедзве гэтыя краіны. Вядома ж, ёсць і багаты выбар славутага чэшскага піва. А прама ля будынка ззяюць фарбай дзве аўтамашыны сусветна вядомай маркі «Шкода — Філіцыя». Дарэчы, выстаўка гэтая пастаяннадзеючая, як і само прадстаўніцтва таварыства «Гарызонт Інтэрнацыянал», якое адкрылася ў гэты дзень у Рэспубліцы Беларусь.

А напярэдадні падзеі ў Міністэрстве знешнеэканамічных сувязей адбылася прэс-канферэнцыя для прэсы. Адкрываючы яе, міністр Міхаіл Марыніч засяродзіў увагу прысутных на тым, што гэта першае такое прадстаўніцтва замежнай дзяржавы, якое адкрылася ў сталіцы нашай рэспублікі. І гэта не проста выстаўка прамысловых і харчовых тавараў. У саставе чэшскай і славацкай дэлегацый каля 40 прадстаўнікоў найбольш вядомых прыватных фірмаў, якія гатовы да супрацоўніцтва з беларускімі калегамі ў самых розных галінах прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны маюць намер прыйсці сюды са сваімі тэхналогіяй, фінансамі. Дарэчы, гэтыя намеры пацвярджаюцца тым, што разам з прамыслоўцамі прысутнічаюць прадстаўнікі чатырох найбольш буйных чэшскіх банкаў. І яны ўжо наводзяць масты з беларускімі банкамі. Гэтую думку пацвердзілі ў сваіх выступленнях генеральны дырэктар таварыства «Гарызонт Інтэрнацыянал» Здэнек Збытэк, а таксама прадстаўнікі дзелавых колаў Чэхіі і Славакіі.

І ўсё ж, чаму менавіта чэхі і славакі, а не, скажам, тыя ж палякі ці венгры першымі працягнулі беларусам руку на актыўнае супрацоўніцтва ў самых розных галінах вытворчасці? І чаму нам, а не іншым краінам з былых рэспублік СССР аказаны такі гонар? Усё на дзіва проста. Чэхія — краіна з дастаткова развітымі прамысловасцю і сельскай гаспадаркай — выпрабляе больш, чым спажывае. У той жа час, па прызнанню саміх чэхаў, для большасці іх вырабаў заходнія рынкі закрыты, там вельмі жорсткая канкурэнцыя. Вось і скіравалі погляд на Усход, дзе калісьці мелі неблагі збыт тавараў. І, каб вярнуцца туды, прынялі рашэнне адкрыць сваё пастаяннае прадстаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь. Да таго ж Беларусь мае агульную граніцу з Расіяй, зняты мытныя бар'еры з Казахстанам і Кіргізіяй. А гэта — бязмежны рынак! Ну, а ўкладваць сюды сродкі — наогул справа заманлівая, бо вываз фінансаў яшчэ больш эфектыўная рэч, чым вываз тавараў. Асабліва калі ўлічыць, што наша рабочая сіла — самая, бадай, танная ў свеце. Хіба прымусіш сёння таго ж негра ўкалваць за сотню «баксаў» у месяц? А ў нас гэта нават больш за сярэднюю зарплату.



А якая ж выгада ад падобнага супрацоўніцтва для беларускага боку? Найперш — імідж. Пакуль чэхаў у свеце ведаюць больш, чым беларусаў. З гэтым трэба лічыцца. І дзейснае супрацоўніцтва з такімі краінамі, як Чэхія і Славакія, для нас прэстыжнае. Далей. З фінансамі, асабліва ў справе інвестыцый, у нас становішча дрэнь. За апошнія гады заходнія краіны ўклалі ў эканоміку Чэхіі больш чым 5 мільярдаў долараў. У нашу — кот наплакаў. І калі чэшскія фінансісты гатовы раскашэліцца, гэта трэба толькі вітаць.

Ці ўзяць такое даволі вострае і балючае пытанне, як машынабудаванне. Некалі Беларусь была для Саюза свайго роду зборачным цэхам. Сёння ў плане машынабудавання мы значна адсталі. У свой час прарыў у гэтай галіне Японія, Паўднёвая Карэя зрабілі спярша ў якасці зборшчыкаў мадэляў машын заходніх краін і толькі пасля гэтага наладзілі ўласную вытворчасць. Як ні парадаксальна, але нам сёння трэба асвойваць сучасную тэхналогію менавіта са зборкі. Без гэтага няма чаго думаць пра тое, каб рухацца далей. І калі тая ж кампанія па вытворчасці аўтамабіляў «Шкода» прапануе варыянты па зборцы гэтых машын на нашых заводах, то гэты крок вельмі важны. Адмовімся мы — яны знойдуць дарогу ў Расію. Як калісьці зрабілі галандцы, калі мы адмовіліся ад сумеснай вытворчасці кінескопаў.

Заходні капітал не ідзе да нас менавіта з-за таго, што няма належнага заканадаўства па абароне інвестыцый. З трывогай указвалі чэшскія прадпрымальнікі і на тыя высокія мытныя пошліны, што дзейнічаюць у рэспубліцы, і асабліва што датычыцца пошлін на новыя тэхналогіі. Словам, чэшскія і славацкія прадпрымальнікі працягваюць руку на супрацоўніцтва. Чым адкажуць на гэта беларусы?

**Уладзімір ГОЙТАН.**

На здымках: у зале, дзе праходзіць выстаўка (у цэнтры міністр Міхаіл Марыніч); увагу прыцягвае «Шкода-Філіцыя».

**Фота Сяргея ВАСІЛЬЕВА.**

**ПРАДАЕЦЦА**

- драўляны дом з садам, участкам 18 сотак, тэлефонам, побач рэчка, лес;
  *адрас: Мінская вобл., Вілейскі раён, в. Папоўцы. тэл. 44-3-19*
- рухавік да ВАЗ-2101 пасля кап. рамонту, КПП, задні мост. ЗИЛ-157 на ходу.
  *тэл. у Стоўбцах 58-6-85*
- цагляны дом 7,5х12, летняя кухня, участак 15 сотак Стаўбцоўскі раён, в. Мікалаеўшчына.
  *тэл. (8-218) 43-3-78*
- 2-пакаёвая кватэра ў драўляным доме, гаспадарчыя пабудовы, участак 6 сотак каля Чэрвеня.
  *Звяртацца: 222832, Пухавіцкі раён, в. Пухавічы, вул. Савецкая, 99-31. рабочы тэл. 57-0-28*
- дошкі розныя, вагонка.
  *тэл. 252-85-56*
- сарочкі мужчынскія (Германія). *тэл. 243-12-62*
- драўляны дом у пас. Партызанскім Вілейскага раёна.
  *Звяртацца у Вілейку па тэл. (8-271) 5-33-57 пасля 18*
- драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі і садам;
  *ст. Дашкаўка, 20 км ад Магілёва. тэл. 42-67-56*
- новы зруб 7х8 са страхой і будматэрыяламі ў г. Слуцку.
  *тэл.: 5-68-50, 7-56-42*
- УАЗ-469 «В» 87 г. в., зняты з учоту т/а да 1997 г.
  *г. Валожын.*
  *тэл. (8-272) 58-2-90*
- прыватызаваны зямельны ўчастак з цагляным 4-пакаёвым домам з цэнтральным ацяпленнем і ўсімі выгодамі, гараж, сад у в. Новадзевяткавічы Слонімскага раёна.
  *тэл. (8-262) 91-2-78*
- л/а Opel-Аскона 86 г. в. у добрым стане *тэл. 243-12-62*
- прадам сакрэт напісання тэкстаў песень (3.000$). Магчыма супрацоўніцтва. Тэксты незвычайныя.
  *Бярэзінскі раён.*
  *тэл. 58-6-98 (Дзмітрый)*
- дом у Вілейцы з гаспадарчымі пабудовамі, 18 сотак участак, сад.
  *тэл. у Мінску: 257-90-00, 263-80-10*
- кухня вытворчасці Швецыі.
  *тэл. у Мінску: 235-04-17, 294-42-88*
- прадаецца драўляны дом у Кобрыне; ёсць хлеў, сад, агарод.
  *тэл. (8-242) 2-14-10*
- маладая дойная карова.
  *Звяртацца ў г. Стоўбцы.*
  *тэл. 3-46-53*
- дом з садам і пабудовамі (участак 32 соткі) у в. Галубенькі — 3 км ад санаторыя «Нарач».
  *Звяртацца ў Паставы па тэл. (8-01255) 22-4-00*
- макароны, сокі (Грэцыя).
  *тэл. 243-12-62*
- дом з пабудовамі ў в. Пабокавічы Бабруйскага раёна.
  *тэл. у Бабруйску (8-0225) 2-49-47; у Асіповічах (8-02235) 3-45-01*
- кабыла жарэбная, 8 гадоў, жарэбчык 1 год у Пухавіцкім раёне, в. Суцін.
  *тэл. 71-6-01*
- дом з садам на ўчастку 14 сотак у цэнтры Вілейкі. *Даведкі па тэл. у Вілейцы 5-56-25.*

# ЦІ МАЕМ МЫ ПРАВА ЖЫЦЬ У ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЕ?

**Апошнія з 84 арыштаваных пасля разгону несанкцыяніраванага пікета 30 мая ў Мінску гэтымі днямі выходзяць на волю. Самы час падвесці вынікі гэтай сумнай падзеі з палітыка-прававога пункту гледжання. Грамадскасць Мінска, прадстаўнікі праваабарончых арганізацый, юрысты, дэпутаты Вярхоўнага Савета, журналісты і паспрабавалі гэта днямі ажыццявіць. 11 чэрвеня быў праведзены «круглы стол» па праблеме правапарушэнняў падчас сілавога разгону масавых акцый 26 красавіка і 30 мая ў Мінску. Ініцыятыва «круглага стала» зыходзіла ад Беларускага хельсінкскага камітэта, Беларускага Пэн-цэнтра, Беларускай асацыяцыі журналістаў і прававога штотыднёвіка «Феміда».**

АРГАНІЗАТАРЫ адразу спыталіся, ці ёсць хто-небудзь з прадстаўнікоў праваахоўных органаў, пракуратуры, якія запрашаліся на «круглы стол». Ніхто, аднак, не адклікнуўся...

Найбольшай сенсацыяй для ўсіх было з'яўленне на гэтым мерапрыемстве глуханямога юнака Анатоля Лясуна. Рэдактар «Феміды» Ірына Сакалова адзначыла, што яна некалькі дзён угаворвала яго прыйсці і расказаць людзям аб тым, што адбывалася з ім у час і пасля падзей 30 мая. Гэта быў мужны крок з яго боку, бо ніхто, на жаль, яму не гарантуе, што ягонае выступленне яму не прыпомняць нейкім чынам у ягонай навучальнай установе... Анатоль Лясун праз сурдаперакладчыка расказаў прысутным, як мог, аб тым нешчаслівым для яго і ганебным для нашага грамадства выпадку, калі ён быў беспадстаўна арыштаваны, пабіты міліцыяй і абвінавачаны ў тым, што лаяўся, выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі, размахваў рукамі. Такія вось фальшывыя пратаколы былі складзены нашымі «доблеснымі» прадстаўнікамі сіл аховы правапарадку на глуханямога чалавека! Вось што адрывачна расказаў ён праз перакладчыка на «круглым стале» 11 чэрвеня: 30 мая ён ішоў на практычныя заняткі ў другую змену, апынуўся каля ГУМа, яму захацелася перакусіць, але там было шмат людзей і яго нікуды не прапусцілі. У мітусні яго пачалі біць, нягледзячы на тое, што ён па-свойму патлумачыў міліцыянтам, што ён глухі. Анатоль убачыў, як білі старую жанчыну, як тая ўпала, ён хацеў яе абысці, але міліцыянеры схапілі яго за шыю, затрымалі, пасадзілі ў машыну і павезлі ў РАУС. Там забралі дакументы, высветлілі, дзе ён жыве, дзе вучыцца... Пачалі біць па галаве, душыць рукой, пужаць газавым балончыкам, паставілі да сценкі, пачалі збіваць нагамі... Павялі ў турму, сфатаграфавалі, распранулі. Суд быў у пятніцу, на наступны дзень, але перакладчыка не было, таму разбор справы адклалі, пакінуўшы хворага і невінаватага чалавека ў камеры да панядзелка. Там знайшлася адна жанчына, якая яму як магла памагала, пазней прыехаў бацька, які быў у панядзелак у судзе. На судзе «сведкам» быў міліцыянер, які падпісаў сфальсіфікаваны пратакол. Анатоль патлумачыў, што ні ў якім мітынгу ён не удзельнічаў, і, натуральна, нічога не крычаў, суддзя сказала, што ён невінаваты, і адпусціла яго...

Гэтая прыкрая гісторыя нікога не пакінула абыякавым, а вядомы мінскі адвакат Гарый Паганяйла заявіў, што ён гатовы бясплатна ўзяцца за справу Лесуна, калі той падасць заяву на ўзбуджэнне крымінальнай справы па факту перавышэння службовых паўнамоцтваў з боку супрацоўнікаў міліцыі, пабояў і фальсіфікацыі пратаколаў. Як зазначыў адвакат, Анатоль мае права патрабаваць кампенсацыі матэрыяльнага і маральнага ўрону ад праваахоўных органаў і канкрэтных асоб, якія ўчынілі злачынства ў адносінах да яго. Экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Лявон Баршчэўскі патлумачыў, што корань зла гэтай і шматлікіх падобных сітуацый у тым, што міліцыянеры атрымалі права выступаць сведкамі ў судзе. Такое рашэнне, зусім беспадстаўна, на яго погляд, было прынята яшчэ ранейшым саставам парламента...

Былі і іншыя сведчанні беззаконнасці ў адносінах да беспадстаўна затрыманых людзей 30 мая.

Алена Сумскова патлумачыла, што яна са сваім бацькам у той дзень выпадкова трапіла ў натоўп, міліцыянты білі яе па патыліцы, забралі і адвезлі ў РАУС, а потым у прыёмнік-размеркавальнік. Там Алена патлумачыла, што ў яе дзіця 3,5 года, а таму яе не маюць права затрымліваць... Тое самае яна сказала і суддзі. «Суддзя Крывая не выслухала майго сведку, а выслухала амонаўцаў. Пра дзіця я ёй таксама сказала», — з горыччу расказвала Алена Сумскова. Яна адседзела тыдзень...

Раіса Селівончык таксама была эмацыянальнай, яна некалькі разоў плакала, расказваючы пра сваю гісторыю адносінаў з праваахоўнымі органамі:«За кінатэатрам «Перамога» на нас напалі людзі ў цывільным, пачалі збіваць... Загналі на вялікі двор у РАУС, дзе было ўжо 50—60 чалавек затрыманых, у асноўным моладзі, многія пабітыя, у крыві... Майго сына білі па нырках, і я на гэта глядзела. Я крыкнула: не біце. Тады амонавец загадаў мне стаць тварам да сцяны. Я заплакала... Нас адвезлі ў Кастрычніцкі РАУС, не давалі доўга піць, не пускалі ў туалет. Суддзя Кастрычніцкага суда нас абвінаваціла...»

У нейкі момант, калі здавалася, што ўся размова так і будзе прысвечана канкрэтным гісторыям канкрэтных людзей, адзін з дэпутатаў выказаў расчараванне: а дзе ж прапановы, як палепшыць сітуацыю з правамі чалавека. У рэшце рэшт, амаль усе сышліся на тым, што свае правы людзі павінны ўмець бараніць самі. «Пракуратура абараняе не закон, а ўладу, — зазначыў дэпутат А. Бухвостаў. — Выйсцем можа быць толькі барацьба кожнага за свае правы».

«Сёння з 29 правоў, гарантаваных Канстытуцыяй, у дастаткова поўным аб'ёме выконваюцца толькі 18—20 працэнтаў. Астатнія па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах не выконваюцца, — зазначыў дэпутат У. Нісцюк. — Няма простага выйсця з гэтай сітуацыі, калі выканаўчая ўлада з пагардай ставіцца да законаў. Не лепшае выйсце заклікаць людзей на мітынгі, ведаючы, што іх будуць разганяць. На сёння заканадаўчая ўлада не здольна прывесці жыццё ў адпаведнасць з законамі». У. Нісцюк заклікаў не зводзіць размову толькі да адной падзеі 30 мая, бо праблема больш аб'ёмная, але па пытанню дэманстрацый ён унёс слушную прапанову: «З сённяшняга дня я пачынаю распрацоўваць законапраект аб дэманстрацыях, мітынгах, пікетах, трэба развіваць адпаведны артыкул Канстытуцыі».

Сярод розных думак дастаткова часта гучала меркаванне аб нізкай прававой культуры насельніцтва, людзей, якія не ведаюць сваіх правоў і не разумеюць, як іх абараняць. Вера Тэрлікевіч, кранаўшчыца з МТЗ, абвергла такі падыход, спасылаючыся на свой вопыт: яна бараніла як магла свае правы, яна зняла ўсе свае пабоі ў судова-медыцынскай экспертызе, напісала заявы, але ніякага плёну гэта не дало. А што можа тады дапамагчы ў барацьбе са свавольствам? Журналіст Алесь Мікалайчанка, які 30 мая быў таксама збіты палкай па руках, зазначыў, што калі ўлада не зможа абараніць яго, то ў наступны раз прыйдзецца прыйсці «ўзброеным да зубоў», і заканадаўчая ўлада павінна даць людзям права абараняць сябе даступнымі сродкамі, калі не можа забяспечыць іх бяспеку. Гаварылася гэта, натуральна, эмацыянальна, пад уздзеяннем перажытага. Але за гэтымі словамі чулася ўжо небяспека. Яшчэ больш канкрэтна на гэтую тэму выказаўся Юрый Пятруша, прадстаўнік Партыі здаровага сэнсу, які 30 мая быў арыштаваны: «Мы знаходзімся на самым краі бездані, якая называецца вайной. Юнакі ў наступныя разы настроены ісці пабаявому, з заточкамі і арматурай. А прадстаўнікі міліцыі на гэта кажуць, што мы іх расстраляем... Хлапчукоў гэтых, якія сядзелі са мной, білі смертным боем. Іх правакуюць...» Жахліва, калі гэтыя словы сапраўды адпавядаюць рэчаіснасці. Але няма сумнення ў тым, што насілле выклікае пратэст і жаданне процідзеяння. Прадстаўнікі праваахоўных органаў павінны гэта зразумець.

Дык ці маем мы права жыць у прававой дзяржаве, ці ёсць у нас правы чалавека? А можа, у нас сапраўды, як сказаў адзін чыноўнік, дзейнічаюць беларускія законы, а не нейкія выдуманыя правы чалавека? На жаль, ніхто з супрацоўнікаў органаў, якія закліканы абараняць нашы правы, не прыйшоў на гэты «круглы стол». Давялося звязвацца з МУС, УУС Мінгарвыканкома, супрацоўнікі якіх зазвычай адзначалі, што ім нічога невядома пра гэтыя факты, а калі і вядома, то з газет ці расійскага тэлебачання. Адзінае, што ўдалося высветліць, дык гэта тое, што па факту арышту, збіцця і лжэсведчанняў у адносінах да глуханямога юнака вядзецца службовае расследаванне. Можа, супрацоўнікі праваахоўных органаў усё-такі разбяруцца хоць з гэтым адзіным недарэчным фактам?

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# АНАТОЛЬ ЛЯСУН НЕ БЫЎ ВЫПАДКОВЫМ ПРАХОЖЫМ...

ПА АБАВЯЗКУ службы мне з групай супрацоўнікаў даводзіцца праводзіць растлумачальную работу з грамадзянамі ў час забеспячэння аховы грамадскага парадку пры правядзенні несанкцыяніраваных грамадскіх мерапрыемстваў. З гэтай мэтай мы папярэджваем удзельнікаў аб адказнасці і звяртаем іх увагу на тое, што ў выпадку невыканання законных патрабаванняў работнікаў міліцыі могуць быць прыняты меры па спыненню незаконных акцый. Аб тым, што існуе пэўны парадак правядзення такіх мерапрыемстваў і ўстаноўлена адказнасць за яго парушэнне, супрацоўнікі ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкома неаднаразова выступалі ў сродках масавай інфармацыі. Аднак такія мерапрыемствы без адпаведнага дазволу Мінгарвыканкома або з грубымі парушэннямі ўстаноўленага парадку праводзіліся 24 сакавіка, 2, 26 красавіка і 14 мая. Пры гэтым арганізатары такіх масавых акцый да звароту ў Мінгарвыканком па дазвол аб іх правядзенні распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі з заклікамі прыняць у іх удзел. На праводзімую растлумачальную работу аб неабходнасці захавання заканадаўства, якое рэгулюе парадак правядзення сходаў, мітынгаў, шэсцяў і дэманстрацый, арганізатары такіх мерапрыемстваў не рэагавалі.

28 і 29 мая бягучага года ў розных частках Мінска зноў з'явіліся ананімныя лістоўкі з заклікамі правядзення 30 мая ў 17.00 гадзін ля рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пікетавання ў знак падтрымкі грамадзян Беларусі і Украіны, арыштаваных пракуратурай г. Мінска за арганізацыю і актыўны ўдзел у групавых парушэннях грамадскага парадку 26 красавіка 1996 года. Ніхто з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый або грамадзян па дазвол на правядзенне такой акцыі ў Мінскі гарвыканком не звяртаўся.

Да 17.00 гадзін 30 мая ў скверы каля Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы сабралася да 700 грамадзян. Асобныя з іх у парушэнне арт. 167-2 КаАП Рэспублікі Беларусь дэманстратыўна размахвалі бела-чырвона-белымі флагамі. Прысутныя моцна крычалі, скандзіравалі фразы, якія выказвалі мэту пікетавання. Чулася нецэнзурная лаянка і непрыстойныя выразы. Намі пастаянна вялася растлумачальная работа з выкарыстаннем гучнагаварыцеляў. Прысутным грамадзянам прапаноўвалася разысціся, тлумачылася проціпраўнасць іх дзеянняў і магчымыя юрыдычныя вынікі. Яны папярэджваліся аб магчымасці прымянення фізічнай сілы ў адпаведнасці з Законам «Аб міліцыі» ў выпадку працягу проціпраўных дзеянняў. На законныя патрабаванні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў удзельнікі несанкцыяніраванага мерапрыемства не рэагавалі, паводзілі сябе агрэсіўна, выкрыквалі пагрозы ў адрас супрацоўнікаў міліцыі. Ніхто з прысутных на пікетаванні грамадзян не заявіў аб сабе як аб арганізатары гэтага мерапрыемства, не спрабаваў заклікаць да парадку.

Сярод прысутных чуліся заклікі ісці на пл. Незалежнасці. Пасля чаго маса грамадзян накіравалася на пр-т Скарыны, перашкаджаючы пры гэтым свабоднаму перамяшчэнню грамадзян па тратуарах. Рухомы натоўп папоўніўся за кошт прахожых, пераважна падлеткаў і моладзі. Дзеянні, якія груба парушалі грамадскі парадак, не спыняліся. Стваралася рэальная пагроза перакрыцця руху транспарту на праезнай частцы пр-та Скарыны і бліжэйшых вуліц.

Ля перакрыжавання з вул. Леніна шэсце было слынена заслонам работнікаў міліцыі. Удзельнікі пачалі групамі перабягаць праезную частку пр-та Скарыны да ГУМа, ствараючы небяспеку ДТЗ. Асобныя паводзілі сябе агрэсіўна, выкарыстоўвалі ў якасці масак галаўныя хусткі, збівалі работнікаў міліцыі. У выніку стварылася пагроза ўзнікнення масавых беспарадкаў.

У сувязі з гэтым былі прыцягнуты дадатковыя сілы міліцыі і прыняты меры па затрыманню найбольш актыўных парушальнікаў грамадскага парадку. У працэсе затрымання асобныя з іх аказвалі супраціўленне работнікам міліцыі, вырываліся, ірвалі адзенне.

У такіх выпадках супрацоўнікі ў адпаведнасці з патрабаваннямі арт. 20 Закона «Аб міліцыі» ў адносінах да правапарушальнікаў прымянялі гумавыя палкі. Спецыяльнай каманды на іх прымяненне не давалася, паколькі такое рашэнне кожны супрацоўнік абавязаны прымаць самастойна, зыходзячы з канкрэтнай сітуацыі.

За парушэнне грамадскага парадку былі затрыманы і дастаўлены ў райорганы 84 найбольш злосныя парушальнікі. У адносінах да затрыманых складзены адміністрацыйныя пратаколы.

Здзіўляе той факт, што ў некаторых сродках масавай інфармацыі распаўсюджана не адпаведная рэчаіснасці інфармацыя наконт затрымання 30 мая 1996 года супрацоўнікамі міліцыі студэнта медвучылішча № 2 А. А. Лесуна, які ад нараджэння як быццам з'яўляецца глуханямым. Адкуль з'яўляюцца такія «вуткі», нескладана здагадацца. У чарговы раз нас спрабуюць абвінаваціць у чэрствасці і бяздушнасці, ды і аб'ект для гэтага выбраны, прама скажам, удалы. Страшны факт беспарадкаў падносіцца так, быццам А. А. Лясун быў затрыманы ў той момант, калі выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі. Прыгожа! Але ці так было на самай справе? Давайце звернемся да адміністрацыйных матэрыялаў у адносінах да «бязвінна» пацярпеўшага юнака. У пратаколе адзначана, што ён затрыманы ў час правядзення несанкцыяніраванага мітынгу, пры гэтым аказваў непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, кідаўся ў бойку. А вось вытрымка з рапарта таго, хто яго затрымліваў: «30 мая ў 19.30 на праспекце Скарыны быў затрыманы Лясун А. А., які, знаходзячыся на мітынгу, кідаўся на работнікаў міліцыі, размахваў драўлянай палкай, аказваў супраціўленне пры затрыманні». Адпаведна, народным судом Ленінскага раёна за непадпарадкаванне законным патрабаванням работніка міліцыі вынесена пастанова аб прыцягненні яго да адказнасці і ён падвергнуты адміністрацыйнаму арышту тэрмінам на чацвёра сутак.

У той дзень мне асабіста давялося двойчы сутыкнуцца з А. А. Лесуном у натоўпе. Першы раз, калі я паспрабаваў затрымаць грамадзяніна, які дэманстратыўна выходзіў на праезную частку праспекта Скарыны і не рэагаваў на мае заўвагі, аднак падлеткі, у ліку якіх быў і А. А. Лясун, гэтага зрабіць не далі. І другі, калі ў чарговы раз мы паспрабавалі пераканаць прысутных разысціся і не парушаць грамадскага парадку. У гэты час нас узяў у кола натоўп, пры гэтым паважаны А. А. Лясун ззаду пачаў мяне тузаць і спрабаваў аказаць процідзеянне, на зробленую мной заўвагу адрэагаваў агрэсіўна, пры гэтым усе свае эмоцыі выказваў незразумелымі выкрыкамі. Усё гэта адбывалася з 18.30 да 19.00, таму А. А. Лясун ніяк не мог аказацца проста прахожым, ён прымаў непасрэдны ўдзел у шэсці.

Што ж датычыцца здагадак пэўных журналістаў, то гэта сама меней неэтычна. Дарэчы, у гутарцы з выкладчыкамі, якія вучаць будучага медработніка, выказваліся горыч і неўразуменне наконт іх выхаванца, вельмі ўспрымальнага да любой крыўды, але ўцягнутага ў нячыстую гульню. У гэтым выпадку крыўдзіцелямі выступіла міліцыя, застаецца толькі падліваць масла ў агонь. Аднак вінаватых дзяцей усё ж часта караюць бацькі.

**Андрэй АФОНІН,**
**нам. начальніка аддзела кадраў УУС Мінгарвыканкома,**
**маёр міліцыі.**

**Ад рэдакцыі.** *Да матэрыяла А. Афоніна прыкладзены здымкі, зробленыя відэакамерай, апублікаваць якія немагчыма з-за іх недастатковай тэхнічнай якасці.*

## КРЫМІНАЛ

### У МІНСКУ ЗАТРЫМАНЫ ДЗВЕ ГРУПЫ ЗЛАЧЫНЦАЎ

У пачатку чэрвеня супрацоўнікамі сталічнай міліцыі затрымана група злачынцаў, у саставе якой — двое жыхароў Петрапаўлаўска-Камчацкага (Далёкі Усход, Расія) і вясковец з Докшыцкага раёна. У заезджых гастралёраў і іх беларускага «падзельніка» канфіскавана тры адзінкі агнястрэльнай зброі з глушыцелямі і боепрыпасамі.

Следствам устаноўлены два факты разбойных нападаў, учыненых членамі гэтай банды. У красавіку яны пранікլі ў прыватны дом галоўнага бухгалтара аднаго з мінскіх таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, дзе ўкралі 5400 долараў ЗША і 600 тысяч рублёў.

У пачатку чэрвеня злачынцы напалі ў Мінску на адну з кватэр па вуліцы Матусевіча. У кватэры яны засталі грамадзяніна Пакістана і жыхара Мурманска, у якіх адабралі 800 долараў ЗША.

Супрацоўнікамі праваахоўных органаў затрыманы таксама трое злачынцаў, якія ўчынілі разбойны напад на кватэру навуковага супрацоўніка Інстытута фізікі цвёрдых целаў і паўправаднікоў АН Беларусі. Пад пагрозай агнястрэльнай зброі яны адабралі ў гаспадара 350 кілаграмаў чырвонай ікры.

Як паведамілі «Интерфаксу» ў прэс-цэнтры МУС, разбоі цяпер з'яўляюцца тым відам злачынстваў, дынаміка развіцця якіх вельмі непакоіць органы ўнутраных спраў. Нягледзячы на ўзрослую раскрывальнасць і прафілактыку, колькасць нападаў за 5 месяцаў бягучага года, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, узрасла на 29,1 працэнта.

Штосутачна ў краіне адбываецца ў сярэднім 3-4 разбоі, а з пачатку бягучага года зафіксавана 608 такіх злачынстваў.

### У РЭСПУБЛІЦЫ РАСЦЕ КОЛЬКАСЦЬ ЗЛАЧЫНСТВАЎ, ЗВЯЗАНЫХ З НАРКОТЫКАМІ

З пачатку года ў рэспубліцы выяўлена 739 злачынстваў, звязаных з наркотыкамі і іншымі рэчывамі, якія моцна ўздзейнічаюць на арганізм чалавека, паведамілі «Интерфаксу» ў інфармацыйна-аналітычным цэнтры Міністэрства ўнутраных спраў. Канфіскавана 539 кілаграмаў сыравіны, а таксама 18,5 кілаграма наркатычных рэчываў. За аналагічны перыяд мінулага года гэтыя лічбы адпаведна складалі 361 кілаграм і 35,2 кілаграма.

Найвялікшае распаўсюджванне атрымалі незаконны выраб, набыццё, захоўванне і перавозка наркатычных сродкаў. Па рэспубліцы выяўлена 648 такіх фактаў. 274 з іх зарэгістраваны ў Гомельскай вобласці, 83 — у Мінску.

Супрацоўнікамі праваахоўных органаў зарэгістравана таксама 10 фактаў крадзяжу наркатычных сродкаў.

**«Интерфакс».**

### ЗА КРАДЗЕЖ НУМАРНЫХ ЗНАКАЎ — У ТУРЭМНУЮ КАМЕРУ

У Гродне затрыманы тры групы зладзеяў, якія на працягу некалькіх тыдняў займаліся крадзяжом і перапродажам нумарных знакаў аўтамабіляў. У ходзе папярэдняга расследавання ўстаноўлена, што ад іх пацярпелі каля 300 мясцовых і прыезджых аўтааматараў.

У саставе груп пераважалі падлеткі, якія падзарабляюць на мыцці машын, аднак былі і дарослыя. На «промысел» яны выходзілі начамі, прычым здымалі, як правіла, нумарныя знакі новых узораў і чырвонага колеру. Збывалі іх і самастойна, а таксама праз перакупшчыка, які, дарэчы, адначасова гандляваў аўтамабілямі. Набывалі нумарныя знакі грамадзяне з Расіі, якія прыязджалі на мясцовы аўтамабільны рынак за пакупкамі. Камплект нумарных знакаў каштаваў 5—10 долараў.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў праваахоўных органах, па незвычайнай справе абвінавачваюцца каля 10 чалавек. Па артыкулу, што прадугледжвае адказнасць за крадзяжы, ім пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да 6 гадоў або папраўчыя работы.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб аўтарскім праве і сумежных правах

### РАЗДЗЕЛ I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. Прадмет рэгулявання Закона

Гэты Закон рэгулюе адносіны, якія ўзнікаюць у сувязі са стварэннем і выкарыстаннем твораў навукі, літаратуры і мастацтва (аўтарскае права), выкананняў, пастановак, фанаграм, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання (сумежныя правы).

Артыкул 2. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб аўтарскім праве і сумежных правах

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб аўтарскім праве і сумежных правах складаецца з палажэнняў Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, гэтага Закона, іншых нарматыўных актаў аб аўтарскім праве і сумежных правах.

Артыкул 3. Асноўныя паняцці

Для мэт гэтага Закона ўказаныя ніжэй тэрміны маюць наступнае значэнне:

аўтар — фізічная асоба, творчай працай якой створаны твор;

аўдыёвізуальны твор — гэта твор, які складаецца з зафіксаванай серыі звязаных паміж сабой кадраў (з гукавым суправаджэннем ці без яго) і прызначаны для зрокавага і слыхавога (у выпадку гукавога суправаджэння) успрымання з дапамогай адпаведных тэхнічных устройстваў; аўдыёвізуальныя творы ўключаюць у сябе кінематаграфічныя творы і ўсе творы, якія выражаны сродкамі, аналагічнымі кінематаграфіі; тэле-, відэафільмы, слайдфільмы і іншыя формы незалежна ад спосабу іх першапачатковай або наступнай фіксацыі;

база даных — аб'ектыўная форма прадстаўлення і арганізацыі сукупнасці даных, сістэматызаваных такім чынам, каб гэтыя даныя маглі быць знойдзены і апрацаваны з дапамогай ЭВМ;

узнаўленне твора — выраб аднаго або больш экземпляраў твора або фанаграмы ў любой матэрыяльнай форме, у тым ліку ў форме гука- і відэазапісу, а таксама запіс твора або фанаграмы для часовага ці пастаяннага захоўвання ў электроннай (уключаючы лічбавую), аптычнай або іншай машыначытаемай форме;

узнаўленне фанаграмы — выраб аднаго ці больш экземпляраў фанаграмы або яе часткі на любым матэрыяльным носьбіце;

дэкампіляванне праграмы для ЭВМ — пераўтварэнне аб'ектнага кода праграмы ў яе зыходны тэкст;

запіс — фіксацыя гукаў і (або) выяў з дапамогай тэхнічных сродкаў у якой-небудзь матэрыяльнай форме, якая дазваляе ажыццяўляць іх неаднаразовае ўспрыманне, узнаўленне або паведамленне;

вытворца аўдыёвізуальнага твора — фізічная або юрыдычная асоба (асобы), якая ўзяла на сябе ініцыятыву і адказнасць за выраб такога твора; пры адсутнасці доказаў іншага вытворцам аўдыёвізуальнага твора прызнаецца асоба, імя або назва якой абазначаны на гэтым творы звычайным спосабам;

вытворца фанаграмы — фізічная або юрыдычная асоба (асобы), якая ўзяла на сябе ініцыятыву і адказнасць за першы гукавы запіс якога-небудзь выканання або іншых гукаў; пры адсутнасці доказаў іншага вытворцам фанаграмы прызнаецца асоба, імя або назва якой абазначаны на гэтай фанаграме і (або) на футляры, што змяшчае яе, звычайным спосабам;

выкананне — прадстаўленне твора, фанаграмы, выканання, пастаноўкі праз гульню, дэкламацыю, спевы, танец у жывым выкананні або пры дапамозе якіх-небудзь тэхнічных сродкаў (тэле-, радыёвяшчання, кабельнага тэлебачання і іншых тэхнічных сродкаў); паказ кадраў аўдыёвізуальнага твора ў іх паслядоўнасці (з гукавым суправаджэннем ці без яго);

выканаўца — акцёр, спявак, музыкант, танцор або іншая асоба, якая іграе ролю, спявае, чытае, дэкламуе, іграе на музычным інструменце або якім-небудзь іншым чынам выконвае творы літаратуры або мастацтва (у тым ліку эстрадны, цыркавы або лялечны нумар), а таксама рэжысёр-пастаноўшчык спектакля і дырыжор;

народная творчасць — тварэнні, якія складаюцца з характэрных элементаў традыцыйнай мастацкай спадчыны, уключаючы народныя казкі, народную паэзію, народныя песні, інструментальную народную музыку, народныя танцы і п'есы, мастацкія формы народных абрадаў і іншыя;

уладальнік аўтарскага права або сумежных правоў — аўтар або выканаўца ў выпадках, калі маёмаснымі правамі надзелены аўтар або выканаўца; фізічная асоба або іншая, чым аўтар або выканаўца, юрыдычная асоба ў выпадках, калі маёмаснымі правамі надзелена такая фізічная або юрыдычная асоба; фізічная або юрыдычная асоба, якой былі ўступлены маёмасныя правы;

абнародаванне твора — ажыццёўленае са згоды аўтара дзеянне, якое ўпершыню робіць твор даступным для ўсеагульнага ведама шляхам яго апублікавання, публічнага паказу, публічнага выканання, перадачы ў эфір або іншым спосабам;

грамадскі набытак — прававы статус твораў, аўтарскае права на якія скончылася або адсутнічала;

апублікаванне (выпуск у свет) — выпуск у абарачэнне экземпляраў твора або фанаграмы са згоды аўтара ці іншага ўладальніка аўтарскага права і сумежных правоў у колькасці, якая задавальняе разумныя патрэбнасці публікі шляхам продажу, здачы ўнаём, публічнага пракату або шляхам іншай перадачы права ўласнасці ці права валодання экземплярам твора або фанаграмы; пад апублікаваннем падразумяваецца таксама прадастаўленне доступу да твора, фанаграмы праз электронныя сістэмы інфармацыі;

перадача ў эфір — паведамленне твораў, фанаграм, выкананняў, пастановак, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання для ўсеагульнага ведама (уключаючы паказ або выкананне) пры дапамозе іх перадачы па радыё або тэлебачанню, у тым ліку праз спадарожнікі (за выключэннем кабельнага тэлебачання). Пры перадачы твораў, фанаграм, выкананняў, пастановак, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання ў эфір праз спадарожнік пад «перадачай у эфір» разумеецца прыём сігналаў з наземнай станцыі на спадарожнік і перадача сігналаў са спадарожніка, пры дапамозе якіх твор, фанаграма, выкананне, пастаноўка, перадачы арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання могуць быць даведзены да ўсеагульнага ведама незалежна ад фактычнага прыёму іх публікай;

перадача арганізацыі эфірнага або кабельнага вяшчання — перадача, створаная самой арганізацыяй эфірнага або кабельнага вяшчання, а таксама па яе заказу і за кошт яе сродкаў — іншай арганізацыяй;

паказ твора — дэманстрацыя арыгінала або экземпляра твора непасрэдна ці на экране з дапамогай плёнкі, дыяпазітыва, тэлевізійнага кадра або пры дапамозе якіх-небудзь іншых тэхнічных сродкаў, а таксама дэманстрацыя асобных кадраў аўдыёвізуальнага твора без захавання іх паслядоўнасці;

наступная перадача ў эфір — наступная перадача ў эфір раней перададзеных у эфір твораў, фанаграм, выкананняў, пастановак, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання;

праграма для ЭВМ — аб'ектыўная форма прадстаўлення сукупнасці каманд і даных, прызначаных для функцыянавання ЭВМ і іншых камп'ютэрных устройстваў з мэтай атрымання пэўнага выніку, уключаючы падрыхтоўчыя матэрыялы, атрыманыя ў ходзе распрацоўкі праграмы для ЭВМ, і параджаемыя ёю аўдыёвізуальныя адлюстраванні;

твор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — двухмерны або трохмерны твор мастацтва, перанесены на прадметы практычнага карыстання, уключаючы твор мастацкага промыслу або твор, які вырабляецца прамысловым спосабам;

публічны паказ, публічнае выкананне або паведамленне для ўсеагульнага ведама — любы паказ, выкананне або паведамленне твораў, фанаграм, выкананняў, пастановак, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання непасрэдна ці з дапамогай якіх-небудзь тэхнічных сродкаў у месцы, адкрытым для свабоднага наведвання, або ў месцы, дзе прысутнічаюць асобы, якія не з'яўляюцца членамі сям'і, незалежна ад таго, ці ўспрымаюцца творы, фанаграмы, выкананні, пастаноўкі, перадачы арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання ў месцы іх паведамлення або ў іншым месцы адначасова з паведамленнем твораў, фанаграм, выкананняў, пастановак, перадач арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання;

рэжысёр-пастаноўшчык спектакля — асоба, якая ажыццявіла пастаноўку тэатральнага, цыркавога, лялечнага, эстраднага або іншага спектакля (прадстаўлення);

рэпрадуктаванне (рэпраграфічнае ўзнаўленне) — факсімільнае ўзнаўленне ў любых памеры і форме аднаго ці больш экземпляраў арыгіналаў або копій пісьмовых і іншых графічных твораў шляхам фотакапіравання або з дапамогай якіх-небудзь іншых тэхнічных сродкаў, акрамя выдання; рэпраграфічнае ўзнаўленне не ўключае ў сябе захоўванне або ўзнаўленне ўказаных копій у электроннай (уключаючы лічбавую), аптычнай або іншай машыначытаемай форме;

паведамляць для ўсеагульнага ведама па кабелю — паведамляць твор, фанаграму, выкананне, пастаноўку, перадачы арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання для ўсеагульнага ведама пры дапамозе кабеля, провада, аптычнага валакна або аналагічных сродкаў;

паведамляць — паказваць, выконваць, перадаваць у эфір або ажыццяўляць любое іншае дзеянне (за выключэннем распаўсюджвання экземпляраў твора або фанаграмы), пры дапамозе якога творы, фанаграмы, пастаноўкі, перадачы арганізацый эфірнага або кабельнага вяшчання становяцца даступнымі для слыхавога і (або) зрокавага ўспрымання незалежна ад іх фактычнага ўспрымання публікай;

тапалогія інтэгральнай мікрасхемы — зафіксаванае на матэрыяльным носьбіце прасторава-геаметрычнае размяшчэнне сукупнасці элементаў інтэгральнай мікрасхемы і сувязей паміж імі;

фанаграма — любы выключна гукавы запіс выкананняў або іншых гукаў;

экземпляр твора — копія твора, выробленая ў любой матэрыяльнай форме;

экземпляр фанаграмы — копія фанаграмы на любым матэрыяльным носьбіце, якая выраблена непасрэдна ці ўскосна з фанаграмы і ўключае ўсе або частку гукаў, зафіксаваных у гэтай фанаграме.

### РАЗДЗЕЛ II. АЎТАРСКАЕ ПРАВА

#### Глава 1. Аб'екты аўтарскага права

Артыкул 4. Сфера дзеяння аўтарскага права

1. У адпаведнасці з гэтым Законам аўтарскае права распаўсюджваецца на творы, якія абнародаваны або неабнародаваны, але знаходзяцца ў якой-небудзь аб'ектыўнай форме:

а) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, незалежна ад грамадзянства аўтараў і іх правапераемнікаў;

б) за межамі Рэспублікі Беларусь, і прызнаецца за аўтарамі — грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і іх правапераемнікамі;

в) за межамі Рэспублікі Беларусь, і прызнаецца за аўтарамі (іх правапераемнікамі) — грамадзянамі іншых дзяржаў — у адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

2. Твор лічыцца апублікаваным у Рэспубліцы Беларусь, калі на працягу 30 дзён пасля даты першага апублікавання за межамі Рэспублікі Беларусь ён быў апублікаваны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

3. Пры прадастаўленні на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь аховы твору ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі аўтар твора вызначаецца па закону краіны, дзе мела месца дзеянне або падзея, што паслужыла падставай для валодання аўтарскімі правамі.

Артыкул 5. Аб'ект аўтарскага права

1. Аўтарскае права распаўсюджваецца на творы навукі, літаратуры і мастацтва, якія з'яўляюцца вынікам творчай дзейнасці, незалежна ад прызначэння і вартасці твора, а таксама спосабу яго выражэння.

2. Аўтарскае права распаўсюджваецца як на абнародаваныя, так і на неабнародаваныя творы, што знаходзяцца ў якой-небудзь аб'ектыўнай форме:

пісьмовай (рукапіс, машынапіс, нотны запіс і гэтак далей);

вуснай (публічнае гаварэнне, публічнае выкананне і гэтак далей);

гука- або відэазапісу (механічнага, магнітнага, лічбавага, аптычнага і гэтак далей);

выявы (малюнак, эскіз, карціна, план, чарцёж, кіна-, тэле-, відэа- або фотакадр і гэтак далей);

аб'ёмна-прасторавай (скульптура, мадэль, макет, збудаванне і гэтак далей);

іншых формах.

3. Частка твора (уключаючы яго назву), якая мае прыметы, указаныя ў пункце 1 гэтага артыкула, і можа выкарыстоўвацца самастойна, з'яўляецца аб'ектам аўтарскага права.

4. Аўтарскае права не распаўсюджваецца на ідэі, прынцыпы, метады, працэсы, сістэмы, спосабы, канцэпцыі, паведамленні аб падзеях і фактах, што ляжаць у аснове ахоўваемых аўтарскім правам твораў.

5. Аўтарскае права на твор не звязана з правам уласнасці на матэрыяльны аб'ект, у якім твор выражаны.

Перадача права ўласнасці або права валодання якім-небудзь матэрыяльным аб'ектам сама па сабе не выклікае перадачу якіх-небудзь аўтарскіх правоў на твор, выражаны ў гэтым аб'екце, за выключэннем, прадугледжаным артыкулам 16 гэтага Закона.

Артыкул 6. Творы, якія з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права

1. Аб'ектамі аўтарскага права з'яўляюцца:

літаратурныя і літаратурна-мастацкія творы (кнігі, брашуры і іншыя пісьмовыя творы), навуковыя, навукова-тэхнічныя, у тым ліку і тапалогіі інтэгральных мікрасхем, вучэбныя і публіцыстычныя творы, праграмы для ЭВМ і базы даных, прамовы, лекцыі, даклады, звароты, пропаведзі і гэтак далей;

драматычныя і музычна-драматычныя творы, сцэнарныя творы;

харэаграфічныя творы і пантамімы;

музычныя творы з тэкстам і без тэксту;

аўдыёвізуальныя творы (кіна-, тэле- і відэафільмы і праграмы, слайдфільмы, дыяфільмы і іншыя кіна- і тэлетворы);

творы жывапісу, скульптуры, графікі, дызайну, графічныя апавяданні, коміксы і іншыя творы выяўленчага мастацтва;

творы дэкаратыўна-прыкладнога і сцэнаграфічнага мастацтва;

творы архітэктуры, горадабудаўніцтва і садова-паркавага мастацтва;

фатаграфічныя творы і творы, атрыманыя спосабамі, аналагічнымі фатаграфіі;

геаграфічныя, геалагічныя і іншыя карты, планы, эскізы і пластычныя творы, якія адносяцца да геаграфіі, тапаграфіі і іншых навук;

іншыя творы.

2. Ахова праграм для ЭВМ распаўсюджваецца на ўсе віды праграм, уключаючы прыкладныя праграмы і аперацыйныя сістэмы, якія могуць быць выражаны на любой мове і ў любой форме, уключаючы зыходны тэкст і аб'ектны код.

3. Да аб'ектаў аўтарскага права таксама адносяцца:

вытворныя творы, такія, як пераклады і апрацоўкі, анатацыі, рэфераты, рэзюме, агляды, інсцэніроўкі, музычныя аранжыроўкі і іншыя перапрацоўкі твораў навукі, літаратуры і мастацтва;

зборнікі твораў, такія, як энцыклапедыі, анталогіі, базы даных і іншыя састаўныя творы, якія ўяўляюць сабой па падбору або размяшчэнню матэрыялаў вынік творчай працы.

Вытворныя творы і зборнікі твораў ахоўваюцца аўтарскім правам незалежна ад таго, ці з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права творы, на якіх яны заснаваны або якія яны ўключаюць.

Артыкул 7. Творы, якія не з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права

Не з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права:

афіцыйныя дакументы (законы, судовыя рашэнні, іншыя тэксты заканадаўчага, адміністрацыйнага і судовага характару), а таксама іх афіцыйныя пераклады;

дзяржаўныя сімвалы і знакі (сцяг, герб, гімн, ордэны, грашовыя знакі і іншыя дзяржаўныя сімвалы і знакі);

творы народнай творчасці;

паведамленні інфармацыйнага характару аб падзеях і фактах.

Артыкул 8. Узнікненне аўтарскага права. Прэзумпцыя аўтарства

1. Аўтарскае права на творы навукі, літаратуры і мастацтва ўзнікае ў выніку факта яго стварэння. Для ўзнікнення і ажыццяўлення аўтарскага права не патрабуецца выканання якіх-небудзь фармальнасцей.

2. Уладальнік выключных аўтарскіх правоў для абвяшчэння аб сваіх правах мае права выкарыстоўваць знак аховы аўтарскага права, які змяшчаецца на кожным экземпляры твора і абавязкова складаецца з трох элементаў:

лацінскай літары «С» у акружнасці: С;

імя (назвы) уладальніка выключных аўтарскіх правоў;

года першага апублікавання твора.

3. Уладальнік аўтарскага права або якога-небудзь выключнага паўнамоцтва на творы для сведчання аб аўтарстве на абнародаваны ці неабнародаваны твор, аб факце і даце апублікавання твора або аб дагаворах, якія закранаюць правы аўтара на твор, у любы час на працягу тэрміну аховы аўтарскага права можа яго зарэгістраваць у афіцыйных рэестрах.

Рэгістрацыя ажыццяўляецца спецыяльна ўпаўнаважаным цэнтральным органам кіравання Рэспублікі Беларусь, які выдае пасведчанні аб рэгістрацыі правоў аўтара і яго твораў. Пры ўзнікненні спрэчкі рэгістрацыя прызнаецца судом як юрыдычная прэзумпцыя аўтарства, гэта значыць лічыцца сапраўднай, калі ў судовым парадку не будзе даказана іншае.

4. Асоба, якая валодае матэрыяльным аб'ектам, у якім выражаны твор, не можа перашкаджаць уладальніку аўтарскага права ў рэгістрацыі.

5. Пры адсутнасці доказаў іншага аўтарам твора лічыцца асоба, указаная ў якасці аўтара на арыгінале або экземпляры твора.

6. Пры апублікаванні твора ананімна або пад псеўданімам (за выключэннем выпадку, калі псеўданім аўтара не пакідае сумнення ў яго асобе) выдавец, імя або назва якога абазначана на творы, пры адсутнасці доказаў іншага лічыцца прадстаўніком аўтара ў адпаведнасці з гэтым Законам і ў гэтай якасці мае права абараняць правы аўтара і забяспечваць іх ажыццяўленне.

Гэта палажэнне будзе дзейнічаць да таго часу, пакуль аўтар такога твора не раскрые сваю асобу і не заявіць аб сваім аўтарстве на твор.

Артыкул 9. Сааўтарства

1. Аўтарскае права на твор, створаны сумеснай творчай працай дзвюх ці больш асоб (сааўтарства), належыць сааўтарам сумесна незалежна ад таго, ці ўтварае такі твор адно непарыўнае цэлае або складаецца з частак, кожная з якіх мае самастойнае значэнне.

Частка твора прызнаецца маючай самастойнае значэнне, калі яна можа быць выкарыстана незалежна ад іншых частак гэтага твора.

Кожны з сааўтараў мае права выкарыстоўваць створаную ім частку твора, якая мае самастойнае значэнне, паводле свайго меркавання, калі іншае не прадугледжана пагадненнем паміж імі.

2. Права на выкарыстанне твора ў цэлым належыць сааўтарам сумесна.

Узаемаадносіны сааўтараў могуць вызначацца пагадненнем паміж імі.

Калі твор сааўтараў утварае адно непарыўнае цэлае, то ні адзін з сааўтараў не мае права без дастатковых на тое падстаў забараніць выкарыстанне твора.

Артыкул 10. Аўтарскае права складальнікаў зборнікаў і іншых састаўных твораў

1. Аўтару зборніка і іншых састаўных твораў (складальніку) належыць аўтарскае права на ажыццёўлены ім падбор або размяшчэнне матэрыялаў, што з'яўляецца вынікам творчай працы (складальніцтва).

Складальнік карыстаецца аўтарскім правам пры ўмове захавання ім правоў аўтараў кожнага з твораў, уключаных у састаўны твор.

Аўтары твораў, уключаных у састаўны твор, маюць права выкарыстоўваць свае творы незалежна ад састаўнога твора, калі іншае не прадугледжана аўтарскім дагаворам.

Аўтарскае права складальніка не перашкаджае іншым асобам ажыццяўляць самастойны падбор або размяшчэнне тых жа матэрыялаў для стварэння сваіх састаўных твораў.

2. Асобе, якая выпускае ў свет энцыклапедыі, энцыклапедычныя слоўнікі, перыядычныя зборнікі і маючыя працяг зборнікі навуковых прац, газеты, часопісы і іншыя перыядычныя выданні, належаць выключныя правы на выкарыстанне такіх выданняў у цэлым. Гэта асоба мае права пры любым выкарыстанні такіх выданняў указваць сваю назву або патрабаваць такога ўказання.

Аўтары твораў, уключаных у такія выданні, захоўваюць выключныя правы на выкарыстанне сваіх твораў незалежна ад выдання ў цэлым.

Артыкул 11. Аўтарскае права перакладчыкаў і аўтараў іншых вытворных твораў

1. Перакладчыкам і аўтарам іншых вытворных твораў належыць аўтарскае права на ажыццёўлены імі пераклад, аранжыроўку або іншую перапрацоўку.

2. Перакладчык і аўтар іншага вытворнага твора карыстаюцца аўтарскім правам на створаны імі твор пры ўмове захавання імі правоў аўтара твора, які падвергся перакладу, аранжыроўцы або іншай перапрацоўцы.

3. Аўтарскае права перакладчыка і аўтараў іншых вытворных твораў не перашкаджае іншым асобам ажыццяўляць свае пераклады і перапрацоўкі тых жа твораў.

Артыкул 12. Аўтарскае права на аўдыёвізуальныя творы

1. Аўтарамі аўдыёвізуальнага твора з'яўляюцца рэжысёр-пастаноўшчык, аўтар сцэнарыя, аўтар спецыяльна створанага для аўдыёвізуальнага твора музычнага твора з тэкстам і без тэксту, а таксама іншыя асобы, якія ўдзельнічалі ў стварэнні аўдыёвізуальнага твора па дагавору і ўнеслі ў яго творчы ўклад.

2. Заключэнне дагавора на стварэнне аўдыёвізуальнага твора мае вынікам перадачу аўтарамі гэтага твора вытворцу аўдыёвізуальнага твора выключных правоў на ўзнаўленне, распаўсюджванне, публічнае выкананне, паведамленне па кабелю для ўсеагульнага ведама, перадачу ў эфір або любое іншае публічнае паведамленне аўдыёвізуальнага твора, а таксама субтытраванне і дубліраванне тэксту аўдыёвізуальнага твора, калі іншае не прадугледжана ў дагаворы. Указаныя правы дзейнічаюць на працягу тэрміну дзеяння аўтарскага права на аўдыёвізуальны твор.

Вытворца аўдыёвізуальнага твора мае права пры любым выкарыстанні гэтага твора ўказваць сваё імя або назву ці патрабаваць такога ўказання.

3. Пры публічным выкананні аўдыёвізуальнага твора аўтар музычнага твора (з тэкстам або без тэксту) захоўвае права на ўзнагароджанне за публічнае выкананне яго музычнага твора.

4. Аўтары твораў, што ўвайшлі састаўной часткай у аўдыёвізуальны твор, як існаваўшых раней (раман, пакладзены ў аснову сцэнарыя, і іншыя), так і створаных у працэсе работы над ім (аператарам-пастаноўшчыкам, мастаком-пастаноўшчыкам і іншымі), карыстаюцца аўтарскім правам кожны на свой твор.

Артыкул 13. Аўтарскае права на твор, створаны ў парадку выканання службовага задання

1. Аўтарскае права на твор, створаны ў парадку выканання службовага задання, належыць аўтару.

Права на выкарыстанне такога твора спосабам, абумоўленым мэтай задання, і ў межах, што вынікаюць з яго, належыць асобе, па заданню якой ён створаны.

2. Асоба, якая дала заданне на стварэнне твора, заключае з аўтарам дагавор, які можа прадугледжваць выплату аўтарскага ўзнагароджання і абмежаванні права на выкарыстанне твора асобай, якая дала заданне.

3. Асоба, па службоваму заданню якой быў створаны твор, мае права пры выкарыстанні ёю твора ўказваць сваю назву.

4. На стварэнне ў парадку выканання службовых абавязкаў або службовага задання энцыклапедый, энцыклапедычных слоўнікаў, перыядычных і маючых працяг зборнікаў навуковых прац, газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў (пункт 2 артыкула 10 гэтага Закона) палажэнні гэтага артыкула не распаўсюджваюцца.

#### Глава 2. Аўтарскія правы

Артыкул 14. Асабістыя немаёмасныя правы

1. Аўтару ў адносінах да яго твора належаць наступныя асабістыя немаёмасныя правы:

права прызнавацца аўтарам твора (права аўтарства);

права выкарыстоўваць або дазваляць выкарыстоўваць твор пад сапраўдным імем аўтара, псеўданімам або без абазначэння імя, гэта значыць ананімна (права на імя);

права абнародаваць або дазваляць абнародаваць твор у любой форме (права на абнародаванне), уключаючы права на адкліканне;

права на абарону твора, уключаючы яго назву, ад усякага скажэння або іншага замаху, здольнага нанесці ўрон гонару і годнасці аўтара (права на абарону рэпутацыі аўтара).

2. Аўтар мае права адмовіцца ад раней прынятага рашэння аб абнародаванні твора (права на адкліканне) пры ўмове пакрыцця карыстальніку прычыненых такім рашэннем страт, уключаючы ўпушчаную выгаду. Калі твор ужо быў абнародаваны, аўтар абавязаны публічна абвясціць аб яго адкліканні. Пры гэтым ён мае права зняць за свой кошт з абарачэння раней вырабленыя экземпляры твора. Для твораў, створаных у парадку выканання службовага задання, палажэнні гэтага пункта не прымяняюцца.

(Працяг на 10-й стар.)

# Аб аўтарскім праве і сумежных правах

(Працяг. Пачатак на 9-й стар.)

3. Асабістыя немаёмасныя правы належаць аўтару незалежна ад яго маёмасных правоў і захоўваюцца за ім нават пасля ўступкі выключных правоў на выкарыстанне твора.

Артыкул 15. Маёмасныя правы

1. Аўтару ў адносінах да яго твора належаць выключныя правы на выкарыстанне твора ў любой форме і любым спосабам.

2. Выключныя правы аўтара на выкарыстанне твора азначаюць права ажыццяўляць або дазваляць наступныя дзеянні:

узнаўляць твор (права на ўзнаўленне);

распаўсюджваць экземпляры твора любым спосабам (права на распаўсюджванне);

імпартаваць экземпляры твора ў мэтах распаўсюджвання, уключаючы экземпляры, выраблены з дазволу ўладальніка выключных аўтарскіх правоў (права на імпарт);

публічна паказваць твор (права на публічны паказ);

публічна выконваць твор (права на публічнае выкананне);

паведамляць твор (уключаючы паказ, выкананне або перадачу ў эфір) для ўсеагульнага ведама шляхам перадачы ў эфір і (або) наступнай перадачы ў эфір (права на перадачу ў эфір);

паведамляць твор (уключаючы паказ, выкананне або перадачу ў эфір) для ўсеагульнага ведама па кабелю, правадах або з дапамогай іншых аналагічных сродкаў (права на паведамленне для ўсеагульнага ведама па кабелю);

перакладаць твор (права на пераклад);

перарабляць, аранжыраваць або іншым чынам перапрацоўваць твор (права на перапрацоўку).

Выключныя правы аўтара на выкарыстанне дызайнерскага, архітэктурнага, горадабудаўнічага і садова-паркавага праектаў уключаюць таксама практычную рэалізацыю такіх праектаў. Аўтар прынятага архітэктурнага праекта мае права патрабаваць ад заказчыка прадастаўлення права на ўдзел у рэалізацыі свайго праекта пры распрацоўцы дакументацыі для будаўніцтва і пры будаўніцтве будынка або збудавання, калі іншае не прадугледжана дагаворам.

3. Аўтар мае права на аўтарскае ўзнагароджанне за кожны від выкарыстання твора (права на ўзнагароджанне). Памер і парадак налічэння аўтарскага ўзнагароджання ўстанаўліваюцца ў аўтарскім дагаворы, а таксама ў дагаворах, якія заключаюць арганізацыі, што кіруюць маёмаснымі правамі аўтараў, з карыстальнікамі. Пры гэтым памер узнагароджання не можа быць ніжэй мінімальных ставак, якія зацвярджаюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Калі экземпляры правамерна апублікаванага твора ўведзены ў грамадзянскі абарот праз іх продаж, то дапускаецца іх далейшае распаўсюджванне без згоды аўтара і без выплаты аўтарскага ўзнагароджання.

Права на распаўсюджванне экземпляраў твора шляхам здачы іх у часовае карыстанне (пракат) належыць аўтару незалежна ад права ўласнасці на гэтыя экземпляры.

5. Абмежаванні правоў аўтараў, указаных у пункце 2, устанаўліваюцца артыкуламі 17—20 гэтага Закона пры ўмове, што такое абмежаванне не наносіць неапраўданага ўрону нармальнаму выкарыстанню твора і неабгрунтавана не ўшчамляе законныя інтарэсы аўтара.

Артыкул 16. Права доступу да твораў выяўленчага мастацтва. Права наследавання

1. Аўтар твора выяўленчага мастацтва мае права патрабаваць ад уласніка твора прадастаўлення магчымасці ажыццяўлення права на ўзнаўленне свайго твора (права доступу). Пры гэтым ад уласніка твора нельга патрабаваць дастаўкі твора аўтару.

2. Пераход права ўласнасці на твор выяўленчага мастацтва (за плату або бязвыплатны) ад аўтара да іншай асобы азначае першую ўступку правоў на гэты твор.

У кожным выпадку публічнага перапродажу твора выяўленчага мастацтва (праз аўкцыён, галерэю выяўленчага мастацтва, мастацкі салон, магазін і г. д.) аўтар мае права на атрыманне ад прадаўца ўзнагароджання ў памеры 5 працэнтаў перапродажнай цаны (права наследавання). Указанае права з'яўляецца неадчужальным і пераходзіць толькі да наследнікаў аўтара па закону або па завяшчанню на тэрмін дзеяння аўтарскага права.

**Глава 3. Абмежаванні маёмасных правоў**

Артыкул 17. Узнаўленне твора ў асабістых мэтах

1. Дапускаецца без згоды аўтара і без выплаты аўтарскага ўзнагароджання ўзнаўленне чужога правамерна абнародаванага твора выключна для задавальнення асабістых патрэбнасцей або патрэбнасцей членаў сям'і, акрамя выпадку, устаноўленага часткай першай пункта 3 гэтага артыкула.

2. Пункт 1 гэтага артыкула не прымяняецца ў адносінах да:

а) узнаўлення твораў архітэктуры ў форме будынкаў і аналагічных збудаванняў;

б) узнаўлення баз даных або істотных частак з іх;

в) узнаўлення праграм для ЭВМ, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкулам 20 гэтага Закона;

г) рэпрадуктавання кніг (поўнасцю) і нотных тэкстаў.

3. У выпадку ўзнаўлення фізічнымі асобамі ў асабістых мэтах аўдыёвізуальнага твора або твора, зафіксаванага на фанаграме, аўтар ці іншы праваўладальнік мае права атрымліваць адпаведнае ўзнагароджанне.

Узнагароджанне выплачваецца вытворцамі або імпарцёрамі абсталявання (аўдыё- і відэамагнітафоны і іншае абсталяванне), матэрыяльных носьбітаў (гука- і (або) відэаплёнкі і касеты, лазерныя дыскі, кампакт-дыскі і іншыя матэрыяльныя носьбіты), якія выкарыстоўваюцца для такога ўзнаўлення.

Збор і размеркаванне гэтага ўзнагароджання ажыццяўляецца арганізацыямі, якія кіруюць маёмаснымі правамі аўтараў.

Узнагароджанне падлягае размеркаванню паміж аўтарамі або іншымі ўладальнікамі аўтарскіх і (або) сумежных правоў на творы, указаныя ў гэтым пункце, у адносінах да якіх можна меркаваць, што яны ўзнаўляліся ў асабістых мэтах.

4. Узнагароджанне не выплачваецца за абсталяванне і матэрыяльныя носьбіты, указаныя ў пункце 3 гэтага артыкула, якія з'яўляюцца:

а) прадметамі экспарту;

б) прафесійным абсталяваннем, не прызначаным для выкарыстання ў хатніх умовах.

Артыкул 18. Выкарыстанне твора без згоды аўтара і без выплаты аўтарскага ўзнагароджання

Дапускаецца без згоды аўтара і без выплаты аўтарскага ўзнагароджання, але з абавязковым указаннем імя аўтара, твор якога выкарыстаны, і крыніцы запазычання:

1) цытаванне ў арыгінале і ў перакладзе ў навуковых, даследчых, палемічных, крытычных і інфармацыйных мэтах урыўкаў з правамерна апублікаваных твораў у аб'ёме, апраўданым мэтай цытавання, уключаючы ўзнаўленне ўрыўкаў з газетных і часопісных артыкулаў у форме аглядаў друку;

2) выкарыстанне правамерна апублікаваных твораў і ўрыўкаў з іх у якасці ілюстрацый у выданнях, радыё- і тэлеперадачах, гука- і відэазапісах вучэбнага характару ў аб'ёме, апраўданым пастаўленай мэтай;

3) узнаўленне ў газетах, перадача ў эфір або паведамленне па кабелю для ўсеагульнага ведама правамерна апублікаваных у газетах і часопісах артыкулаў па бягучых эканамічных, палітычных, сацыяльных і рэлігійных пытаннях або перададзеных у эфір твораў аналагічнага характару ў выпадках, калі такія ўзнаўленне, перадача ў эфір або паведамленне па кабелю не былі спецыяльна забаронены аўтарам;

4) узнаўленне ў газетах, перадача ў эфір або паведамленне па кабелю для ўсеагульнага ведама палітычных прамоў, зваротаў, дакладаў і іншых аналагічных твораў, з якімі выступілі публічна, у аб'ёме, апраўданым інфармацыйнай мэтай. Пры гэтым за аўтарам захоўваецца права на апублікаванне такіх твораў у зборніках;

5) узнаўленне або паведамленне для ўсеагульнага ведама ў аглядах бягучых падзей сродкамі фатаграфіі, шляхам перадачы ў эфір або паведамлення для ўсеагульнага ведама па кабелю твораў, убачаных або пачутых у ходзе такіх падзей, у аб'ёме, апраўданым інфармацыйнай мэтай. Пры гэтым за аўтарам захоўваецца права на апублікаванне такіх твораў у зборніках;

6) узнаўленне без атрымання прыбытку правамерна абнародаваных твораў рэльефна-кропкавым шрыфтам або іншымі спецыяльнымі спосабамі для сляпых, акрамя твораў, спецыяльна створаных для такіх спосабаў узнаўлення;

7) узнаўленне, перадача ў эфір або паведамленне для ўсеагульнага ведама па кабелю твораў архітэктуры, фатаграфіі, выяўленчага мастацтва, якія пастаянна размешчаны ў месцы, адкрытым для свабоднага наведвання, за выключэннем выпадкаў, калі выява твора з'яўляецца асноўным аб'ектам такога ўзнаўлення, перадачы ў эфір або паведамлення для ўсеагульнага ведама па кабелю або калі выява твора выкарыстоўваецца ў камерцыйных мэтах;

8) узнаўленне правамерна абнародаванага твора для судовага або адміністрацыйнага вядзення;

9) выкананне правамерна абнародаваных твораў у час афіцыйных дзяржаўных і рэлігійных цырымоній, а таксама пры аказанні рытуальных паслуг. У гэтых выпадках указанне імя аўтара і крыніцы запазычвання неабавязковае.

Артыкул 19. Рэпраграфічнае ўзнаўленне твораў бібліятэкамі, архівамі і адукацыйнымі ўстановамі

Дапускаецца без згоды аўтара або іншага ўладальніка аўтарскага права і без выплаты аўтарскага ўзнагароджання, але з абавязковым указаннем імя аўтара, твор якога выкарыстоўваецца, і крыніцы запазычвання рэпраграфічнае ўзнаўленне без атрымання прыбытку ў адзінкавым экземпляры:

а) бібліятэкамі або архівамі — правамерна апублікаванага твора для замены страчаных, знішчаных або стаўшых непрыгоднымі для выкарыстання экземпляраў; прадастаўлення экземпляраў твора іншым бібліятэкам для замены страчаных, знішчаных або стаўшых непрыгоднымі для выкарыстання твораў з іх фондаў, калі атрыманне такога экземпляра пры звычайных умовах іншым шляхам немагчыма;

б) бібліятэкамі або архівамі па запытах фізічных асоб у вучэбных і даследчых мэтах — асобных артыкулаў і малааб'ёмных твораў, правамерна апублікаваных у зборніках, газетах і іншых перыядычных выданнях, урыўкаў з правамерна апублікаваных пісьмовых твораў (з ілюстрацыямі або без ілюстрацый);

в) адукацыйнымі ўстановамі для аўдыторных заняткаў — асобных артыкулаў і малааб'ёмных твораў, правамерна апублікаваных у зборніках, газетах і іншых перыядычных выданнях, урыўкаў з правамерна апублікаваных пісьмовых твораў (з ілюстрацыямі або без ілюстрацый).

Артыкул 20. Узнаўленне праграм для ЭВМ і баз даных. Дэкампіляванне праграм для ЭВМ

1. Асоба, якая правамерна валодае экземплярам праграмы для ЭВМ або базы даных, мае права без атрымання дазволу аўтара або іншага ўладальніка выключных правоў на выкарыстанне твора і без выплаты дадатковага ўзнагароджання:

а) унесці ў праграму для ЭВМ або базу даных змяненні, якія ажыццяўляюцца выключна ў мэтах яе функцыянавання на тэхнічных сродках карыстальніка, ажыццяўляць любыя дзеянні, звязаныя з функцыянаваннем праграмы для ЭВМ або базы даных у адпаведнасці з яе прызначэннем, у тым ліку запіс і захоўванне ў памяці ЭВМ (адной ЭВМ або аднаго карыстальніка сеткі), а таксама выпраўленні яўных памылак, калі іншае не прадугледжана дагаворам з аўтарам;

б) вырабіць копію праграмы для ЭВМ або базы даных пры ўмове, што гэта копія прызначана толькі для архіўных мэт і для замены правамерна набытага экземпляра ў выпадках, калі арыгінал праграмы для ЭВМ або базы даных страчаны, знішчаны або стаў непрыгодным для выкарыстання. Пры гэтым копія праграмы для ЭВМ або базы даных не можа быць выкарыстана для іншых мэт, чым указана ў падпункце «а» гэтага пункта, і павінна быць знішчана ў выпадку, калі валоданне экземплярам гэтай праграмы для ЭВМ або базы даных перастае быць правамерным.

2. Асоба, якая правамерна валодае экземплярам праграмы для ЭВМ, мае права без згоды аўтара або іншага ўладальніка выключных правоў і без выплаты дадатковага ўзнагароджання ўзнавіць і пераўтварыць аб'ектны код у зыходны тэкст (дэкампіляваць праграму для ЭВМ) або даручыць іншым асобам ажыццявіць гэтыя дзеянні, калі яны неабходны для дасягнення здольнасці да ўзаемадзеяння незалежна распрацаванай такой асобай праграмы для ЭВМ з іншымі праграмамі, якія могуць узаемадзейнічаць з дэкампілюемай праграмай, пры выкананні наступных умоў:

а) інфармацыя, неабходная для дасягнення здольнасці да ўзаемадзеяння, раней не была даступная такой асобе з іншых крыніц;

б) указаныя дзеянні абмяжоўваюцца часткамі дэкампілюемай праграмы для ЭВМ, якія неабходныя для дасягнення здольнасці да ўзаемадзеяння;

в) інфармацыя, атрыманая ў выніку дэкампілявання, можа выкарыстоўвацца толькі для дасягнення здольнасці да ўзаемадзеяння распрацаванай праграмы для ЭВМ з іншымі праграмамі, не можа перадавацца іншым асобам, за выключэннем выпадкаў, калі гэта неабходна для дасягнення здольнасці да ўзаемадзеяння незалежна распрацаванай праграмы для ЭВМ, а таксама не можа выкарыстоўвацца для распрацоўкі праграмы для ЭВМ, па свайму выгляду падобнай на дэкампілюемую праграму, або для ажыццяўлення любога іншага дзеяння, якое парушае аўтарскае права.

3. Прымяненне палажэнняў гэтага артыкула не павінна наносіць неапраўданага ўрону нармальнаму выкарыстанню праграмы для ЭВМ або базы даных і не павінна неабгрунтавана ўшчамляць законныя інтарэсы аўтара або іншага ўладальніка выключных правоў на праграму для ЭВМ або базу даных.

**Глава 4. Тэрмін дзеяння аўтарскага права**

Артыкул 21. Тэрмін дзеяння аўтарскага права

1. Аўтарскае права дзейнічае на працягу ўсяго жыцця аўтара і 50 гадоў пасля яго смерці, акрамя выпадкаў, прадугледжаных гэтым артыкулам.

Права аўтарства, права на імя і права на абарону рэпутацыі аўтара ахоўваюцца бестэрмінова.

2. Аўтар мае права ў тым жа парадку, у якім назначаецца выканаўца завяшчання, указаць асобу, на якую ён ускладае ахову права аўтарства, права на імя і права на абарону рэпутацыі аўтара пасля сваёй смерці. Гэта асоба ажыццяўляе свае паўнамоцтвы пажыццёва.

Пры адсутнасці такіх указанняў ахова права аўтарства, права на імя і права на абарону рэпутацыі аўтара пасля яго смерці ажыццяўляецца яго наследнікамі або спецыяльна ўпаўнаважаным цэнтральным органам кіравання Рэспублікі Беларусь, які ажыццяўляе такую ахову, калі наследнікаў няма або іх аўтарскае права спынілася.

3. Аўтарскае права на твор, абнародаваны ананімна або пад псеўданімам, дзейнічае на працягу 50 гадоў пасля даты яго правамернага абнародавання.

Калі на працягу ўказанага тэрміну аўтар твора, выпушчанага ананімна або пад псеўданімам, раскрые сваю асобу або яго асоба не будзе далей пакідаць сумненняў, то прымяняецца пункт 1 гэтага артыкула.

4. Аўтарскае права на твор, створаны ў сааўтарстве, дзейнічае на працягу ўсяго жыцця і 50 гадоў пасля смерці апошняга аўтара, які перажыў іншых сааўтараў.

5. Вылічэнне тэрмінаў, прадугледжаных гэтым артыкулам, пачынаецца з 1 студзеня года, які ідзе за годам, у якім меў месца юрыдычны факт, што з'яўляецца падставай для пачатку цячэння тэрміну.

Артыкул 22. Грамадскі набытак

1. Сканчэнне тэрміну дзеяння аўтарскага права на творы азначае іх пераход у грамадскі набытак.

Творы, ахова якім на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ніколі не прадастаўлялася, таксама лічацца перайшоўшымі ў грамадскі набытак.

2. Творы, якія перайшлі ў грамадскі набытак, могуць свабодна выкарыстоўвацца любой асобай без выплаты аўтарскага ўзнагароджання. Пры гэтым павінны захоўвацца права аўтарства, права на імя і права на абарону рэпутацыі аўтара (артыкул 14 гэтага Закона).

3. Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь могуць устанаўлівацца выпадкі і парадак выплаты спецыяльных адлічэнняў за выкарыстанне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь твораў, якія перайшлі ў грамадскі набытак.

Артыкул 23. Пераход аўтарскага права ў спадчыну

Аўтарскае права пераходзіць у спадчыну.

Не пераходзіць у спадчыну права аўтарства, права на імя і права на абарону рэпутацыі аўтара. Наследнікі аўтара і выканаўцы завяшчання маюць права ажыццяўляць абарону ўказаных правоў. Гэтыя правамоцтвы наследнікаў і выканаўцаў завяшчання тэрмінам не абмяжоўваюцца.

Пры адсутнасці наследнікаў аўтара абарону ўказаных правоў ажыццяўляе спецыяльна ўпаўнаважаны на тое орган Рэспублікі Беларусь.

**Глава 5. Перадача маёмасных правоў**

Артыкул 24. Перадача маёмасных правоў. Аўтарскі дагавор

1. Маёмасныя правы, указаныя ў артыкуле 15 гэтага Закона, могуць перадавацца толькі па аўтарскаму дагавору, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкуламі 17—20 і 36 гэтага Закона.

Перадача маёмасных правоў можа ажыццяўляцца на аснове аўтарскага дагавора аб перадачы выключных правоў або на аснове аўтарскага дагавора аб перадачы невыключных правоў.

2. Аўтарскі дагавор аб перадачы выключных правоў дазваляе выкарыстанне твора пэўным спосабам і ва ўстаноўленых дагаворам межах толькі асобе, якой гэтыя правы перадаюцца, і дае такой асобе права забараняць падобнае выкарыстанне твора іншым асобам.

Права забараняць выкарыстанне твора іншым асобам можа ажыццяўляцца аўтарам твора, калі асоба, якой перададзены выключныя правы, не абараняе гэта права.

3. Аўтарскі дагавор аб перадачы невыключных правоў дазваляе карыстальніку выкарыстанне твора нараўне з уладальнікам выключных правоў, які перадаў такія правы, і (або) іншым асобам, што атрымалі дазвол на выкарыстанне гэтага твора такім жа спосабам.

4. Правы, якія перадаюцца па аўтарскаму дагавору, лічацца невыключнымі, калі ў дагаворы не прадугледжана іншае.

Артыкул 25. Змест аўтарскага дагавора

1. Аўтарскі дагавор павінен прадугледжваць спосабы выкарыстання твора (канкрэтныя правы, якія перадаюцца па дадзенаму дагавору); тэрмін і тэрыторыю, на якія перадаецца права; памер узнагароджання і (або) парадак вызначэння памеру ўзнагароджання за кожны спосаб выкарыстання твора, парадак і тэрміны яго выплаты, а таксама іншыя ўмовы, якія бакі палічаць неабходнымі.

Пры адсутнасці ў аўтарскім дагаворы ўмовы аб тэрміне перадачы правоў дагавор можа быць скасаваны аўтарам па сканчэнні пяці гадоў з даты яго заключэння, калі карыстальніку будзе пісьмова паведамлена аб гэтым за шэсць месяцаў да скасавання дагавора.

Пры адсутнасці ў аўтарскім дагаворы ўмовы аб тэрыторыі, на якую перадаецца права, дзеянне перадаваемага па дагавору права абмяжоўваецца тэрыторыяй Рэспублікі Беларусь.

2. Усе правы на выкарыстанне твора, не перададзеныя па аўтарскаму дагавору, лічацца неперададзенымі.

Прадметам аўтарскага дагавора не могуць быць правы на выкарыстанне твора, невядомыя на момант заключэння дагавора.

3. Узнагароджанне вызначаецца ў аўтарскім дагаворы ў выглядзе працэнта ад даходу за адпаведны спосаб выкарыстання твора або, калі гэта немагчыма ажыццявіць у сувязі з характарам твора ці асаблівасцямі яго выкарыстання, у выглядзе цвёрда зафіксаванай сумы або іншым чынам. Пры гэтым памер цвёрда зафіксаванай сумы не можа быць ніжэй мінімальных ставак, што ўстанаўліваюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Калі ў аўтарскім дагаворы аб выданні або іншым узнаўленні твора ўзнагароджанне вызначаецца ў выглядзе цвёрда зафіксаванай сумы, то ў дагаворы павінен быць устаноўлены максімальны тыраж экземпляраў твора.

4. Правы, перададзеныя па аўтарскаму дагавору, могуць перадавацца поўнасцю або часткова іншым асобам толькі ў выпадку, калі гэта прама прадугледжана дагаворам.

5. Умова аўтарскага дагавора, якая абмяжоўвае аўтара ў стварэнні ў будучым твораў на дадзеную тэму або ў дадзенай галіне, з'яўляецца несапраўднай.

6. Умова аўтарскага дагавора, якая супярэчыць палажэнням гэтага Закона, з'яўляецца несапраўднай.

Артыкул 26. Форма аўтарскага дагавора

1. Аўтарскі дагавор павінен быць заключаны ў пісьмовай форме. Аўтарскі дагавор аб выкарыстанні твора ў перыядычным друку можа быць заключаны ў вуснай форме.

2. Пры продажы экземпляраў праграм для ЭВМ і баз даных і прадастаўленні масаваму карыстальніку доступу да іх дагавор лічыцца заключаным у пісьмовай форме, калі яго ўмовы (умовы выкарыстання праграмы і базы даных) выкладзены адпаведным чынам на экземплярах праграмы або базы даных.

Артыкул 27. Адказнасць па аўтарскаму дагавору

У выпадку парушэння абавязацельстваў па аўтарскаму дагавору вінаваты бок нясе адказнасць у адпаведнасці з гэтым Законам.

## РАЗДЗЕЛ III. СУМЕЖНЫЯ ПРАВЫ

Артыкул 28. Сфера дзеяння сумежных правоў

1. Правы выканаўцы прызнаюцца за ім у адпаведнасці з гэтым Законам у выпадку, калі:

а) выканаўца з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь;

б) выкананне, пастаноўка ўпершыню мелі месца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

в) выкананне, пастаноўка запісаны на фанаграму ў адпаведнасці з пунктам 2 гэтага артыкула;

г) выкананне, пастаноўка, не запісаныя на фанаграму, уключаны ў перадачу ў эфір або па кабелю ў адпаведнасці з пунктам 3 гэтага артыкула.

2. Правы вытворцы фанаграм прызнаюцца за ім у адпаведнасці з гэтым Законам, калі:

а) вытворца фанаграмы з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь або юрыдычнай асобай, якая мае афіцыйнае месцазнаходжанне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

б) фанаграма ўпершыню апублікавана на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

3. Правы арганізацыі эфірнага або кабельнага вяшчання прызнаюцца за ёй у адпаведнасці з гэтым Законам у выпадку, калі арганізацыя мае афіцыйнае месцазнаходжанне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляе перадачы з перадатчыкаў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 29. Суб'екты сумежных правоў

1. Суб'ектамі сумежных правоў з'яўляюцца выканаўцы, вытворцы фанаграм, арганізацыі эфірнага або кабельнага вяшчання.

2. Вытворца фанаграмы, арганізацыя эфірнага або кабельнага вяшчання ажыццяўляюць свае правы, указаныя ў гэтым раздзеле, у межах правоў, атрыманых па дагавору з выканаўцам і аўтарам запісанага ці перадаваемага ў эфір або па кабелю твора.

Дазвол, атрыманы ад рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля на выкарыстанне пастаноўкі, не адмяняе неабходнасці атрымання дазволу ў іншых выканаўцаў, якія ўдзельнічаюць у пастаноўцы, а таксама ў аўтара выконваемага твора.

3. Выканаўца ажыццяўляе ўказаныя ў гэтым раздзеле правы пры ўмове захавання правоў аўтара выконваемага твора.

4. Для ўзнікнення і ажыццяўлення правоў, прадугледжаных гэтым раздзелам, не патрабуецца выканання якіх-небудзь фармальнасцей. Вытворца фанаграмы і выканаўца для абвяшчэння аб сваіх правах маюць права выкарыстоўваць знак аховы сумежных правоў, які змяшчаецца на кожным экземпляры фанаграмы і (або) на футляры, што змяшчае яе, і абавязкова складаецца з трох элементаў:

лацінскай літары «Р» у акружнасці: Р ;

імя (назвы) уладальніка выключных сумежных правоў;

года першага апублікавання фанаграмы.

Артыкул 30. Правы выканаўцы

1. Акрамя прадугледжаных гэтым Законам выпадкаў, выканаўцу ў адносінах да яго выканання або пастаноўкі належаць наступныя выключныя правы:

а) права на імя;

б) права на абарону выканання або пастаноўкі ад усякага скажэння або любога іншага замаху, здольнага нанесці ўрон гонару і годнасці выканаўцы;

в) права на выкарыстанне выканання або пастаноўкі ў любой форме, уключаючы права на атрыманне ўзнагароджання за кожны від выкарыстання выканання або пастаноўкі.

2. Выключнае права на выкарыстанне выканання або пастаноўкі азначае права ажыццяўляць або дазваляць ажыццяўляць наступныя дзеянні:

а) перадаваць у эфір або паведамляць для ўсеагульнага ведама па кабелю выкананне або пастаноўку, калі выкарыстоўваемыя для такой перадачы выкананне або пастаноўка не былі раней перададзены ў эфір або не ажыццяўляюцца з выкарыстаннем запісу;

б) запісваць раней не запісаныя выкананне або пастаноўку;

в) узнаўляць запіс выканання або пастаноўкі;

г) перадаваць у эфір або па кабелю запіс выканання або пастаноўкі, калі першапачаткова гэты запіс быў зроблены не для камерцыйных мэт.

3. Выключнае права выканаўцы, прадугледжанае падпунктам «в» пункта 2 гэтага артыкула, не распаўсюджваецца на выпадкі, калі:

а) першапачатковы запіс выканання або пастаноўкі быў зроблены са згоды выканаўцы;

б) узнаўленне выканання або пастаноўкі ажыццяўляецца ў тых жа мэтах, у якіх была атрымана згода выканаўцы пры запісе выканання або пастаноўкі;

в) узнаўленне выканання або пастаноўкі ажыццяўляецца ў тых жа мэтах, у якіх быў зроблены запіс у адпаведнасці з артыкулам 35 гэтага Закона.

4. Дазволы, указаныя ў пункце 2 гэтага артыкула, выдаюцца выканаўцам, а пры выкананні калектывам выканаўцаў — кіраўніком такога калектыву праз заключэнне пісьмовага дагавора з карыстальнікам.

5. Дазволы, указаныя ў падпунктах «а», «б» і «в» пункта 2 гэтага артыкула, на наступныя перадачы выканання або пастаноўкі, ажыццяўленне запісу для перадачы і ўзнаўленне такога запісу арганізацыямі эфірнага або кабельнага вяшчання не патрабуюцца, калі яны прадугледжаны дагаворам выканаўцы з арганізацыяй эфірнага або кабельнага вяшчання.

Памер узнагароджання выканаўцу за такое выкарыстанне таксама ўстанаўліваецца ў гэтым дагаворы.

6. Заключэнне дагавора паміж выканаўцам і вытворцам аўдыёвізуальнага твора на стварэнне аўдыёвізуальнага твора мае вынікам прадастаўленне выканаўцам правоў, указаных у пункце 2 гэтага артыкула.

Прадастаўленне выканаўцам такіх правоў абмяжоўваецца выкарыстаннем аўдыёвізуальнага твора і, калі ў дагаворы не ўстаноўлена іншае, не ўключае правоў на асобнае выкарыстанне гуку або выявы, зафіксаваных у аўдыёвізуальным творы.

(Працяг на 11-й стар.)

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Добра вядома, што фашысты вельмі скрупулёзна ўсё фіксавалі, вялі строгі ўлік, у тым ліку і зрасходаваных на знішчэнне людзей боепрыпасаў. Магчыма, недзе ў архівах захоўваюцца і спісы знішчаных людзей. Гэта ж быў пачатак вайны, і тады акупанты былі асабліва педантычныя і акуратныя. Гэтыя архіўныя даныя могуць знаходзіцца і ў сённяшняй Германіі. Можа, нямецкі ўрад зможа аказаць дапамогу ў пошуку дакументаў, што датычацца канцлагера ў Драздах? Немалаважна ўстанавіць і ўдзельнікаў крывавай расправы над бязвіннымі жыхарамі Мінска. Што гэта было за падраздзяленне? Хто ім камандаваў? Ці не грэецца ён сёння дзе-небудзь пад сонейкам на Гаваях?

Упэўнены, што ёсць магчымасць устанавіць хоць бы некалькі прозвішчаў і ў ходзе саміх раскопак, але для гэтага трэба прыцягнуць спецыялістаў-прафесіяналаў. У час раскопак 7 чэрвеня гэтага года сам быў сведкам таго, як на глыбіні двух метраў былі знойдзены астанкі жанчыны, побач з ёй — дамская сумачка, якая добра захавалася. У ёй кардонны лісток па ўліку кадраў з добра чытаемым тэкстам, месца для фатаграфіі, хатні адрас... Там жа, у сумачцы, — медны пярсцёнак, хімічны аловак, манеты. На сукенцы — медныя ўпрыгожванні, пояс са спражкай, гузікі і засцежкі-кнопкі... У многіх загінуўшых у кішэнях кашалькі, партманеты, бутэлькі з вадой ці пустыя, семкі... Запомніліся і астанкі высокага мужчыны ў ботах і скураной куртцы. У некаторых на руках гадзіннікі. Перад салдатамі не стаіць задача ідэнтыфікацыі астанкаў. Яны ўстанаўліваюць граніцы пахавання. А прафесіянальныя гісторыкі, спецыялісты і археолагі на раскопкі, на жаль, не спяшаюцца. Але для таго, каб да канца высветліць абставіны расстрэлаў ля Кайдасавай гары, удзел спецыялістаў вельмі неабходны. Трэба яшчэ раз (і назаўсёды) закрыць гэтую тэму і па-чалавечы ўвекавечыць памяць дзесяці тысяч загінуўшых нашых людзей...

Для гэтага неабходна стварэнне дзяржаўнай камісіі, фінансаванне...

Так, гэта каштуе грошай, але ці ж ёсць цана ў чалавечнасці?

Гэтымі днямі быў літаральна ўзрушаны расказам аб тым, як Амерыка развітвалася з загінуўшым у кастрычніку далёкага ўжо 1952 года капітанам ВПС ЗША Джонам Дэнэмам, чые астанкі былі знойдзены на востраве Юрый, што на расійскім Далёкім Усходзе. Разведвальны самалёт RB-29, якім камандаваў амерыканец, быў збіты знішчальнікам савецкай ППА 44 гады назад Усе гэтыя гады вёўся пошук загінуўшага экіпажа. Нарэшце поспех. Па пярсцёнку, які насіў лётчык, амерыканцы за ноч(!) устанавілі прозвішча і імя гаспадара, знайшлі яго сваякоў. Па даручэнню прэзідэнта Клінтана з Амерыкі ў Расію прыляцеў пасол па асаблівых даручэннях Тун. На працягу двух дзён труна з прахам амерыканскага пілота была выстаўлена ў пасольстве ЗША ў Маскве. Дыпламаты і іншыя амерыканцы, што знаходзіліся ў Расіі, аддавалі яму даніну павагі. І распісваліся ў кнізе спачуванняў. Потым цела было дастаўлена на радзіму. Капітана ВПС ЗША, 26-гадовага Джона Робертсана Дэнэма пахавалі на Арлінгтонскіх нацыянальных могілках. Труну з яго прахам пасля памінальнага малебна даставілі да магілы на артылерыйскім лафеце шэсць запрэжаных цугам чорных коней. Быў зроблены салют, а ў небе над могілкамі пранёсся стратэгічны бамбардзіроўшчык B-52.

Так Амерыка праводзіла ў апошні шлях свайго салдата, грамадзяніна... Нікому ў Амерыцы і ў галаву не прыйшло гаварыць пра выдаткі на пошук і пахаванне. Цана чалавечнасці не мае эквіваленту ў грашах...

Прэзідэнт Польшчы Квасьнеўскі пры першай жа магчымасці пасля выбрання наведаў месца трагедыі ў Катыні і ўсклаў вянок. Раней прэзідэнт СССР М. Гарбачоў папрасіў у польскага народа прабачэння з нагоды гэтага злачынства сталінскага рэжыму...

Упэўнены, што і наш усенародна абраны Прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ўдзеліць належную ўвагу ахвярам крывавага злачынства нямецка-фашысцкіх захопнікаў ля пасёлка Драздны.

У аўторак, 18 чэрвеня 1996 года, на пасяджэнні Мінскага райвыканкома павінна разглядацца пытанне аб знойдзеным ля Кайдасавай гары пахаванні. 30 чэрвеня 1941 года — 55 гадоў назад фашысты пачалі расстрэлы мірных грамадзян горада Мінска...

**Мікалай КАЧУК.**

## МАЛАДЗЕЧНА, МАЛАДЗЕЧНА, БУДЗЕ ТВАЯ ПЕСНЯ ВЕЧНАЙ?




Было: спявалі і танцавалі. Плошча горада гула з вечара амаль да рання. Але неўзабаве прыходзіцца развітвацца са святам. Сёлета ў яго быў цяжкі шлях — на сваю радзіму, па-першае, да сваёй формы і ўнутранага напаўнення, па-другое. Тым не менш, усё ж-такі адбылося.

Было: людзі прыходзілі на плошчу задоўга да пачатку канцэрта, каб заняць месца бліжэй да сцэны. Людзі чакалі некалькі гадзін, вытрымлівалі холад, вецер, а потым пачынаўся канцэрт, адзін, другі, трэці. А людзі гатовы былі спяваць хоць усю ноч. Таму што ім вельмі патрэбна свята.

Было: моладзь і пажылыя людзі слухалі музыку самую розную — ад эстраднай песні да джаза, фольк-мадэрна ў выглядзе «Палаца», ды небяспечнага рока ў выкананні «Крамы». І не было паміж імі ніякіх канфліктаў пакаленняў. Усе аднолькава танцавалі, лавілі словы, словы зразумелыя, свае. Людзі адчувалі свята. Ці гэта не галоўны вынік фестывалю?

Былі тут і свае героі. Удзельнікі аўтарскіх і сольных канцэртаў. Здзейснілася даўняя мара Міхаіла Фінберга зрабіць канцэрты цалкам без фанаграмы. Упершыню на фестывалі прайшоў «жывы» канцэрт Якава Навуменкі, спявак утрымліваў публіку некалькі гадзін. Творчы вечар юбіляра, кампазітара Эдуарда Зарыцкага таксама прайшоў у жывым гучанні.

Акрамя канцэртаў, што можна было ўбачыць па тэлебачанні, былі іншыя прыемныя сустрэчы на фестывалі. Цудоўныя беларускія песні паказалі народны хор імя Цітовіча і аркестр імя Жыновіча, якія выдатна аздобілі праграму. Было. Чацвёрты нацыянальны фестываль сказаў «да пабачэння». Але пакінуў шмат пытанняў для арганізатараў. Ці трэба яго праводзіць кожны год? Ці пачакаць, пакуль скопіцца новы творчы матэрыял? Ці здолее горад прыняць сваё «дзіця» на наступны год? Але ніхто з яго «бацькоў» не здолеў выказаць сумненняў у патрэбе беларускай песні. Бо бачылі, як людзі чакалі свята...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.36 | 21.44 | 17.08 |
| Віцебск – | 4.18 | 21.42 | 17.24 |
| Магілёў – | 4.26 | 21.33 | 17.07 |
| Гомель – | 4.32 | 21.21 | 16.49 |
| Гродна – | 4.53 | 21.58 | 17.05 |
| Брэст – | 5.03 | 21.48 | 16.45 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 16 чэрвеня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Дарафея, Ігара, Канстанціна, Фёдара**
**К. Альжбэты, Марка**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікія кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 18—20, Магілёве — 19—21, Мінску, Гомелі — 20—22, Гродне — 21—23, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 19-га ўначы — па захаду, удзень — па большай частцы тэрыторыі, 20-га — месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, па захаду — 6—11, удзень — 15—20, 19-га па ўсходу — да 24 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 18 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца праходжаннем цёплага фронту, што прывядзе да павышэння тэмпературы паветра і нязначнага росту атмасфернага ціску. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых самаадчуванне палепшыцца. Магчыма пагаршэнне стану ў гіпертонікаў. Гэтым хворым у мэтах прафілактыкі паказаны кантроль артэрыяльнага ціску, рэгулярны прыём прэпаратаў, прызначаных урачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

## Пракуратурай Мінска прызнана правамерным прымяненне зброі супрацоўнікамі міліцыі пры затрыманні аўтамабіля, у якім знаходзіўся В. Ганчар

**Як паведаміла «Звязда» ў суботу, 14 чэрвеня ноччу супрацоўнікамі міліцыі быў абстраляны аўтамабіль, у якім вяртаўся дамоў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, генеральны сакратар Эканамічнага суда краін СНД Віктар Ганчар. На прэс-канферэнцыі ў пятніцу Віктар Іосіфавіч азнаёміў прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі са сваёй версіяй таго, што здарылася. На наступны дзень з журналістамі сустрэўся Барыс Тарлецкі, начальнік мінскай міліцыі, а прэс-служба ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома распаўсюдзіла афіцыйную заяву. Знаёмім чытачоў газеты з пунктам гледжання праваахоўных органаў, таксама не ўдаючыся ў каментарыі і прагнозы наконт таго, як будуць разгортвацца падзеі далей.**

Генерал Тарлецкі паведаміў, што 14 чэрвеня ў 2.30 у двары дома №141 па праспекце Скарыны чацвёра неўстаноўленых злачынцаў выстралілі ў супрацоўніка Першамайскага РАУС радавога міліцыі Андрэя Яцыну, які разам з ваеннаслужачым С. Бутарлёвым патрулявалі тэрыторыю ва ўказаным раёне. У выніку стрэлу куля трапіла ў табельную зброю А. Яцыны — пісталет Макарава, які знаходзіўся ў кабуры. Злачынцам удалося ўцячы. У горадзе адразу быў уведзены план «Перахват». З дапамогай сведак было выяўлена, што злачынцы з'ехалі з месца здарэння на легкавым аўтамабілі замежнай вытворчасці. Праз некалькі хвілін патрульным нарадам у раёне дома № 135 па праспекце Скарыны была заўважана аўтамашына «Опель-Вектра» белага колеру, якая на патрабаванне спыніцца не падпарадкавалася і прадоўжыла рух да цэнтра сталіцы.

Як сцвярджаецца ў заяве прэс-цэнтра УУС Мінгарвыканкома, міліцэйскі нарад на «УАЗіку» арганізаваў праследаванне «Опеля», аднак скорасць у іншамаркі была вялікая. «УАЗ», падаючы сігналы выключэннем фараў, пастаянна праследаваў гэту машыну.

У 2.50 на скрыжаванні вуліц Куйбышава і Кульман «Опель» быў заўважаны патрульным нарадам аддзела аховы Савецкага раёна, які на службовай аўтамашыне перакрываў гэтае скрыжаванне. Як сцвярджаюць прадстаўнікі праваахоўных органаў, патрульная машына з уключаным маячком знаходзілася па цэнтру праезнай часткі скрыжавання, а міліцыянеры, якія знаходзіліся каля яе, жазлом падавалі сігнал вадзіцелю «Опеля» спыніцца. «Ігнаруючы патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі, вадзіцель іншамаркі на скорасці прадоўжыў рух у напрамку Камароўскага рынку. У мэтах спынення машыны старшы экіпажа старшы сяржант міліцыі Іван Карповіч у адпаведнасці з Законам «Аб міліцыі» зрабіў прыцэльны выстрал у бок гэтага аўтамабіля з табельнай зброі — аўтамата АКСУ. Куля, прабіўшы левыя заднія дзверцы і абіўку задняга сядзення, раніла ў ягадзіцы грамадзянку, якая знаходзілася ў аўтамашыне ў якасці пасажыркі». Пасля прымянення зброі «Опель» спыніўся. Міліцыяй было ўстаноўлена, што, акрамя пацярпеўшай, у аўтамабілі знаходзіліся: вадзіцель Яўген Лычоў і таксама ў якасці пасажыра — дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар. Пацярпеўшая з дыягназам «агнястрэльнае раненне абедзвюх ягадзіц» шпіталізавана.

Паводле звестак прэс-службы УУС, пракуратурай горада Мінска прымяненне зброі прызнана правамерным.

Такім чынам, мы выклалі дзве версіі таго, што здарылася ў ноч на 14 чэрвеня. Як бачна, яны істотна адрозніваюцца адна ад адной. Будзем спадзявацца на аб'ектыўнае следства і чакаць канчатковага рашэння.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ВІКТАР ГАНЧАР АБУРАНЫ

17 чэрвеня дэпутат Вярхоўнага Савета, генеральны сакратар Эканамічнага суда СНД Віктар Ганчар правёў яшчэ адну прэс-канферэнцыю па выніках злашчаснага выпадку ў мінулую пятніцу. Пасля гэтага здарэння на наступны дзень у грубай форме быў затрыманы супрацоўнік Эканамічнага суда Яўген Лычоў, які выконваў абавязкі вадзіцеля падчас згаданага здарэння. У 17.00 ён быў дастаўлены ў Савецкі райсуд, а ў 17.10 — ужо ў прыёмнік-размеркавальнік УУС г. Мінска. Падставай для змяшчэння Лычова, што называецца на нары, стала пастанаўленне суддзі, якое яна вынесла, грунтуючыся на паказаннях міліцыі. Суд быў перанесены на панядзелак з-за таго, што Лычоў запатрабаваў адваката. Лычоў абвінавачваўся па арт. 166 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням міліцыі. Віктар Ганчар зрабіў усё магчымае, каб вызваліць свайго супрацоўніка. Ён звязаўся з Генеральным пракурорам, старшынёй Вярхоўнага суда, дзяжурным па ўпраўленню УУС г. Мінска, але ў гэты дзень вызваліць Лычова не ўдалося. Нарэшце, да справы быў падключаны Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які паабяцаў, што не пакіне працы, пакуль незаконна затрыманы грамадзянін не будзе на волі. З 10 раніцы да гадзіны дня ў Старшыні Вярхоўнага Савета адбывалася нарада, на якой прысутнічалі Генеральны пракурор, пракурор горада, старшыня Вярхоўнага суда і суддзя Савецкага раёна, якая прымала тое рашэнне. У рэшце рэшт, па пратэсту пракурора горада Лычоў быў вызвалены.

Вось гэтыя падзеі, а таксама дэзінфармацыю, якую, на погляд Ганчара, далі Беларускае тэлебачанне і міліцэйскія чыны, Віктар Ганчар ацаніў вельмі негатыўна, ён быў літаральна абураны рэпартажам у нядзельным выпуску праграмы «Рэзананс» і зазначыў, што ў выказваннях вядучага А. Зімоўскага прысутнічалі паклёп і знявага, таму ён будзе самым жорсткім чынам ставіць пытанне аб крымінальнай адказнасці Зімоўскага. «Я ўпершыню сутыкаюся з такім узроўнем агрэсіўнага цынізму», — зазначыў Віктар Ганчар.

Акрамя таго, Віктар Ганчар заявіў, што заўтра ж ён будзе ў Вярхоўным Савеце дабівацца ўключэння ў парадак дня пытання аб адстаўцы міністра ўнутраных спраў Агальца. Таксама стала вядома, што крымінальная справа па факту абстрэлу машыны В. Ганчара перададзена з пракуратуры Савецкага раёна ў пракуратуру горада. Гэта зроблена пасля патрабавання самога Віктара Ганчара.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ЛЁС РАСІІ ВЫРАШЫЦЦА Ў ДРУГІМ ТУРЫ**

Учора падчас свайго выступлення Барыс Ельцын заявіў, што ў першым туры выбараў прэзідэнт не выбраны, трэба будзе правесці другі тур. «Зараз, пасля першага тура, выбар відавочны: або назад — да рэвалюцыі і ўзрушэнняў, або наперад — да стабільнасці і дабрабыту», — сказаў ён. Працягваецца падлік галасоў. Згодна з папярэднімі данымі Цэнтрвыбаркома, лідзіруе Барыс Ельцын — у яго 34,8 працэнта галасоў. На другой пазіцыі знаходзіцца Генадзь Зюганаў — 32,3 працэнта. За яўнымі лідэрамі ідуць Аляксандр Лебедзь — 14,4, Рыгор Яўлінскі — 7,5 працэнта, Уладзімір Жырыноўскі — 6 працэнтаў галасоў. Астатнія кандыдаты набралі менш чым па аднаму працэнту кожны. Барыс Ельцын лідзіруе ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, на поўначы і паўночным захадзе краіны, Генадзь Зюганаў — у большасці раёнаў на поўдзень ад Масквы. Намеснік старшыні Цэнтрвыбаркома Іванчанка паведаміў, што другі тур выбараў адбудзецца 30 чэрвеня або 7 ліпеня. Цэнтрвыбарком вырашыць гэтае пытанне ў сераду.

**УРАД МАСКВЫ НЕ ЗМЕНІЦЦА**

Юрый Лужкоў перавыбраны мэрам Масквы — за яго прагаласавалі каля 90 працэнтаў выбаршчыкаў. Падчас свайго выступлення на прэс-канферэнцыі Лужкоў сказаў, што маскоўскі ўрад пойдзе ў адстаўку і будзе сфарміраваны зноў. Аднак кардынальных змен у яго саставе не адбудзецца. Паводле слоў Лужкова, галоўнымі задачамі сталічных уладаў стануць барацьба са злачыннасцю і паляпшэнне экалогіі.

**СЁННЯ БУДЗЕ НАЗВАНЫ САСТАЎ НОВАГА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ ІЗРАІЛЯ**

Мяркуецца, што сёння будзе вызначаны новы састаў кабінета міністраў Ізраіля. У нядзелю новы прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з трыма палітычнымі партыямі, якія маюць 23 месцы ў кнэсеце. Такім чынам, партыя Нетаніягу «Лікуд» кантралюе зараз 55 са 120 месцаў у парламенце. Працягваюцца перамовы і з іншымі партыямі, сярод якіх партыя эмігрантаў з Савецкага Саюза. Учора Нетаніягу праводзіў перамовы з кіраўніцтвам «Лікуда», каб канчаткова дамовіцца аб размеркаванні міністэрскіх пасад.

**ЗА ТЭРАРЫСТАМІ НАЗІРАЛІ КАМЕРЫ**

Камеры знешняга назірання запісалі на стужку тэрарыстаў, што падклалі бомбу паблізу гандлёвага цэнтра ў Манчэстэры. У выніку выбуху бомбы ў суботу было паранена каля 200 чалавек. Камеры зафіксавалі таксама момант выбуху. Улады ўскладаюць адказнасць за тэракт на ірландскую тэрарыстычную арганізацыю IPA. 16 параненых усё яшчэ знаходзяцца ў шпіталі.

**РАСІЙСКІ ТРАЎЛЕР ПАКУЛЬ НЕ ЗНОЙДЗЕНЫ**

У водах Ліберыі аднавіліся пошукі расійскага траўлера «Залаціца», які знік тыдзень таму. На борце судна знаходзіліся ўцекачы з Ліберыі. Траўлер знік пасля таго, як урад Ганы адмовіўся прыняць уцекачоў і ваенныя караблі вывелі яго за межы тэрытарыяльных водаў Ганы. Як паведамілі супрацоўнікі міжнароднай арганізацыі «Урачы без межаў», у нядзелю былі паведамленні, што судна бачылі паблізу тэрытарыяльных водаў Ліберыі. Урачы выказваюць занепакоенасць, што на судне скончылася пітная вада.

**ФУТБОЛ ПАТРАБУЕ АХВЯР**

Сама меней 9 чалавек загінулі і больш як 75 атрымалі раненні ў цісканіне на стадыёне ў сталіцы Замбіі адразу пасля перамогі каманды Замбіі над зборнай Судана ў адборачным матчы чэмпіянату свету па футболу. Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, цісканіна ўзнікла, калі некалькі тысяч балельшчыкаў кінуліся да адзіных расчыненых варот стадыёна, спадзеючыся ўбачыць футбалістаў Замбіі, якія пакідалі спартыўную арэну.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС»**
**слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Тры егіпецкія прынцэсы — Фадзія, Фаўзія і Ферыял — звярнуліся ў каірскі суд з грамадзянскім іскам, патрабуючы аднаўлення праву ўласнасці на палац у сталіцы і на зямельныя ўладанні. Дочкі апошняга караля Егіпта Фарука, якога скінулі ў выніку ваеннага перавароту ў 1952 годзе, і каралевы Фарыды, якая развялася з манархам у 1948 годзе, сцвярджаюць, што і палац, і маёнткі належалі іх маці і цяпер належаць ім. Справа ўскладняецца тым, што па закону каралеўская сям'я не можа вырашыць пытанні ўласнасці праз суд. Аднак адвакаты прынцэс сцвярджаюць, што іх кліенткі з-за разводу іх маці не могуць лічыцца членамі каралеўскай сям'і. Суд адклаў справу да кастрычніка.

**Асашыэйтэд Прэс**

*Фермер Іван Помыслаў з далёкага сяла Лойма (Рэспубліка Комі) прывёз ў папраўчапрацоўную ўстанову Сыктыўкара тры тоны бульбы і паведаміў, што ў бліжэйшыя дні даставіць сюды цыгарэты і прадукты харчавання. Гэта адбылося некалькі дзён назад. Растлумачыў свой учынак фермер тым, што калі 16 чэрвеня на прэзідэнцкіх выбарах перамогу атрымаюць камуністы, яны пачнуць саджаць уласнікаў.*

**ЕАН.**

# ВЫБАРЫ Ў РАСІІ: ЛІДЗІРУЕ ЕЛЬЦЫН

**Паводле папярэдніх звестак на абед 17 чэрвеня, у нядзельных выбарах прэзідэнта Расіі прынялі ўдзел звыш 70 працэнтаў выбаршчыкаў. Пасля апрацоўкі каля 72 працэнтаў бюлетэняў Б. Ельцын выявіў падтрымку 34,8 працэнта выбаршчыкаў, Г. Зюганаў — 32,4, А. Лебедзь — 14,4, Р. Яўлінскі — 7,5, У. Жырыноўскі — 6 працэнтаў. Астатнія, відаць, не набралі і таго мільёна галасоў, які яны прадстаўлялі пры рэгістрацыі іх кандыдатамі ў прэзідэнты.**

Хаця расійскія аналітыкі з гордасцю зазначаюць, што менавіта такі расклад яны прадбачылі, усё ж гэты вынік выглядае крыху незвычайным. Асабліва для большасці беларускіх палітыкаў, якія ўжо былі навучаны вопытам нашых прэзідэнцкіх выбараў і прадказвалі яўны поспех апазіцыйнага дзеючаму прэзідэнту Расіі кандыдата — Генадзя Зюганава.

З тых беларускіх палітыкаў, якія выказвалі ў «Звяздзе» свае прагнозы, можна адзначыць П. Краўчанку і Л. Гразнову, якія былі ўпэўнены ў лідэрстве Б. Ельцына, і прагноз Г. Карпенкі, які зазначыў, што трэцім будзе А. Лебедзь. Лебедзь сапраўды стаў трэцім, за год пасля свайго звальнення з арміі ён паспеў добра «раскруціцца» ў палітыка і дабіўся поспеху — трэцяе месца для яго сапраўды ўдача. Цяпер Лебедзь мае магчымасць паганддляваць гэтым трэцім месцам. Камуністы ўжо прапаноўваюць яму крэсла прэм'ера, прапануе нешта і Ельцын. А. Лебедзь пакуль не выказаў канкрэтных сімпатый ні да аднаго з лідэраў — гэта адбудзецца пасля перагавораў.

Як уяўляецца, А. Лебедзь усё ж хутчэй падтрымае Ельцына. Па-першае, яго лічаць умераным дэмакратам і патрыётам, а па-другое, ён ужо паспеў на свой рахунак аднесці прагноз Ельцына, што сярод тых, хто ўдзельнічаў у якасці кандыдатаў у выбарах 16 чэрвеня, ёсць чалавек, які стане прэзідэнтам праз 4 гады. Ельцын, відаць, падтрымае гэтую ўпэўненасць Лебедзя. Хаця нельга сказаць, што заклік Лебедзя да сваіх прыхільнікаў прагаласаваць за аднаго з кандыдатаў будзе азначаць аўтаматычна перанос яго 14 з лішкам працэнтаў галасоў на выбранага ім кандыдата... Тым не менш, відавочна, што і Ельцын, і Зюганаў будуць шукаць падыходы да тых, хто заняў 3—5-е месцы. І ўсё ж пераважнай тут выглядае пазіцыя Ельцына, які, па-першае, лідзіруе, а па-другое, і Лебедзя, і Яўлінскага адносяць да дэмакратаў. Б. Ельцын нават заўважыў, што ён не змог перамагчы ў першым туры толькі з-за таго, што дэмакраты не аб'ядналіся. Магчыма, яны змогуць зрабіць гэта перад 30 чэрвеня ці 7 ліпеня, калі, як верагодна, адбудзецца другі тур галасавання.

Тым не менш, барацьба паміж Б. Ельцыным і Г. Зюганавым чакаецца складаная і напружаная. Расія падзелена на два прыкладна роўныя лагеры: прыхільнікаў рэстаўрацыі сацыялізму і тых, хто хоча рухацца наперад у рыначных і дэмакратычных пераўтварэннях. Магчыма, мы зможам нават стаць сведкамі тэледэбатаў паміж двума кандыдатамі-сапернікамі.

17 чэрвеня на сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый Прэзідэнт Беларусі зазначыў, што вынік выбараў у Расіі з'яўляецца ацэнкай выбаршчыкамі тых эканамічных пераўтварэнняў, якія там адбываліся. «Калі б майму добраму знаёмаму Ельцыну процістаяла трэцяя сіла, то там было б тое ж, што і ў Беларусі», — зазначыў А. Лукашэнка.

Тым часам сталі вядомы вынікі галасавання расійскіх грамадзян, што пражываюць у Беларусі. Прынялі ўдзел у галасаванні 3848 чалавек. З іх за Б. Ельцына прагаласавала 2106 грамадзян Расіі, за Г. Зюганава — 552, за А. Лебедзя — 702, за Г. Яўлінскага — 264, за Жырыноўскага — 126.

Сярод іншых нечаканасцей першага тура выбараў у Расіі варта яшчэ адзначыць правал У. Жырыноўскага, які прайграў і Лебедзю, і Яўлінскаму. У. Жырыноўскі ўжо абрыдзеў расійскаму электарату, ён паступова заходзіць у маргінэс расійскай палітыкі, разам са сваёй партыяй. А вось папулярнасць Рыгора Яўлінскага расце.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю



Генадзь КАРПЕНКА:

# «ЭКАНАМІЧНАЯ СТАБІЛІЗАЦЫЯ ПАСАДЗЕЙНІЧАЕ І ПАЛІТЫЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ Ў НАШЫМ ГРАМАДСТВЕ»

***На пытанні «Звязды» адказвае намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка. Тэмай размовы сталі апошнія эканамічныя і палітычныя ініцыятывы Вярхоўнага Савета і праблемы, якія апошнім часам выклікаюць у нашым грамадстве найбольшы рэзананс.***

**— Генадзь Дзмітрыевіч, у апошні месяц у Вярхоўным Савеце было вылучана некалькі прапаноў па эканамічнай праблематыцы, у прыватнасці, па распрацоўцы праграмы стабілізацыі на парламенцкіх слуханнях на эканамічную тэматыку запрашаецца выступіць з дакладам Прэзідэнт. У чым сутнасць падыходаў Вярхоўнага Савета да вырашэння нашых эканамічных праблем?**

— Вярхоўны Савет мае намер закончыць сваю сесію разглядам цэлага блока законапраектаў па эканоміцы. Гэта будзе рабіцца з 18 чэрвеня да 1 ліпеня. Па-першае, мы вынесем на абмеркаванне канцэпцыю стабілізацыі нашай эканомікі. Дзеля гэтага мы звяртаемся да Прэзідэнта нашай краіны і прэм'ер-міністра з прапановай самым сур'ёзным чынам паўдзельнічаць у абмеркаванні гэтай канцэпцыі. У адпаведнасці з 100-м артыкулам Канстытуцыі Прэзідэнт павінен у пачатку года выступаць з дакладам аб сваім бачанні эканамічнага і палітычнага курсу нашай краіны. Гэтае пытанне ўключана ў парадак дня Вярхоўнага Савета, аднак вось ужо заканчваецца першая сесія, а такога выступлення, на жаль, не было. Таму менавіта пры разглядзе канцэпцыі эканамічнай стабілізацыі і эканамічнага развіцця нашай краіны мы звяртаемся да выканаўчых органаў з прапановай прыняць у гэтым абмеркаванні самы шырокі ўдзел. Мы цудоўна разумеем, што сёння Вярхоўны Савет не можа далей працаваць у адрыве ад выканаўчай улады, асабліва над эканамічнымі законапраектамі.

На жаль, у нашай рэспубліцы стан эканомікі рэзка пагаршаецца: ідзе невыкананне асноўных паказчыкаў, рэзка зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці. Мы разумеем, што самі па сабе законы, якія не будуць рэалізоўвацца выканаўчай уладай, так і застануцца паперай. Адбудзецца як бы праца на паліцу. Але працаваць на паліцу ў сённяшніх умовах ні парламент, ні выканаўчыя структуры не маюць права. Таму акрамя разгляду асноўных законапраектаў, што напрацаваны ў нашых камісіях, мы і звяртаемся да прэм'ер-міністра з прапановай стварыць сумесныя рабочыя групы па распрацоўцы законапраектаў, якія будуць вызначаць твар эканомікі нашай краіны.

Хачу падкрэсліць, што за паўгода работы Вярхоўнага Савета мы практычна не атрымалі ніякіх законапраектаў ад выканаўчай улады, якія б вызначалі курс развіцця эканомікі нашай дзяржавы. Ад імя ж Вярхоўнага Савета падрыхтавана звыш 20 законапраектаў, якія, на наш погляд, з'яўляюцца вызначальнымі для нашай эканомікі. Акрамя таго, створана рабочая група з ліку супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета, дэпутатаў, у іх уключана вялікая колькасць спецыялістаў і з навукова-прамысловай асацыяцыі і з прафсаюзаў, камерцыйных структур. І мы звяртаемся з просьбай да кіраўніцтва ўрада разгледзець гэтыя законапраекты і прапановы па расшырэнню саставу рабочых груп за кошт работнікаў Кабінета Міністраў і ўнесці свае прапановы па канкрэтных законапраектах, якія, на думку ўрада, павінны быць першачаргова разглядацца на другой сесіі Вярхоўнага Савета.

Нам нельга больш цягнуць час, раскачвацца, бо адказнасць за эканоміку і жыццёвы стан людзей у аднолькавай ступені кладзецца як на выканаўчую, так і на заканадаўчую ўлады.

**— Назавіце, якія канкрэтна гэтыя законапраекты?**

— Назаву некалькі такіх законапраектаў. Па-першае, па праблемах падаткаабкладання. Як мы мяркуем, самі падатковыя стаўкі, павінны быць зменшаны прыкладна на 20 працэнтаў. Акрамя таго, не менш чым стаўкі трывожыць вытворцаў і заблытаная сістэма падаткаабкладання. Яна павінна быць спрошчана, колькасць падаткаў павінна быць істотна зменшана.

**— Аднак парламент зусім нядаўна ўжо разглядаў падатковае заканадаўства...**

— На кожны год прымаюцца падатковыя змены. Мы пачыналі сваю работу ў студзені, таму на гэты год канкрэтных зменаў і прапаноў унесці мы не маглі, ды і не мелі права, як я мяркую. Было б неасцярожнасцю для Вярхоўнага Савета пускацца ў карэнную ломку прымянення падатковага заканадаўства... Акрамя таго, мы хочам перагледзець і закон аб інвестыцыях. Адзін з асноўных законаў таксама — аб прыватнай уласнасці на зямлю, а таксама законы аб прамысловых прадпрыемствах, страхавой медыцыне... Я падкрэсліў бы адну акалічнасць, якая з'яўляецца арыенцірам у нашай працы — тое, што над гэтымі законапраектамі павінна працаваць дружная каманда з прадстаўнікоў заканадаўчай і выканаўчай уладаў, а таксама такая ж дружная каманда павінна падштурхнуць гэтыя законы ў жыцці пасля іх прыняцця.

**— Як я зразумеў, сутнасць гэтых законапраектаў — у іх рыначнай накіраванасці?**

— Так, безумоўна.

**— А як вы ацэньваеце апошнія нарматыўныя акты выканаўчай улады па пытаннях банкаўскай сферы, перарэгістрацыі прадпрыемстваў і г.д.?**

— Я не назваў бы іх антырыначнымі ці такімі, што вядуць да ўпарадкавання... Для мяне яны незразумелыя, яны не паддаюцца нават нейкай логіцы. Як можна прымаць сёння рашэнне аб абмене валюты, калі ў банку акрамя курса выплачваюцца нейкія прэміяльныя... Мяне проста здзіўляюць распрацоўшчыкі такіх актаў: аб чым яны думаюць, калі прапануюць такія механізмы?.. Дарэчы, мы будзем разглядаць Банкаўскі кодэкс, і свае прапановы ўжо ўнесла і Т. Віннікава. Гэта даволі аб'ёмны дакумент, магчыма, мы будзем прымаць яго часткамі... Але не трэба думаць, што нашы банкі здольныя сёння вырашыць пытанні фінансавання эканомікі. Ацэнкі паказваюць, што яны могуць падтрымаць не болей як 15 працэнтаў нашага народнагаспадарчага комплексу.

**— Патрэбны замежныя інвестыцыі?**

— Так. Я хацеў бы прывесці прыклад з Ніжняга Ноўгарада, адкуль я нядаўна вярнуўся. За мінулы год у гэтую вобласць Расіі інвесціравана 240 мільёнаў долараў. А ў Беларусь — толькі 2... Хаця трэба разумець, што знешнія інвестыцыі не з'яўляюцца і панацэяй, не трэба чакаць, што нехта прыйдзе і накорміць наш народ. Аснова будзе ў сваёй працы, у сваёй унутранай эканамічнай палітыцы.

Асабліва неабходна нам падумаць аб сельскай гаспадарцы, для Беларусі, лічу, гэта прыярытэт № 1. Тут патрэбен цэлы комплекс мераў. На жаль, да гэтага часу ў Беларусі няма нават эканамічнай праграмы ў сферы сельскай гаспадаркі...

**— Што яшчэ карыснага даведаліся на семінары ў Ніжнім Ноўгарадзе?**

— Для мяне гэта не было Амерыкай, зразумела, я сам, калі працаваў мэрам, многія такія метады рыначных адносінаў выкарыстоўваў. Я назваў бы хіба толькі лічбу: 80 працэнтаў прамысловага і сельскагаспадарчага патэнцыялу Ніжагародскай вобласці складае недзяржаўны сектар, у тым ліку ГАЗ...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ў сваім нядаўнім выступленні асноўны ўпор рабіў на праблемы эканомікі. Ці сапраўды стан нашай эканомікі настолькі крызісны?**

— Лічбы гавораць, што мы недаатрымліваем у бюджэт да 40 працэнтаў... Але справа, можа, і не столькі ў гэтым. Перш за ўсё мы не маем эканамічнага курсу, мы яшчэ не вызначыліся з ім. І я глыбока перакананы, што розныя партыі, рухі пакінулі б сёння на другім плане ўсё сваё змаганне, дыскусіі, калі б гэты курс быў хоць як-небудзь абазначаны. Яго сапраўды складана вымалёўваць. Хаця відавочна, што ранейшы наш шлях, сацыялістычны, аказаўся тупіковым. Дастаткова параўнаць хаця б ГДР з ФРГ, Паўночную і Паўднёвую Карэі, Тайвань і КНР. Таму трэба ўсім (і камуністам, і дэмакратам, і лібералам) спакойна сесці і разабрацца, што прымальнае для нашай рэспублікі, што мы можам ужо сёння рухаць, выкарыстоўваючы агульную згоду і разуменне. А такога вельмі шмат: прыватызацыя муніцыпальнай уласнасці, бытавой сферы, гандлю.

Гэтай працы ёсць як мінімум на 2 гады. Праблемы буйной дзяржаўнай вытворчасці таксама можна раскладваць, што называецца, па паліцах і крок за крокам іх вырашаць. І камуністы, і дэмакраты, я думаю, разумеюць, што сённяшні навукова-тэхнічны ўзровень гэтых буйных прадпрыемстваў надзвычай нізкі, і тут трэба разам займацца гэтай праблематыкай. Ёсць ключавыя пазіцыі ў эканоміцы, якія павінны застацца за дзяржавай, і яны падыходзяць як камуністам, так і дэмакратам. І тыя, і другія разумеюць, што асноўныя заводы, якія цяпер даюць прыбытак у бюджэт, сёння павінны застацца пад эгідай дзяржавы...

Ёсць і палітычныя пытанні, якія сёння маглі б быць прыведзены да адной роўніцы рознымі палітычнымі сіламі: тыя ж Саветы — нельга іх разбураць, не прапаноўваючы новага механізма. Такімі вось крокамі, адзін за адным, мы маглі б выключыць вельмі многа супярэчнасцей, якія перашкаджаюць нам сёння рухацца.

**— Як вы ацэньваеце апошнія рашэнні ў Еўрапарламенце адносна адтэрміноўкі ратыфікацыі дагавора з Беларуссю?**

— Гэтае рашэнне было практычна ўвасоблена ў жыццё раней, а цяпер было як бы афіцыйнае аб'яўленне адносінаў ЕС да Беларусі. Наша палітыка ўжо даўно прывяла да такой сітуацыі... Мне, як чалавеку, здаецца проста дзікай такая сітуацыя, калі хлопцы з дубінкамі і шчытамі пачынаюць насіцца па горадзе, пачынаюць біць студэнтаў і іншых...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, вы былі ў эпіцэнтры многіх сёлетніх мітынговых падзей і, відаць, бачылі, як у грамадстве ідзе расслаенне і выяўляюцца больш жорсткія настроі. Ці бачыце вы якое выйсце з гэтага, каб зняць супярэчнасці, якія ўзнікаюць?**

— Выйсце адзінае і простае. Трэба садзіцца за «круглы стол», аб якім гаворыцца ўжо два гады, і знаходзіць тыя балючыя праблемы, якія трэба вырашыць... Я, аднак, разумею, што ёсць і іншыя сілы, якія дзейнічаюць па прынцыпу ўсё большай жорсткасці для таго, каб адцягнуць увагу ад эканамічных правалаў. Але хай ніхто не спадзяецца, што калі мы давядзём сітуацыю да процістаяння, да крыві, то хтосьці здолее вылавіць у бруднай вадзе сабе рыбку. Не. Такія палітыкі нікому не патрэбны, і ніводзін з іх не будзе мець ніякай падтрымкі. Таму калі хтосьці сёння думае аб вялікай палітыцы, ён мусіць прыйсці за «круглы стол» не так, як раней прыходзілі ў парламент — з палкамі і процівагазамі, не як выходзяць на плошчу — са шчытамі і дубінкамі, а прыйсці з тым, што ёсць у галаве, і з гарачым жаданнем выправіць гэтую сітуацыю, зняць гэтую жорсткасць.

**— Ці можа Вярхоўны Савет стаць цэнтрам, адкуль зыходзіла б запрашэнне на такі «круглы стол»?**

— Я думаю, што ён стане такім кансалідуючым цэнтрам.

**— Тым не менш, у адносінах да Вярхоўнага Савета гучыць часам жорсткая крытыка. Нават ваш калега па фракцыі Анатоль Лябедзька прапанаваў парламенту самараспусціцца. Вы, дарэчы, падтрымалі яго?**

— Не, я за гэта не галасаваў. Я ўжо праходзіў у жыцці такі этап, калі хацеў сысці... Сыход не вырашае праблем. Так дзейнічаць мы не маем права...

**— А якая абстаноўка ў Вярхоўным Савеце і вакол яго пасля апошняга выступлення С. Шарэцкага?**

— Я не думаю, што яна можа рэзка памяняцца... У рэшце рэшт, Сямён Георгіевіч сказаў тое, што думала большасць, што выклікае трывогу, што патрабуе разгляду і прыняцця рашэння. Далей хавацца па-страусінаму немагчыма. Я разглядаю гэтае выступленне як заклік сесіі, падумаць над будучыняй, узважыць усё, адкінуўшы амбіцыі.

**— Такім чынам, падагульняючы гэтую тэму, скажыце, ці бачныя для вас шляхі да грамадскай кансалідацыі, аб якой мы гаварылі?**

— Так, хацелася б іх бачыць. І на першы крок у гэтай кансалідацыі павінен падштурхнуць стан нашай эканомікі, ён павінен прымусіць задумацца некаторыя гарачыя галовы. Такая магчымасць ёсць, шляхі да яе ёсць. Калі рабіць паступовыя крокі да эканамічнай стабілізацыі, то, я думаю, гэта пасадзейнічае і палітычнай стабілізацыі ў нашым грамадстве.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ*

# РАСІЯ «СЯДЗІЦЬ НА ЧАМАДАНАХ»

**Другі тур у матчах чэмпіянату Еўропы па футболу, які праходзіць у Англіі, стаў для многіх каманд лебядзінай песняй.**

Першымі «пакаваць чамаданы» ўзяліся румыны пасля другога запар пройгрышу. На гэты раз сваім балканскім суседзям — балгарам — 0:1. І цяпер ужо нават перамога з любым лікам над іспанцамі не дае ім ніякіх шанцаў. Дарэчы, самі ж іспанцы аказаліся таксама ў незайздросным становішчы. Пасля дзвюх сустрэч — два ачкі і верагоднасць трапіць у чвэрцьфінал не вельмі вялікая. Цяпер ім трэба адпраўляць у накаўт румын і чакаць, як згуляюць балгары з французамі.

**Турнірнае становішча ў групе «В»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Францыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 2. Балгарыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 3. Іспанія | 2 | 0 | 2 | 0 | 2-2 | 2 |
| 4. Румынія | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-2 | 0 |

**18 чэрвеня**: Францыя — Балгарыя; Румынія — Іспанія

Другім няўдачнікам стала зборная Турцыі, якая таксама абедзве сустрэчы прайграла. Апошнюю — партугальцам з лікам 0:1. А вось зборная Харватыі ў групе «Д» ужо прабілася ў чвэрцьфінал, пасля прыгожай перамогі над датчанамі — 3:0

**Турнірнае становішча ў групе «Д»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Харватыя | 2 | 2 | 0 | 0 | 4-0 | 6 |
| 2. Партугалія | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-1 | 4 |
| 3. Данія | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-4 | 1 |
| 4. Турцыя | 2 | 0 | 0 | 2 | 0-2 | 0 |

**19 чэрвеня:**
Харватыя — Партугалія
Турцыя — Данія

На чамаданах сядзіць і зборная Расіі. У групе «С», якую арганізатары турніру і журналісты ахрысцілі «групай смерці», расіяне ў параўнанні з італьянцамі і немцамі выглядалі вельмі бляклa. І як вынік, другое паражэнне ад зборнай Германіі — 0:3.

Цяпер толькі цуд можа вывесці падначаленых Алега Раманцава ў чвэрцьфінал. Пры ўмове, што Расія выйграе ў Чэхіі з буйным лікам, а немцы выйграюць у італьянцаў.

**Турнірнае становішча ў групе «С»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Германія | 2 | 2 | 0 | 0 | 5-0 | 6 |
| 2. Чэхія | 2 | 1 | 0 | 1 | 1-4 | 3 |
| 3. Італія | 2 | 1 | 0 | 1 | 3-3 | 3 |
| 4. Расія | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-5 | 0 |

**19 чэрвеня**: Расія — Чэхія; Італія — Германія

А вось у групе «А» пакуль усе каманды захоўваюць планы на выхад у наступны этап розыгрышу. Перавага, праўда, на баку зборных Галандыі і Англіі, якія маюць па адной перамозе. Аднак сёння яны сустрэнуцца ў вочным паядынку. Магчыма, камусьці прыйдзецца саступіць, хоць абедзве зборныя задавальняе і нічыя.

**Турнірнае становішча ў групе «А»**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Англія | 2 | 1 | 1 | 0 | 3-1 | 4 |
| 2. Галандыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-0 | 4 |
| 3. Швейцарыя | 2 | 0 | 1 | 1 | 1-3 | 1 |
| 4. Шатландыя | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-2 | 1 |

**18 чэрвеня:**
Шатландыя — Швейцарыя;
Галандыя — Англія.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**